Сяргей Чыгрын

# Слонімшчына

## Гістарычныя нататкі



Мінск
«Беларусь»
2019

УДК 908(476.6-21 Слонім)
ББК 26.89(4Беи)
Ч97

*У кнізе выкарыстаны фотаздымкі
з асабістага архіва аўтара і з сайтаў інтэрнэту*

**Чыгрын, С. М.**
Ч97 Слонімшчына : гістарычныя нататкі / Сяргей Чыгрын. — Мінск : Беларусь, 2019. — 127 с. : іл.
ISBN 978-985-01-1317-7.
Аўтар адпраўляе чытача ў падарожжа ў часе. Ён знаёміць з мінулым і сучасным Слоніма і яго ваколіцамі. Фотаздымкі і малюнкі дазваляюць праўдзіва паказаць тое, што было ўчора і шмат гадоў таму назад. Тых, хто захоплена ўглядаецца ў сівую мінуўшчыну Слонімшчыны, чакаюць новыя адкрыцці і сустрэчы.
Для шырокага кола чытачоў.

**УДК 908(476.6-21 Слонім)**
**ББК 26.89(4Беи)**

**ISBN 978-985-01-1317-7**



## Ад аўтара

Слонім — спрадвечны горад над Шчарай — мае вялікую і багатую гісторыю. Для мяне найлепшым шчасцем з'яўляецца тое, што гэта мой родны горад, дзе жылі мае продкі, дзяды, прадзеды. Горад, дзе мяне матуля яшчэ дашкольнікам вадзіла па яго завулках і вуліцах, тады мне незнаёмых, старых і загадкавых. Таму да самага апошняга імгнення я застануся слонімцам, дзе б ні жыў, ні працаваў і ні дыхаў. І заўсёды буду ступаць па слонімскай зямлі неяк па-асабліваму ўсцешна і радасна, лёгка і шчыра. І буду гэтую зямлю даследаваць і пра яе заўсёды пісаць. Пісаць так, як яно было і як ёсць.

Слонімшчына ва ўсе стагоддзі вызначалася цікавымі разнастайнымі гістарычнымі падзеямі. Нездарма яе любілі многія пісьменнікі Беларусі. Бываў на Слонімшчыне і пісьменнік Уладзімір Караткевіч. Упершыню ён наведаўся сюды летам 1963 года. Разам з ім прыязджалі Янка Брыль і Уладзімір Калеснік. Пазней пра гэтую паездку на Слонімшчыну і пра сваіх сяброў пісьменнік напіша ў артыкулах «Мой друг і мая зямля» і «Шляхі ў палях». Што ж захапіла ў Слоніме нашага вялікага літаратара ў той першы прыезд? «Быў Слонім, роўны канал і крэмавыя старыя будынкі, ля муроў якіх, у закутках, раслі каравыя старажытныя каштаны, — пісаў Уладзімір Караткевіч. — У Слонімскім музеі ўразіла мяне адна рэч. Я тады пасаромеўся пра яе сказаць. А шкада, можа б, насмяяліся. Уразіла каменная галава язычніцкага бога. Невядомы скульптар, высякаючы яе, відавочна, меў на ўвазе Янку. Аблічча было такое самае — моцнае і масіўнае. Вачэй, што праўда, не хапала. Разумных чалавечых вачэй. Што зробіш, продкі таксама ўсяго не прадбачылі… І толькі гэтае ўнутранае падабенства дало мне тады шчаслівае адчуванне рэальнасці таго фантастычнага характва, што буяла вакол аднаго з найпрыгажэйшых гарадоў і адной з найпрыгажэйшых вёсак Беларусі — Кракоткі, і замкаў, і старых муроў».

Што датычыць вёскі Кракотка, дык пісьменнік яе сапраўды вельмі моцна палюбіў. У артыкуле «Шляхі ў палях» ён зноў прыгадвае гэтую вёску і яе людзей: «Мы ў Малой Кракотцы, у

сябра-настаўніка, дужа добрага чалавека. Малая Кракотка — адна з найпрыгажэйшых вёсак, што мне давялося бачыць за ўсё жыццё...».

Сапраўды, Кракотка — вельмі прыгожая вёска з багатай гісторыяй, нацыянальнымі традыцыямі, са знакамітымі людзьмі. Яшчэ ў 1927 годзе тут была адкрыта беларуская бібліятэка імя Янкі Купалы. Гэта першая ў Беларусі ўстанова, якой было прысвоена імя народнага песняра. У такім прыгожым і багатым на таленты куточку Слонімшчыны не пабываць і не палюбіць яго Уладзімір Караткевіч проста не мог.

Ён не толькі бываў на Слонімшчыне, але і шчыра сябраваў з многімі слонімцамі. У добрых сяброўскіх адносінах ён быў з Анатолем Іверсам, Іванам Чыгрыным, Сцяпанам Міско і Міколам Грынчыкам, які быў родам з Быценя. Дарэчы, у маі 1967 года разам з Міколам Грынчыкам Уладзімір Караткевіч зноў наведаў Слонім і Быцень, а таксама вёску Мілавіды, дзе ў 1863 годзе адбыўся бой паміж паўстанцамі і царскімі войскамі.

Вельмі шчыра сябраваў Уладзімір Караткевіч са слонімскім літаратарам Алегам Лойкам. Разам яны аб'ездзілі амаль усю Беларусь, прымалі ўдзел у літаратурных вечарах і сустрэчах. Бываючы ў Слоніме, пісьменнік заўсёды гасціў у бацькоўскай хаце Алега Лойкі, якая знаходзіцца на Зялёнай вуліцы.

У жніўні 1981 года Уладзімір Караткевіч прыехаў у Слонім разам з жонкай Валянцінай Браніславаўнай і гісторыкам Анатолем Кулагіным. Тады Валянціна Караткевіч і Анатоль Кулагін збіралі матэрыялы для сваёй будучай кнігі «Помнікі Слоніма». Яны спыніліся ў хаце Алега Лойкі, дзе за багатым сталом вялі гутарку пра гісторыю Слоніма. А пасля Валянціна Караткевіч паклікала пісьменнікаў на вуліцу і сфатаграфавала іх на памяць.

Вялікую дапамогу ў напісанні кнігі «Помнікі Слоніма» аказваў жонцы Уладзімір Караткевіч. Кніга атрымалася ўнікальнай, да сённяшняга дня ніхто падобнай пра помнікі Слоніма так і не напісаў. На жаль, Валянціна Караткевіч сваю кнігу так і не пабачыла. Яе не стала ў пачатку 1983 года, а кніга выйшла з друку праз паўгода.

Бываючы ў Слоніме, Уладзімір Караткевіч любіў пахадзіць па берагах Шчары і канала Агінскага, а таксама завітаць у Слонімскі краязнаўчы музей. У сваім знакамітым нарысе «Зямля пад белымі крыламі» ён пісаў: «Ціхая даліна Шчары. Песцяць вока зялёныя лугі, узгоркі, лясы. І на беразе, як цацка, Слонім. Сямісотгадовы юнак. Чыстая вада з зялёнымі косамі водарасцяў, што звіваюцца ад хуткасці, абмывае яго, бягуць угору і ўніз маляўнічыя вулачкі, бялеюць вежы. Галоўным чынам беларускае



барока XVI — XVII стст., але не вычварнае і раскошнае, а простае і строгае. Мясцовы густ.

Тут найлепшы мясцовы музей ва ўсёй Беларусі, музей, які не саступіць і абласному. Прынамсі, ён быў такі, пакуль жыў яго заснавальнік і дырэктар на працягу дзясяткаў гадоў Іосіф Стаброўскі...

А вакол колькі ўсяго! Канал, пабудаваны дзядзькам кампазітара Агінскага, цікавы папярова-кардонны камбінат у Альбярціне, унікальная ў сваёй прыгажосці і суровасці не толькі на Беларусі, але і ва ўсёй Еўропе царква-крэпасць у Сынковічах, такая сумнаадлучаная ад усяго сярод масіваў яблыневых садоў. І комплекс былога ўніяцкага манастыра ў Жыровічах (XVII ст.) з неацэнным сваім жывапісам...».

Захапляўся Уладзімір Караткевіч і Бяздонным возерам, цікавіўся старажытна-славянскім могільнікам V—IX стагоддзяў, што каля вёскі Клепачы. Пра гэта ён пісаў у сваім рамане «Хрыстос прызямліўся ў Гародні»...

Гэта я згадаў толькі пра аднаго пісьменніка Беларусі, які любіў і захапляўся маёй Слонімшчынай. А такіх прыкладаў можна прывесці безліч.

Слонім заўсёды быў багаты на розныя падзеі. Але гэтыя падзеі ў адной кнізе адлюстраваць проста немагчыма. Асобныя ж нататкі пра тыя падзеі, якія адбываліся на Слонімскай зямлі, а таксама пра людзей, іх захапленні і працу, радасныя і сумныя жыццёвыя эпізоды, я паспрабаваў зафіксаваць у гістарычных мініяцюрах і фотаздымках.

## Першыя людзі на Слонімшчыне



Першыя людзі на тэрыторыі Слонімшчыны пачалі з’яўляцца яшчэ 14 тысяч гадоў таму, калі край наш уяўляў сабой тундравую і лесастэпавую прастору, праз якую мігравалі статкі паўночных аленяў. Самыя раннія стаянкі паляўнічых на паўночнага аленя ў нашым краі былі каля Едначоў, Камлявіч і Шылавіч, дзе знойдзены крамянёвыя прылады працы, якія выкарыстоўваліся старажытным чалавекам. Інтэнсіўнае ж засяленне Слонімшчыны пачалося толькі ў эпоху мезаліту (сярэдняга каменнага веку) — каля 10 тысяч гадоў таму.

## Гарадзішча каля Збочна

Каля вёскі Збочна да сённяшніх дзён захавалася гарадзішча пачатку другога тысячагоддзя нашай эры з магутнымі кальцавымі валамі і равамі. Цэнтральная пляцоўка гарадзішча 45×60 метраў захоўвае культурныя напластаванні. Напластаванні адносяцца да XII—XIII стагоддзяў.




З паўднёвага ўсходу да гарадзішча прымыкала селішча з кружэльнай керамікай, а з поўначы — грунтовы могільнік, побач з якім меліся і курганы, раскапаныя Я. Міхайлоўскім у канцы XIX стагоддзя. Само гарадзішча не раскопвалася.

## Слонімскі ідал

Нашы продкі пакланяліся язычніцкім ідалам. Адзін з такіх ідалаў захоўваецца ў Слонімскім краязнаўчым музеі. Слонімскі ідал быў знойдзены пры пракладцы новай вуліцы на ўскрайку Слоніма на глыбіні 0,5 метра ў 1934 годзе, па іншай інфармацыі — у 1937 годзе. Ён зроблены з валуна чырвона-шэрага колеру ў выглядзе мужчынскага торса без рук. Вышыня ідала складае 46 см, шырыня — 22, таўшчыня — 15 см. Фігура рэльефная з усіх бакоў. Твар даволі плоскі, з завостранай бародкай, але без вусоў і з шырокім носам з гарбінкай; добра абазначана шыя; выразна пракрэслены вочы і рот. Ніз скульптуры клінападобны — відаць, таму,





што яе ўстаўлялі ў спецыяльны пастамент. Слонімскі ідал мае аналагі з паганскімі скульптурамі балтаў. Гэта вельмі каштоўны экзэмпляр. Яго да сённяшніх дзён вывучаюць археолагі, выказваючы розныя думкі і меркаванні. Некаторыя лічаць, што слонімскі ідал адносіцца да першага тысячагоддзя.

## Гісторыя Слоніма пачынаецца з 1036 года

Некалі пры ўездзе ў Слонім стаяла такая шыльда, як на здымку. Яна ўсім нагадвала, што Слонім




быў заснаваны ў 1036 годзе. І гэта сапраўдная дата. А ў Іпацьеўскім летапісе Слонім прыгадваецца пад 1252 годам пад назвай Услонім, Васлонім. Але дату, згаданую ў Іпацьеўскім летапісе, нельга лічыць датай заснавання Слоніма. Пад 1252 годам у Іпацьеўскім летапісе, напрыклад, прыгадваецца і Ваўкавыск, які некалькі гадоў таму адзначыў сваё 1000-годдзе. Таму смела можна казаць (і гэта будзе правільна), што ў 2036 годзе гораду над Шчарай будзе 1000 гадоў.

## Памылка на знаку «Герб Слоніма»

14 лістапада 2014 года на плошчы каля Слонімскага райвыканкама быў адкрыты мемарыяльны знак «Герб Слоніма». Справа ў тым, што Слонім пад 1252 годам упершыню згадваецца ў Іпацьеўскім летапісе, але гэта дата не з’яўляецца датай заснавання горада. Наш Слонім значна старэйшы за згаданую на знаку «Герб горада» лічбу 1252. Слонімскія палі прыгадваюцца (а значыць, ужо існаваў Слонім) пад



1036–1040 гадамі, дзе кіеўскі князь Яраслаў Уладзіміравіч спаткаўся з літвінамі... Пра гэта піша і польскі гісторык, аўтар 12-томнай «Гісторыі Польшчы» Ян Длугаш (1415–1480). Пра гэта існуе і шмат іншых архіўных і гістарычных крыніц. Таму на выдатным помніку павінен быў быць такі тэкст: 1252 — першая згадка ў Іпацьеўскім летапісе. Тады гэта было б правільна.

## Слонімскі замак

Слонімскі замак намаляваў краязнавец, паэт, археолаг Васіль Супрун (1926–2007), які даследаваў гісторыю Слоніма, апублікаваў шэраг гісторыка-археалагічных матэрыялаў. Такім ён уяўляў слонімскі замак на беразе Шчары. Іншым замак і не мог быць. Краязнавец займаўся археалагічнымі раскопкамі. Усе свае веды ён прымяніў пры даследаванні старажытнага Слоніма. Таму мы смела можам пагадзіцца, што сапраўды слонімскі замак шмат стагоддзяў таму так прыблізна і выглядаў.

## Пра раскопкі ў Слоніме

Заснавальнік Ваўкавыскага ваенна-гістарычнага музея, гісторык і археолаг Георгій Пех у 1953 годзе атрымаў дазвол на археалагічныя раскопкі ў Слоніме. І ён іх правёў. Пасля раскопак Георгій Пех напісаў справаздачу і здаў яе ў Інстытут гісторыі Акадэміі навук БССР. Вось некалькі асобных абзацаў з той справаздачы:

«У 1038 годзе з вызваленнем Прынёмання ад літоўцаў і яцвягаў Слонім становіцца вядомым як Васлонім ці Услонім. У 1040 годзе Яраслаў І разбіў літоўцаў на берагах Шчары (у ваколіцах Слоніма) і прымусіў іх плаціць даніну. Паводле дадзеных польскіх хронік, Слонім у 1241 годзе быў разбураны мангола-татарскімі полчышчамі Койдана, пасля чаго трапіў пад уладу літоўскага князя Эрдзівіла Рынгольдавіча. У 1249 годзе галіцкі князь Данііл распачаў няўдалы паход на Слонім і Ваўкавыск, а праз тры гады выслаў зноў у паход на Слонім свайго сына Льва» і г. д. Дык як можа быць год 1252 годам










Раскопкі ў Слоніме, 1959 год

заснавання Слоніма, як напісана на мемарыяльным знаку «Герб Слоніма»?.. І такіх фактаў можна прывесці дзясяткі. Дарэчы, раскопкі Пех у Слоніме праводзіў і ў 1959 годзе.

## Першая кніга пра Слонім

Упершыню кніга пра Слонім была напісана і выйшла з друку на рускай мове ў 1962 годзе. Яе аўтарам быў наш зямляк з вёскі Мялькавічы доктар гістарычных навук Васіль Іванавіч Мялешка (на здымку). На жаль, яго ўжо даўно няма на гэтым свеце.

Кніжка гэтая была невялікая — усяго 79 старонак. Але распачыналася яна так (і гэта цікавы факт):





АКАДЭМІЯ НАВУК
Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі
ІНСТЫТУТ ГІСТОРЫІ

АКАДЕМИЯ НАУК
Белорусской Советской Социалистической Республики
ИНСТИТУТ ИСТОРИИ

ОТКРЫТЫЙ ЛИСТ

Выдан настоящий открытый лист Институтом истории Академии наук БССР директору Волковысского военно-исторического музея Георгию Иосифовичу ПЕХУ на право производства археологических исследований в г. Слониме, Гродненской области.

На основании открытого листа тов. Г.И.Пеху уполномочен производить топографическую съемку / планы, нивелировку/, фотографирование и зарисовку древних стоянок, селищ, городищ, могильников, курганов, валов, старинных зданий и других древностей, а также производить любые земляные работы, связанные с изучением указанных древностей, руководствуясь при осуществлении этих работ и составлении отчетности существующими положениями.

Всем органам Советской власти, государственным и общественным учреждениям и частным лицам надлежит оказывать всемерное содействие тов. Г.И.Пеху в интересах науки и успешному выполнению возложенных на него поручений.

Основание: Устав Академии наук БССР п.3, §§ б в и, утвержденный постановлением Совета Министров БССР от 8 апреля 1957 г., № 178.

/Канд.ист.наук И.С.Кравченко/

/Канд.ист.наук К.М.Поликарпович/



6 июня 9
396

ЗАВЕДУЮЩЕМУ ВОЛКОВЫССКИМ РАЙОТДЕЛОМ КУЛЬТУРЫ

тов. ДИДЕНКО В.Г.

РАСПОРЯЖЕНИЕ

Направить с 1-го июня по 30 июня 1959 года директора Волковысского военно-исторического музея им. П.И.Багратиона тов. Пех Г.И. в распоряжение Слонимского краеведческого музея для проведения археологических раскопок в г. Слониме.

/ЗАМ.НАЧАЛЬНИКА ОБЛАСТНОГО УПРАВЛЕНИЯ КУЛЬТУРЫ – /Н.ГОРАКИН/.

Дакументы на дазвол Георгію Пеху праводзіць раскопкі ў Слоніме ў 1953 годзе

«Первое летописное упоминание о Слониме относится к 1040 году...». Гэта яшчэ адзін гістарычны доказ. Нават тады не памыляліся, а цяпер пішуць, што ўздумаецца і без узгаднення з гісторыкамі, краязнаўцамі і архівамі. Крыўдна за наш старажытны Васлонім...




Першая кніга пра Слонім





## Альгерд і Вітаўт, XIV—XV стагоддзі

Пры князю Альгерду (1296–1377), які быў вялікім князем Вялікага Княства Літоўскага з 1345 да 1377 года, Слонімшчына заставалася ўдзельным княствам і ахоўвалася яго братам князем Кейстутам (1297–1382). Пасля таго як у Крэве ў 1382 годзе ён быў задушаны, Слонім перайшоў пад непасрэдную апеку князя Вітаўта (1350–1430). Вітаўт неаднаразова наведваў Слонім і ваколіцы. Прыязджаў ён сюды ў 1407 і 1409 гадах. Ды і пасля крэўскага астрогу Вітаўт ратаваўся на Слонімшчыне, меў тут надзейных сяброў і прытулак.

## Так распісваўся Леў Сапега

Некалі мой зямляк доктар гістарычных навук Васіль Іванавіч Мялешка падараваў мне гэты фотаздымак. На ім адлюстраваны канцлер Вялікага Княства Літоўскага слонімскі староста Леў Сапега (1557–1633), а пад фотаздымкам — яго аўтограф. Вось так распісваўся Леў Сапега. І свой подпіс ставіў пад усе вялікія загады канцлера.



## Жыровічы, 1870–1890-я гады

Рэдкі і якасны здымак Жыровіч канца XIX стагоддзя. Здымак захоўваўся ў Віленскім музеі Івана Луцкевіча. Пра гэта нагадвае штамп уверсе здымка справа. Як трапіў рэдкі здымак у музей Луцкевіча і хто яго рабіў — застаецца загадкай. Ведаю толькі, што ў стварэнні музея прымаў удзел слонімскі паэт Гальяш Леўчык (1880–1944). Ён збіраў усё беларускае і амаль бясплатна дарыў музею. Магчыма, і здымак старых Жыровіч перадаў у Вільню Гальяш Леўчык. Але гэта маё суб'ектыўнае меркаванне. Тым не менш, здымак цікавы. На ім добра бачны і агароды, плот, дахі дамоў, і сам сабор — усё дагледжана і акуратна. Адным словам, нядрэнна выглядалі Жыровічы ў пазамінулым стагоддзі.



## Жыровіцкая ікона Божай Маці

Вёска Жыровічы з вядомым у свеце Свята-Успенскім манастыром знаходзіцца ў дзесяці кіламетрах ад Слоніма. Штогод манастыр наведвае больш за 60 тысяч турыстаў і вернікаў з усяго свету. Прыязджаюць у сам манастыр, а таксама, каб памаліцца Жыровіцкай іконе Божай Маці, якая захоўваецца ва Успенскім саборы.

Паводле падання, у 1470 годзе у кроне дзікай грушы, што расла ў лесе над крыніцай, пастушкі знайшлі абразок. Ад яго зыходзіла прамяністае ззянне, якое і прыцягнула ўвагу пастушкоў. Абразок яны занеслі ў маёнтак земскага падскарбія Вялікага Княства Літоўскага Аляксандра Солтана. Вяльможа не надаў асаблівага значэння іх аповеду, але ікону ўзяў і паклаў у куфэрак. Праз некаторы час Солтан вырашыў паказаць знаходку сваім гасцям. Аднак, адкрыўшы скрынку, іконы ён там не знайшоў. Неўзабаве тыя ж пастушкі зноў на тым самым дрэве ў лясным гушчары ўбачылі цудоўны абразок і зноў занеслі яго Аляк-





Немагчыма нават пералічыць, колькі славутых беларускіх магнатаў і мецэнатаў маліліся іконе Жыровіцкай Божай Маці. Перад ёю станавіліся на калені Астрожскія, Агінскія, Палубенскія, Войны, Сапегі, Солтаны, Радзівілы, Слізені — ды ўсіх не пералічыць.

сандру Солтану. Задумаўся ён аб цудоўнай з'яве і пабудаваў на гэтым месцы драўляную цэркаўку ў гонар Прасвятой Багародзіцы.

Пасля побач з храмам паўстала селішча. Цудатварэнні, што адразу пачаліся ад абразка, зрабілі Жыровічы месцам паломніцтва.

У 1520 годзе ў Жыровічах здарыўся пажар, падчас якога згарэў храм з абразком. Але аднойчы сялянскія дзеці недалёка ад згарэлага храма ўбачылі Дзеву незвычайнай прыгажосці, якая сядзела на камені ў незямным ззянні. Вестка абляцела ўсе Жыровічы. Калі людзі падышлі да каменя, то ўбачылі на ім запаленую свечку і цудатворны абразок, амаль не пацярпелы ад пажару.

Радасць людзей, якія знайшлі страчаную святыню, была вялікай, і ў гонар з'яўлення Божай Маці яны ўзвялі храм, пасадам якога з'яўляецца той самы камень, на якім дзеці ўбачылі Найсвяцейшую Дзеву Марыю.

Перад іконай за 500 гадоў укленчвалі мільёны людзей з усяго свету. І толькі Прачыстая ведае (як пісаў айцец Леў Гарошка), колькі сыноў і дачок звярталіся да яе і каму ікона дапамагла.

Шмат разоў іконе Жыровіцкай Божай Маці маліўся вялікі канцлер Вялікага Княства Літоўскага Леў Сапега.

Каралі Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай вельмі часта і пакорна схілялі перад іконай свае галовы. Уладзіслаў IV разам з каралевай наведаў Жыровічы 9 снежня 1644 года і быў там два дні. У 1667 годзе кароль Рэчы Паспалітай Ян II Казімір Ваза (1609–1672) аддаў Жыровіцкаму манастыру вёскі Баравікі і Була. Ён таксама прыязджаў пакланіцца іконе перад паходам на Багдана Хмяльніцкага ў час антыфеадальнай вайны ў 1648–1651 гадах. Кароль Ян Казімір заклікаў: «Мы вечна павінны з пашанаю аддаваць чэсць гэтаму абразу Божай Маці, бо праз Яе заўсёды атрымліваюцца благаславенствы і паводзіны дзяржаве». І кароль польскі Ян III Сабескі (1629–1696) двойчы наведаў Жыровічы: першы раз у 1683 годзе перад бітвай пад Венай, а другі раз разам з каралевічам Якубам у 1688 годзе. Амаль кожны манарх з дынастыі Ягелонаў таксама пабываў у Жыровічах.

Не абмінуў Жыровічы і кароль Польшчы Аўгуст II Сас (1696–1763); Станіслаў Аўгуст Панятоўскі (1732–1798) таксама пакорна ўкленчваў перад Жыровіцкай Багародзіцай...

І ў XXI стагоддзі ў Жыровічы прыязджаюць палітыкі, рэлігійныя дзеячы і прадстаўнікі навукі і культуры з усіх куткоў свету.

А абразок Жыровіцкай Божай Маці зберагаецца ва Свята-Успенскім саборы.

Жыровіцкая святыня цікавая не толькі як унікальны праваслаўны рэлігійны асяродак, але і як помнік архітэктуры і гісторыі, як сімвал складанага і нялёгкага лёсу беларусаў. Маці Божая Жыровіцкая абвешчана апякункай і заступніцай беларускага народа.

На месцы з'яўлення нерукатворнага абраза Багародзіцы б'юць — роўна з тае пары — цудатворныя крыніцы.

Кожны, хто бывае ў Жыровічах, абавязкова набірае з сабою вады з гэтай крыніцы. Наш зямляк і паэт Алег Лойка з крыніцы і пачынае сваю паэму пра Жыровічы «Посах душы»:

*Стаяла ў лесе крыніца,*
*А ў крыніцы — вадзіца,*
*Над вадзіцай — груша,*
*Да грушы — душою рушу.*



*Рушу я да крыніцы —*
*Вады святое напіцца,*
*Рушу да светлае грушы —*
*Светла на грушу дзівіцца.*
*Між пастушкамі стану,*
*Малітву з сэрца дастану,*
*Пець, пакуль сілы хваціць,*
*Жыровіцкай Багамаці...*

## Да Касцюшкі ў Мерачоўшчыну

Дом-музей кіраўніка паўстання 1794 года, нацыянальнага героя Беларусі, Польшчы і ЗША, ганаровага грамадзяніна Францыі Тадэвуша Касцюшкі (1746–1817) заўсёды адчынены для наведвальнікаў. У выхадныя і рабочыя дні спяшаюцца да Касцюшкі турысты з усяго свету, а таксама беларусы з розных кут-







коў нашай Бацькаўшчыны. Здалёк іх вітае прыгожы помнік героя, аўтарам якога з'яўляецца скульптар Генік Лойка. І перш чым наведаць дом-музей, усе спыняюцца каля помніка Тадэвушу Касцюшку і каля каменя з яго барэльефам.

Прыгожа і вольна ў Мерачоўшчыне. Здаецца, што з дома хутка выйдзе сам Тадэвуш Касцюшка, прысядзе на лаўку, што побач з домам, і будзе доўга любавацца палацам Пуслоўскіх, шчыра заклікаць усіх гасцей да сябе ў дом. Дарэчы, першае ўпамінанне фальварка датуецца 23 кастрычнікам 1597 года, калі быў складзены інвентар маёнтка Косава, запісаны ў актах Слонімскага земскага суда.

## Касцёл канонікаў латэранскіх, XVII стагоддзе

Ад касцёла канонікаў латэранскіх XVII стагоддзя засталася нам на памяць вось гэтая старажытная гравюра. А сам прыгажун-касцёл не захаваўся. Пасля Люблінскай (1569) і Брэсцкай (1596) уній на Беларусі з'явіліся каталіцкія ордэны. З 1630 года ў Слоніме былі вядомы бернардзінцы, з 1645 года — бернардзінкі, з 1650 года — канонікі латэранскія і бенедыкцінкі, з 1660 года — францысканкі, з 1680 года — дамініканцы, з 1717 года — езуіты. Яны будавалі вакол Слонімскага замка свае кляштары. Але час, войны і людзі іх зруйнавалі.



## Слонімская губерня

Слонімская губерня была ўтворана загадам імператрыцы Кацярыны II 14 снежня 1795 года пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай і далучэння краю да Расійскай імперыі. Слонімская губерня складалася з зямель Слонімскага, Гарадзенскага, Берасцейскага, Навагрnative, Ваўкавыскага, Лідскага, Пружанскага і Кобрынскага паветаў.



На тэрыторыі Слонімскай губерні пражывала 607 986 чалавек. Слонімская губерня праіснавала толькі адзін год. У снежні 1796 года, паводле ўказу імператара Паўла I, Слонім становіцца павятовым горадам у Літоўскай губерні. З верасня 1801 года, паводле ўказу імператара Аляксандра I, ён увайшоў у склад Гродзенскай губерні.




## Ратуша

На вуліцы Савецкай, 6 у Слоніме, насупраць помніка-танка, знаходзіцца двухпавярховы стары будынак. У ім з 1988 года размяшчаецца раённая бібліятэка. Гэтае памяшканне каштоўнае тым, што яно было пабудавана ў другой палове XVIII стагоддзя і тут знаходзілася гарадская ратуша. Сам будынак з'яўляецца архітэктурным помнікам Слоніма, ён захаваў рысы барока. Пра слонімскую ратушу і яе гісторыю зусім не захавалася ніякіх успамінаў і матэрыялаў. З левага боку ад галоўнага ўваходу бібліятэкі на сцяне прымацавана шыльда, якая нагадвае, што гэта помнік архітэктуры ахоўваецца дзяржавай.



## Італьянская каханка Агінскага

Знаўцы мастацтва адразу пазнаюць гэты партрэт славутага ўкраінскага і рускага жывапісца XVIII — пачатку XIX стагоддзя Дзмітрыя Лявіцкага. На ім адлюстравана італьянская прымадонна Ганна Давія дэ Бернуці. Дзякуючы карціне Дзмітрыя Лявіцкага можна сёння пазнаёміцца з вобразам той жанчыны, якая ў свой час спявала на сцэнах слонімскага тэатра Міхала Казіміра Агінскага і гродзенскага тэатра Антонія Тызенгаўза. А яшчэ гэтая таленавітая прыдворная дама, куртызанка і авантурыстка вельмі любіла мужчын, асабліва таленавітых і багатых.

У 1776 годзе Ганна Давія дэ Бернуці выступала ў Варшаве. Там яна



пазнаёмілася з Міхалам Казімірам Агінскім (1730–1800). Фліртпаміж Ганнай і Міхалам скончыўся тым, што спявачка дала згоду выступаць на сцэне слонімскага тэатра і тры гады жыць у Слоніме.

Яна прыехала ў Слонім і пачала працаваць у тэатры Агінскага. Але раптам, па невядомых сёння прычынах, пагадненне паміж Агінскім і Ганнай Давія дэ Бернуцці губляе сілу і спявачка вяртаецца летам 1777 года ў Варшаву.

З Варшавы прыдворная дама едзе ў Гродна, дзе знаёміцца з Антоніем Тызенгаўзам (1733–1785). Ён прапаноўвае ёй працу ў сваім гродзенскім тэатры. І Ганна Давія дэ Бернуцці пагаджаецца. Потым яна едзе ў Санкт-Пецярбург, дзе мае вялікі сцэнічны поспех. І не толькі…

У Санкт-Пецярбургу куртызанка і спакусніца становіцца каханкай князя А. А. Безбародзькі. За яе «каханне» князь траціць на Ганну вялікія грошы: ён плаціць ёй кожны месяц па 8 тысяч залатых рублёў. А калі спявачка едзе на адпачынак у Італію, то забяспечвае яе не толькі грашыма, але і каштоўнасцямі. Пра гэта даведалася Кацярына ІІ і вельмі раззлавалася. За 24 гадзіны яна выслала красуню з Расіі.

Пасля Санкт-Пецярбурга Ганна Давія дэ Бернуцці зноў прыязджае ў Слонім і выступае на сцэне тэатра Агінскага. Гетман Агінскі пэўны час весела бавіць з ёй час… У 1792 годзе спакусніца-артыстка жыве і выступае ў Неапалі. Але ўжо не як спявачка, а як камедыйная артыстка. Яна пражыла 77 гадоў, і ў яе жыцці было шмат каго і што ўспомніць.

## Сэрца Міхала Казіміра Агінскага знаходзілася ў Слоніме

Шмат гадоў служыў настаяцелям Слонімскага фарнага касцёла Святога Андрэя дэкан Вітольд Жальветра. Дзякуючы яму ў 1990-х гадах помнік барока ўдалося выратаваць і аднавіць для вернікаў. Ад былога настаяцеля слонімскага касцёла Святога Андрэя я пачуў наступнае: «Хачу сказаць, што перад пачаткам рэстаўрацыі касцёла ў тыя 1990-я







гады тры гадзіны сем самазвалаў вывозілі з касцёла смецце і соль. Але перш чым соль вывезлі, мужчыны тры месяцы яе адбівалі. Вось у гэтым хламе і знайшлі шэсць мемарыяльных шыльдаў, якія раней месціліся на сценах касцёла. Многія з іх былі паколаныя. Знайшлі мы там і шыльдачку, прысвечаную вялікаму каталіцкаму дзеячу Пятру Скаргу. Аднавілі і замацавалі яе на сцяне касцёла. А аднойчы прыходзіць у касцёл адзін чалавек і кажа, што ў нішах касцельнага скляпення пахавана сэрца Міхала Казіміра Агінскага. Гэтае сэрца знаходзілася ў срэбным куфэрку з надпісам “Сэрца Агінскага”. Калі разбураўся касцёл, куфэрак укралі і вывезлі на Усход».

Сапраўды, перад смерцю гетман Міхал Казімір Агінскі сказаў, што «я належу вялікай Рэчы Паспалітай, але маё сэрца належыць Слоніму». Просьба гетмана была выканана.

## Руіны палаца Агінскіх, пачатак XIX стагоддзя

Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай і паўстання Тадэвуша Касцюшкі слонімская рэзідэнцыя Міхала Казіміра Агінскага канфіскуецца і хутка прыходзіць у заняпад. Апошнія гады жыцця Міхал Казімір Агінскі (памёр у 1800 годзе) правёў у сваіх палацах у Варшаве і ў Галенаве, дзе цешыў сябе музыкай і мастацтвам — тым адзіным, што ўтрымлівала яго пры жыцці.

У 1795 годзе тэатр Міхала Казіміра Агінскага ў Слоніме ўжо не існаваў. І калі ў 1818 годзе Слонім








наведаў рускі цар Аляксандр I і паэт, князь, «декабрист без декабря» Пётр Вяземскі, то ўбачылі яны толькі разваліны тэатра. Пазней Вяземскі пра тэатр з горыччу напіша: «Всё прах, всё воспоминания…».

Сёння ў Слоніме існуе канал Міхала Агінскага, вуліца Агінскага і на будынку драматычнага тэатра адкрыта мемарыяльная шыльда Агінскага як памяць пра асобу, якая некалі мела сваю «сядзібу музаў».

## Слонімскія габелены Агінскага

Гетман Вялікага Княства Літоўскага Міхал Казімір Агінскі ў свой час марыў стварыць ва ўласнай слонімскай рэзідэнцыі мініяцюрную копію Версаля. У садовым павільёне, які называўся «Залай багінь», было 12 габеленаў па 3 метры ў вышыню кожны, а таксама скульп-











туры тых, хто быў адлюстраваны на габеленах. А гэта Леда — каралева Спарты, рымская багіня Флора і г. д. Час і войны знішчылі палац Агінскіх у Слоніме. А праз два гады пасля смерці Агінскага, у 1802 годзе слонімскія габелены разам з іншымі рэчамі Агінскага былі выстаўлены ў Варшаве на аўкцыёне. Іх набыў Войцех Пуслоўскі (1762–1833). Так слонімскія габелены трапілі ў сям'ю Пуслоўскіх. З тых 12 габеленаў захавалася толькі 7. Кошт аднаго такога габелена сёння складае ад 500 тысяч долараў да аднаго мільёна.



## Драўляны пелікан, XVIII стагоддзе

Гэтаму драўлянаму пелікану, які захоўваецца ў Слонімскім краязнаўчым музеі імя Язэпа Стаброўскага, каля 300 гадоў. Яго ў свой час зрабіў з дрэва невядомы мясцовы сялянскі мастак і падараваў графу Слізеню. Шмат дзесяцігоддзяў унікальны мастацкі твор захоўваўся ў палацы Слізеняў у вёсцы Новадзявяткавічы. Цяпер драўляны пелікан — напамінак пра тое, якія скарбы захоўваліся ў Новадзявяткавічах і якія нашы каштоўнасці знішчылі час і людзі.

## Вяскоўцы Слонімскага павета, 1860-я гады

На гэтых здымках — нашы прадзеды, жыхары Слонімскага павета Гарасім і Магдалена Амяльянчыкі. Малюнкі былі зроблены дзесьці ў 1860-х гадах. Паглядзіце, як выгля-




далі маладыя асобы Слонімскага павета. Даволі прыгожыя з твару, з зацікаўленымі позіркамі, яны пагадзіліся, каб іх намаляваў мастак. З таго часу мала захавалася малюнкаў і карцін, якія адлюстроўваюць жыццё і падзеі нашага краю. Тым не менш яны ёсць…

### Такі палац быў у Новадзявяткавічах

Так выглядаў палац Альфрэда Слізеня ў вёсцы Новадзявяткавічы ў XIX стагоддзі. Унікальны палац у стылі рэтраготыкі. У 1861 годзе Новадзявяткавічы наведаў мастак Напалеон Орда. Ён і намаляваў палац для нашчадкаў, каб мы хоць бачылі, як ён тады выглядаў. Так хацелася б сёння прайсціся па залах і пакоях палаца. У ім была вялікая каштоўная бібліятэка, шмат дарагіх карцін еўрапейскіх і беларускіх мастакоў, посуд, абразы, музычныя інструменты, дываны, калекцыйная зброя і г. д. Пад палацам быў вялікі ход (мяркуюць, што аж да Косава). Частка палаца захоўвалася нават да Другой сусветнай вайны. Але падчас вайны амаль цалкам яго спалілі партызаны — маўляў, там былі немцы, а яны іх выгналі адтуль, каб за гэта атрымаць медалі. А пасля вайны мясцовы люд расцягваў з палаца цэглу, кафлю, мэблю.



Напалеон Орда.
Палац у Новадзявяткавічах

### Першы водаправод

Са «Спіса старажытных помнікаў Слоніма» за 1838 год, які захоўваецца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Гродне, відаць, што водаправод у Слоніме існаваў яшчэ пры гетмане Міхалу Казіміру Агінскім. А гэта прыблізна 1775 год, нават крыху пазней, дзесьці з 1775 да 1795 года.

Нагадаем трохі. Сцэна тэатра Агінскага была падзелена напалову: пярэдняя частка прызначалася для акцёраў, а задняя служыла ў выпадку неабходнасці для караблёў — там па сапраўднай вадзе лодкі выплывалі на сцэну. У гэтым выпадку другая частка сцэны праз сістэму трубаў, якая вяла да самых падмосткаў, запаўнялася вадой з сажалкі. Калі ж вада была непатрэбная, а па ходу дзеі п’есы, напрыклад,





мела месца якая-небудзь бітва або маршы войск, то гэтая частка сцэны пакрывалася тоўстымі шчытамі, а з тытульнага яе боку адкрывалася вялізная брама, праз якую ўрывалася кавалерыя…

Пра наяўнасць складаных водных прыстасаванняў сведчыць нехта А. Анджаеўскі, які наведаў Слонім у 1798 годзе і быў зачараваны замкамі і «пышным тэатрам, у якім была сапраўдная сажалка, што несла сапраўдныя караблі і ўяўляла сабой чароўную карціну». Вядома, што тэатр, акрамя таго, меў шэраг дасціпных тэхнічных прыстасаванняў — такіх, як фантаны з ёмістасцямі для вады, а таксама складанае тэхнічнае прыстасаванне для замены дэкарацый. У тэатры на сцэне знаходзілася мноства людзей, часта і з вялікай выдумкай мяняліся дэкарацыі, і, нарэшце, тут меўся барочны сцэнічны механізм, які дазваляў паказваць цэлыя эпізоды бітваў на сушы і на моры.

Пасля існавання тэатра на плошчы перад развалінамі былой кухні гетмана Агінскага, аказваецца, існавалі канавы, запоўненыя вадой, у якіх падавалася праз свінцовыя трубы вада з сажалкі, якая знаходзілася на зямлі дамініканскага манастыра (з XIX стагоддзя). Свінцовыя трубы, як пішацца ў «Спісе старажытных помнікаў Слоніма» за 1838 год, яшчэ некалькі гадоў назад некаторымі жыхарамі Слоніма таемна па кусках выкопваліся на агародах.

Прайшоў час, і толькі 17 жніўня 1895 года на пасяджэнні Слонімская гарадская дума прыняла пастанову аб зацвярджэнні праекта кантракта на будаўніцтва ў Слоніме водаправода. Кантракт прадугледжваў, што водаправод правядзе купец Гірша Куніца, якому давалася права на працягу 40 гадоў браць плату па 1/4 капейкі за вядро вады. Водаправод вёўся з гор, крынічная вада падавалася праз чыгунныя трубы.

Ёсць і такі факт. «Обзор Гродненской губернии» за 1897 год паведамляе: «Слонім забяспечваецца пітной вадой з крыніц, якія знаходзяцца на значнай вышыні, скуль, дзякуючы пракладзеным пад зямлёю трубам, уласным напорам вада праходзіць у вялікі вадаём, зманціраваны ў гарадскім садзе, з якога вада развозіцца ў бочках».

Такім чынам, узнікненне водаправода ў Слоніме трэба лічыць альбо з 1775 года, альбо з 1895 года.

## Слонімскі генерал Ян Канопка (1777–1815)

Генерал Ян Канопка (нарадзіўся ў вёсцы Скоўдзічы) ваяваў на баку Напалеона Банапарта. Сустракаўся асабіста з Напалеонам, які дазволіў сфармаваць Трэці ліцвінскі ўланскі полк імператарскай гвардыі. У палку было каля 800 чалавек, у асноўным студэнты Віленскага ўніверсітэта. Пасля перамогі Напалеон абяцаў аднавіць Вялікае Княства Літоўскае. Таму ў беларусаў-ліцвінаў была надзея...

Ян Канопка памёр у Варшаве, але прасіў, каб яго пахавалі на Слонімшчыне. Што было і зроблена. Шмат гадоў шукаю яго магілу, а раптам — знойдзецца. Яна можа быць на адных са слонімскіх могілак, ці ў Скоўдзічах, ці ў вёсцы Дубраўка на Дзятлаўшчыне. Пакуль нічога знайсці не ўдалося. На жаль...

Партрэтаў Яна Канопкі няма. Захаваліся два, дзе ён сядзіць вярхом на кані. Вось адзін з іх.



## Відэлец з афіцэрскай сталовай, 1910-я гады

Да Першай сусветнай вайны ў Слоніме ў казармах, дзе зараз знаходзіцца Слонімская 11-я механізаваная брыгада, дыслацыраваўся



118-ы Шуйскі пяхотны полк імператарскай арміі. У афіцэрскай сталовай у Слоніме вайскоўцы харчаваліся з талерак відэльцамі з мельхіёру, на іх стаяў штамп, была гравіроўка і кляймо вытворцы Fraget. Даўжыня складала 21,5 см. Гэты відэлец — вельмі рэдкі прадмет гісторыі ўзброеных сіл.

## Слонімская кафля, канец XIX стагоддзя

Кафлі як выраб прызначаюцца для канструкцыі печаў. Яны найперш вызначаюцца сваімі арнаментальнымі матывамі і стылем. У мінулыя стагоддзі Слонімшчына заўсёды славілася кафельнымі заводамі і фабрыкамі. Іх выпускалася





шмат, і прадавалі іх ў розныя гарады і краіны. Слонімскія і альбярцінскія кафлі ўпрыгожвалі палацы Сапегаў, Агінскіх, Пуслоўскіх, Слізеняў... Эх, сабраць бы хоць па адной кафлі Слонімшчыны за апошнія пяць стагоддзяў і стварыць музей ці хаця б выставу. Там можна было б шмат убачыць прыгожых і з густам зробленых кафляў. Вось адна з іх канца XIX стагоддзя.

## У Слоніме выпускалі запалкі, першая палова XX стагоддзя

Першыя запалкавыя фабрыкі ў Беларусі, як сведчыць Беларуская энцыклапедыя, з'явіліся ў другой палове XIX стагоддзя. На той час гэтыя прадпрыемствы выраблялі небяспечныя запалкі з прымессю белага фосфару (бяспечныя былі распрацаваны ў Швейцарыі ў 1855 годзе).

Напрыканцы XIX стагоддзя ў Беларусі працавалі ўжо 14 паўсаматужных запалкавых фабрык. Сярод іх была фабрыка і ў Альбярціне каля Слоніма. Яе адкрылі О. Гавінавіцкі і Ю. і М. Маркусы. Фабрыка мела назву «Шчара».

У пачатку XX стагоддзя ў Слоніме з'явілася яшчэ адна прыватная запалкавая фабрыка «Край» Дубінбаўма і Штэйнберга. На гэтай фабрыцы працавалі каля дзвюхсот чалавек. Умовы працы былі вельмі цяжкія. Таму 18 мая 1905 года на запалкавай фабрыцы «Край» адбылася забастоўка рабочых. Яны патрабавалі ад гаспадароў прадпрыемства скарачэння рабочага дня да 10 гадзін і павышэння заработнай платы на 20–30%. Забастоўку рабочых запалкавай фабрыкі падтрымалі і іншыя прадпрыемствы горада.

Запалкавыя фабрыкі ў Слоніме праіснавалі да Першай сусветнай вайны. У 20–30-х гадах XX стагоддзя іх спрабавалі аднавіць. У Слоніме пачала працаваць запалкавая фабрыка «Elektra», але з-за фінансавых праблем яна доўга не праіснавала.
















Вяселле Язэпа Стаброўскага і Амеліі (Веранікі) Давідоўскай

## Вяселле заснавальніка Слонімскага музея, 1902 год

Заснавальнік Слонімскага краязнаўчага музея Язэп Стаброўскі (1869–1968) першы раз ажаніўся з Амеліяй Давідоўскай. Вяселле іх адбылося ў 1902 годзе. Прыгажуня Амелія нарадзіла Стаброўскаму сына Міраслава і дачку Ірыну. Але ўсе яны, на жаль, вельмі рана памерлі. І пахаваны на могілках у вёсцы Орлавічы Слонімскага раёна.

## Слонімцы ў 1905 годзе

Здымак быў зроблены ў 1905 годзе ў адной з прыватных фотамайстэрняў у Слоніме. На ім сфатаграфаваны слонімцы. Сярод маладых асоб пазнаю слонімскага паэта, калекцыянера, музыканта, мастака Гальяша Леўчыка (1880–1944). Ён сядзіць са сваімі сябрамі трэці злева. Усе прыгожыя, чыстыя, акуратныя хлопцы. Апранутыя ў дарагія касцюмы, у руках капелюшы… Гледзячы на іх, ніколі не паверу, што беларусы былі беднымі і што заўсёды нас атаясамлівалі з жабракамі ці мужыкамі ў лапцях і хадаках… Аказваецца, не так. Мы заўсёды былі адукаваным, разумным і мудрым народам! І гэта даказвае Гальяш Леўчык са сваімі землякамі-слонімцамі на здымку.



Слонімцы ў 1905 годзе



## Была ў Слоніме маскоўская гасцініца, пачатак XX стагоддзя

Да пачатку Другой сусветнай вайны Слонім заўсёды мог пахваліцца сваімі гасцініцамі (атэлямі). Пры любой уладзе (да прыходу бальшавікоў) іх у Слоніме было шмат. Не тое што зараз. У асноўным атэлі трымалі прыватнікі, якія мелі грошы. Дарэчы, заезныя дамы і аўстэрыі ўжо існавалі пры Сапегу і Агінскім. Шаноўныя госці з розных гарадоў і краін там маглі пераначаваць і бавіць час. На самым пачатку XX стагоддзя ў Слоніме была і маскоўская гасцініца. Пра гэта нам паведаміла вось гэтая старая слонімская паштоўка, выдадзеная больш за 100 гадоў таму. Злева на ёй напісана па-руску: маскоўская гасцініца.

## Слонімскае аддзяленне беластоцкага банка, 1910 год

За ўсё XX стагоддзе якіх толькі банкаў не было ў Слоніме. Яны то з'яўляліся, то знікалі. Знікалі па розных прычынах, найперш звязаных з войнамі. Напрыклад, у 1910 годзе ў Слоніме дзейнічала аддзяленне камерцыйнага банка ў Беластоку. Што быў такі банк у Слоніме, пацвярджае вось гэты рэдкі дакумент з пячаткамі, штампамі, тэкстамі.



КОММЕРЧЕСКІЙ БАНКЪ въ БѢЛОСТОКѢ
Слонимское Отдѣленіе.

COMMERZBANK in BIALYSTOK
Slonimer Filiale.

ЗАКАЗНОЕ

КОММЕРЧЕСКОМУ БАНКУ
въ БѢЛОСТОКѢ.

11 5 10

БѢЛОСТОКЪ.





## Касцёл Святога Андрэя, 1915–1916 гады

На плошчы Льва Сапегі ў Слоніме ўзвышаецца фарны касцёл Святога Андрэя — помнік архітэктуры барока XVIII стагоддзя. Храм здзіўляе пластыкай фасада, багаццем скульптурна-дэкаратыўнай апрацоўкі. Асноўны дэкор сканцэнтраваны на галоўным фасадзе. Гэта глыбокія нішы, слаістыя пілястры, фігурны франтон. Дзве вежы, пастаўленыя пад вуглом да фасада, узмацняюць яго пластычную пабудову. Скульптурнае ўбранне інтэр'ера нясе рысы мастацтва ракако. У архітэктурны комплекс уваходзяць таксама брама і манастырскія карпусы. Касцёл Святога Андрэя з'яўляецца сёння своеасаблівай брамай старажытнага горада над Шчарай, хоць лёс яго складваўся на працягу стагоддзяў па-рознаму. Найбольш нягод яму прынесла другая палова XX стагоддзя. Тым не менш слонімскі помнік выстаяў, не скарыўся.

Касцёл Святога Андрэя ў Слоніме з'явіўся з дрэва ў 1493 годзе, а ў 1595 годзе яго пабудавалі з цэглы і каменю. Касцёл, які знішчылі крымскія татары, дапамог аднавіць Леў Сапега. Грунтоўна храм перабудоўваўся ў 1660 годзе, а ў 1775 годзе яго ўзвялі ў стылі барока.

У часы Льва Сапегі касцёл Святога Андрэя ператварыўся ў адзін з цэнтраў рэлігійнага жыцця як Слоніма, так і ўсяго Вялікага Княства Літоўскага. На тэалагічныя дыспуты сюды прыязджалі Сымон Будны, Пётр Скарга, падканцлер Казімір Сапега, які любіў ўдзельнічаць у дыспутах, і многія іншыя вядомыя людзі нашай зямлі. Акрамя касцёла Святога Андрэя, чальцы дынастыі Сапегаў узвялі ў Слоніме касцёл бернардынцаў, малітоўню для рэгулярных латэранскіх канонікаў. Апрача гэтага, Сапегі спрыялі распаўсюджванню ў Слоніме школ ды калегіумаў, якія знаходзіліся пры гарадскіх касцёлах ды цэрквах. У Слоніме часоў Льва Сапегі існавалі вялікая бібліятэка і друкарня, дзе, як мяркуюць некаторыя даследчыкі, набіраўся вядомы на ўсю Еўропу Статут Вялікага Княства Літоўскага. Так касцёл Святога Андрэя выглядаў у 1915–1916 гадах.

## Легенда пра валун «Расколаты камень»

Калі ехаць са слонімскага мікраraёна Альбярцін у бок вёскі Якімавічы, недалёка ад гравійнай дарогі ў лесе знаходзіцца вялікі валун «Расколаты камень». Ён больш за





тры метры ў вышыню, тры з паловай метры ў шырыню і ў даўжыню.

Сярод мясцовых жыхароў бытуе легенда, што некалі тут жыў Янка-асілак. Аднойчы ён сустрэў дзяўчыну незвычайнай прыгажосці і моцна закахаўся. Дзяўчына таксама пакахала юнака. Але аб прыгажуні даведаўся двухгаловы змей і прыляцеў па яе. Насустрач змею выйшаў Янка-асілак і сказаў: «Трымаю бой на жыццё і смерць, але сваю дзяўчыну табе не аддам».

Янка-асілак і змей сышліся ў чыстым полі. Загрымелі мячы і пачалася бойка. Яны доўга біліся, і Янка адчуваў, што перамога зусім блізка. Але ён раптам заўважыў, што моцна прытупіўся яго меч. «Эх, і патачыць няма чым! — усклікнуў Янка. — Хоць бы камень які пад рукой аказаўся».

І вырасла перад ім скала, як быццам шчытом закрыла. Не змог змей дастаць сваім мячом Янку, злосна секануў па камені што было сілы — раскалолася скала і выбіла меч з варожых рук. Тут Янка і дабіў змея. А расколаты валун да сённяшніх дзён ляжыць на слонімскай зямлі.

## Спаса-Праабражэнскі сабор, пачатак XX стагоддзя

Падчас археалагічных раскопак каля Спаса-Праабражэнскага сабора ў Слоніме юныя археолагі разам з малодшым навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Аляксандрам Максімовічам летам 2018 года знайшлі каштоўны археалагічны экспанат — каменны крыжык-карсунчык XI—XIII стагоддзяў. Знайшлі крыжык там, дзе стаяў вось гэты прыгажун сабор да 1963 года. Падчас вайны ён быў пашкоджаны бомбай. З 1994 года айцец Віктар пачаў будаваць новы. І пабудаваў: і сабор, і капліцу, і зараз ідзе побач будаўніцтва службовага будынку. А які быў сабор у Слоніме 100 гадоў таму, бачна на гэтай паштоўцы.



## Фатографы пачатку XX стагоддзя

У 1900–1930-х гадах Слонім мог ганарыцца сваімі фатографамі, якія тут жылі і працавалі. Гэта дзякуючы ім нам засталіся ў спадчыну здымкі і паштоўкі Слоніма пачатку XX стагоддзя. Тады ў Слоніме свае фотамайстэрні мелі фатографы Б. Вайнштэйн, Б. Натковіч, Г. Браўн, С. Муркес, Т. Носек-Лейба, Я. Салавейчык, Х. Закройскі, О. Дзярэчынскі, Ю. Шыманчык і іншыя. За выключэннем Юзафа Шыманчыка, усе яны былі па нацыянальнасці яўрэі.












Напрыклад, фотамайстэрня Вайнштэйна была на вуліцы Панятоўскага, 8 (цяпер вуліца Пушкіна). Фотамайстэрня С. Муркеса знаходзілася на вуліцы Сянкевіча, 44 (цяпер гэта Першамайская вуліца) і на Гандлёвай, 25. О. Дзярэчынскі сваю фотамайстэрню трымаў на Другой Берагавой вуліцы, 6 і г. д.

Як склаўся лёс многіх слонімскіх фатографаў, невядома. Куды іх











жыццёвы лёс закінуў падчас Другой сусветнай вайны ці пасля вайны — знайсці не ўдалося. Але пошукі звестак пра іх працягваюцца.

## Фатограф Берка Нарковіч

У пачатку XX стагоддзя (1900–1918) у Слоніме жыў яўрэй Берка Нарковіч. Ён меў сваю фотамайстэрню, дзе фатаграфаваў слонімцаў і гасцей горада. Адшукаць здымак самога Беркі не ўдалося, а вось тыя фатаграфіі, якія ён рабіў, захаваліся. І магчыма, слонімцы маюць іх у сваіх фотаальбомах ад дзядоў і прадзедаў.













Фатаграфіі Беркі Нарковіча

## Чыгуначны мост, 1915 год

Гэтую паштоўку падчас Першай сусветнай вайны ў Слоніме выпусціў фатограф Барыс Вайнштэйн. Яго фотамайстэрня знаходзілася ў самым цэнтры Слоніма на Параднай вуліцы, 14. Фатограф убачыў чыгуначны мост, які ўзарвалі рускія, і сфатаграфаваў яго.



# Рынак, першая палова XX стагоддзя

Пра гісторыю слонімскіх рынкаў можна напісаць цэлую кнігу. Тым больш, што захавалася шмат фотаздымкаў гандлю на рынку ў Слоніме ў першай палове XX стагоддзя. Я люблю гэтыя здымкі, люблю на іх глядзець, на чым прыязджалі на рынак, у што людзі былі апрануты, чым гандлявалі, што куплялі. Рэдкія і даволі якасныя здымкі рынку ў Слоніме нагадваюць пра той час. Цяпер гэта плошча Леніна.









# Гандлёвыя рады ў Слоніме, 1916 год

Гандлёвыя рады ў Слоніме напачатку XX стагоддзя знаходзіліся на месцы скверыка, дзе цяпер стаіць танк і Ленін на сённяшняй Першамайскай вуліцы. Гандлёвыя рады ўпрыгожвалі Слонім. Яны працавалі да Другой сусветнай вайны. Пасля вайны іх не стала. У асноўным у крамах гандлявалі яўрэі. Кожная крама



Гандлёвыя рады
ў Слоніме, 1916 год



мела свой уласны нумар. Прадавалі там усё: ад салодкіх ласункаў да рыбных далікатэсаў.

# І атэль «Брыстоль», і друкарні Маркуса і Ельяна

Хачу жыць у Слоніме ў самым пачатку XX стагоддзя. Ці проста пахадзіць па родным горадзе, калі тут працавалі дзясяткі прыватных крамаў, заводаў, фабрык, акцыянерных таварыстваў, гасцініц. У дзясяткі разоў больш, чым сёння. Нават і не верыцца, што ў Слоніме ў 1900–1920 гадах (і вайна ж была) дзейнічалі гарбарны і лесапільны заводы, фотамайстэрня Вайнштэйна, дражджавы і вінакурны завод, друкарні Маркуса і Ельяна, запалкавая фабрыка «Шчара», атэль «Брыстоль» на Рыбацкай вуліцы, дзясяткі крамаў, дзе ўсё прадавалася, і шмат чаго яшчэ.






















# Будынак на вуліцы Пушкіна 100 гадоў таму

Так выглядаў сённяшні будынак на вуліцы Пушкіна, дзе цяпер знаходзіцца падатковая інспекцыя, 100 гадоў таму. Праўда, падатковай інспекцыі ў 1915–1916 гадах там не было, а ў ім месціўся адзін са штабоў кайзераўскіх войск; сам жа буды-



нак выглядаў менавіта так. Наогул, будынак, як бачыце, быў даволі арыгінальны і своеасаблівы. Ён і сёння застаецца прыгожым, а тады дужа ўпрыгожваў вуліцу Апанасоўскую, якая вядома была яшчэ з XVII стагоддзя. Паштоўку выдавалі немцы падчас Першай сусветнай вайны.

## Вуліца Саборная, пачатак XX стагоддзя

Была ў Слоніме Саборная вуліца (цяпер Пушкіна, дзе стаіць Спаса-Праабражэнскі сабор). Гэта адна з паштовак. І хоць на ёй адлюстравана зіма, добра бачны вуліца, саборная сцяна, людзі. Паштоўка цікавая. Шкада, што нічога за 100 гадоў не збераглося. Але гэтая старая паштоўка нагадвае нам пра той Слонім, які быў.

## Паштовыя штампы і фірменныя знакі, 1894–1915 гады

У канцы XIX — пачатку XX стагоддзя Слонім знаходзіўся ў складзе Расійскай імперыі. У горадзе працавалі пошта, розныя прыватныя банкі, заводы і фабрыкі. Вельмі рэдкая паштовая пячатка Слоніма 1894 года, фірменныя знакі банкаўскай канторы Лазінскага, 1915 года, дражджавы і вінаробчы завод Айзенштадта, 1915 года, нагадваюць пра той далёкі час у Слоніме.










Вуліца Саборная, пачатак XX стагоддзя



## Крыжы на Ружанскіх могілках, 1916 год

Ружанскія могілкі ў Слоніме — адны са старых могілак горада. Ім каля 300 гадоў. Ды і сама Ружанская вуліца вядома з XVII стагоддзя. З самага пачатку вуліца называлася Ружанская. Потым яе перайменавалі ў 1961 годзе ў гонар дзяржаўнага дзеяча Конга Патрыса Лумумбы. Але ў 1990-х гадах творчай інтэлігенцыі Слоніме ўсё ж удалося вярнуць старую назву вуліцы. А так выглядалі могілкі з крыжамі на Ружанскай вуліцы падчас Першай сусветнай вайны. Пад гэтымі крыжамі былі пахаваны людзі розных веравызнанняў і нацыянальнасцей, якія загінулі у 1914–1917 гадах.



## Ружанская вуліца ў 1900–1940-х гадах

Вуліца Ружанская (Ражанская) у Слоніме — адна са старэйшых вуліц горада. К канцу XIX стагоддзя архітэктурнае аблічча Слоніма пачало мяняцца. Але гістарычная кампазіцыя горада над Шчарай захоўвалася ранейшай.

Вуліца Ружанская працягвалася ў першай палове XX стагоддзя аж да будынкаў, у якіх сёння месцяцца музей і аптэка. І калі па Ружанскай вуліцы ехаць на Брэсцкую, то замест сквера ў 1900–1930-х гадах стаялі гандлёвыя лаўкі. Іх арандавалі гандляры і прадавалі свае тавары. У асноўным гандлем актыўна займаліся яўрэі. Але і вяскоўцы прывозілі ў горад свой тавар. Сама вуліца была даволі вузкая, але вазы з конямі маглі лёгка на ёй размінуцца, а павярнуць на сённяшнюю Чырвонаармейскую з Ружанскай было б немагчыма.

## Заводы і фабрыкі Альбярціна

У XIX — пачатку XX стагоддзя пасёлак Альбярцін (цяпер мікра-



Ружанская вуліца ў 1900–1940-х гадах




раён Слоніма) быў багаты на прадпрыемствы. Невыпадкова яго называлі фабрычным пасёлкам. Тады ў Альбярціне працавалі шэраг прадпрыемстваў, сярод якіх цагельня, млын і лесапільня, дывановая мануфактура, лесапільна-сталярная, шоўкакруцільная і суконная фабрыкі, чыгуналіцейны і электралямпавы заводы, драцяное і мукамольнае прадпрыемствы, запалкавая фабрыка «Шчара», завод цвікоў, а ў 1921 годзе ўзнікла кардонная фабрыка «Альбярцін». На Ісе яшчэ ў 1823 годзе была пабудавана драўляна-земляная плаціна з двума шлюзамі, што дазволіла прымяняць вадзяны прывод. А колькі цяпер у Альбярціне прадпрыемстваў? І як яны працуюць?..

## Альбярцінскае пасведчанне, XIX стагоддзе

Цікавы дакумент нядаўна трапіў мне ў рукі — гэта пасведчанне ўпаўнаважанага Францішка Ксаверыя графа Пуслоўскага. На старой паперы з пячаткай і вуглавым альбярцінскім штампам на польскай мове напісана: Пасведчанне. Гэтым сведчу, што п[ан] Міхал Кошэляк служыў у Альбярціне — рэзідэнцыі Фр[анцішка] К[саверыя] графа Пуслоўскага агароднікам з 23 верасня/5 кастрычніка 1878 г[ода] да 15/27 красавіка 1882 года, а, паводзячы сябе спакойна, сумленна і цвяроза, абавязак свой выконваў старанна, даўшы доказы ведання справы згодна з ягонай прафесіяй; па яго ўласнай просьбе быў вызвалены д[ня] 16 красавіка 1882 г[ода]. Альбярцін. Упаўнаважаны Фр[анцішка] К[саверыя] гр[афа] Пуслоўскага (подпіс неразборлівы).


ALBERTYN
ZARZĄD GŁÓWNY

Świadectwo

Падобныя дакументы — сведкі нашай гісторыі. Яны нас вяртаюць у мінулае і распавядаюць пра тое, чым займаліся людзі, напрыклад, у таго ж графа Пуслоўскага, як яны сябе паводзілі, як выконвалі свае службовыя абавязкі і г. д. І пра гэта мы таксама павінны ведаць.

## Нагрудны знак, пачатак XX стагоддзя

Напачатку XX стагоддзя члены Слонімскай гарадской управы насілі нагрудныя знакі. У кожнай гарадской управы, відаць, яны былі свае і адрозніваліся. Нагрудныя знакі мелі і слонімцы. Адзін са знакаў захоўваецца ў Слонімскім краязнаўчым музеі.





## Жыхары вёскі Хадзявічы на старых фотаздымках

У маім архіве захоўваецца шэраг фотаздымкаў — жыхароў вёскі Хадзявічы Слонімскага павета першай паловы XX стагоддзя. На іх адлюстраваны мае аднавяскоўцы, кожны з іх меў лапік уласнай зямлі, на якой з ранку да вечара яны працавалі, каб жыць па-людску Мае аднавяскоўцы, як і ўсе беларусы, наведвалі праваслаўныя і каталіцкія храмы, найчасцей яны хадзілі ў Сынковіцкую царкву, якая побач з вёскай, і ў Парэцкую царкву. Многія дабіраліся ў Слонім і ў Жыровічы. Мае аднавяскоўцы мелі па 10–20 гектараў уласнай зямлі, свой лес, аралі поле, жалі жыта і саджалі маладзенькія дрэўцы. Яны выходзілі замуж і жаніліся, нараджалі і гадавалі дзяцей. Яны ездзілі на кірмашы і адзначалі Вялікдзень, Тройцу, Пятро, Міколу, Юр'е, Пакровы, Міхайла, Каляды…

Мае землякі заўсёды жадалі вучыцца. Яны паступалі ў Віленскую беларускую гімназію, а Васіль Новік пасля гімназіі вучыўся і ў Віленскім універсітэце і ў Белдзяржуніверсітэце. Мае аднавяскоўцы праважалі на фронт сваіх дзяцей і мужоў, радаваліся сустрэчам, атрымлівалі «пахаронкі» і жылі пры


Уладзімір Жук, Іван Важэйка, Пятро Важэйка і Мікалай Ігнатовіч (*злева направа*), 1920-я гады. Фотаздымак зроблены слонімскім фатографам Б. Вайнштэйнам


Пётр Шундрык, Іван Саванец, Уладзімір Саванец і Кастусь Саванец (*злева направа*), 1930-я гады

розных акупантах. Мае аднавяскоўцы любілі і ўмелі адпачываць, спявалі беларускія народныя песні і жадалі адзін аднаму шчаслівай долі. А доля ў тых, хто жыў у першай палове XX стагоддзя, была няпростая. Выглядалі мае аднавяскоўцы 70—100 гадоў назад так, як на гэтых старых фотаздымках.

## Вуліцы Слоніма, 1916 год

Люблю старажытны Слонім. Люблю яго бачыць і ўяўляць такім, якім ён быў 100 і больш гадоў таму. Раблю гэта дзеля таго, каб яшчэ








глыбей зразумець тое, што адбывалася тут у далёкія часы мінулага стагоддзя. Праўда, многае сёння беззваротна страчана, але захаваліся старыя фотаздымкі. А на іх — мой родны Слонім — прыгожы, дзіўны, недагледжаны, яркі, самабытны, стамлёны, шчыры, цяжкі, але мой родны, дарагі і блізкі, дзе жылі мае прапрадзеды і дзяды, дзе цяпер жыву і я. Па гэтых вуліцах тады хадзілі мае продкі, гэтыя вуліцы захавалі іх сляды, пра іх напачатку XX стагоддзя і пра тое, хто там жыў, якія там былі будынкі, можна распавядаць бясконца. Але лепш паглядзець на вуліцы Слоніма 1916 года. Менавіта большасць з іх выглядалі так, як на гэтых фотаздымках.

## Вясковая баба з Трыбушкоў, 1904–1914 гады

Люблю гэтую першую слонімскую паштоўку, выдадзеную на беларускай мове выдавецтвам «Загляне сонца і ў наша ваконца» ў Санкт-Пецярбурзе. Тады славутае выдавецтва выпусціла напачатку XX стагоддзя больш за 20 беларускіх паштовак і шмат кніг. На паштоўку трапіла вясковая баба з Трыбушкоў (цяпер гэта вёска Мірная недалёка ад Новадзявяткавіч). Ды далёка тут не баба, а вясковая дзяўчына з асцярожным позіркам-усмешкай глядзіць у наша XXI стагоддзе.





## Каля гандлёвых радоў, 1914 год

Гэта цэнтр Слоніма напярэдадні Першай сусветнай вайны. Гандлёвыя рады і гандаль у самым цэнтры горада. Шмат што прадавалася ў бочках: рыба, крупы, мука, агуркі і памідоры, цукар і соль. Ва ўсіх — саматканае адзенне, хусткі, шапкі. Вось так тады апраналіся слонімцы. І так ішоў гандаль у цэнтры Слоніма, як на гэтай нямецкай паштоўцы.






Каля гандлёвых радоў, 1914 год

## Бежанцы, 1915 год

Бежанства напярэдадні Першай сусветнай вайны — самая страшная і трагічная старонка ў беларускай гісторыі. Рускія казакі выганялі беларусаў у Расію ў бежанства, падпальваючы іх дамы, гумны, хлявы і іншыя пабудовы. Беларусы туды не хацелі ехаць, бо там іх ніхто не ча-




Бежанцы, 1915 год

каў. Яны жадалі быць дома. З нашай Бацькаўшчыны ў бежанства было выгнана каля 1,5 мільёна чалавек. Большасць дахаты не вярнуліся: памерлі, загінулі, зніклі… Сярод іх былі і тысячы людзей са Слонімскага павета. На паштоўцы добра бачны рух бежанцаў на конях на ўсход.

## Newska Strasse i Paradenstraße, 1915 год

Цэнтр Слоніма. Злева гандлёвыя рады, якіх ужо няма. Справа прыгожыя будынкі, яны таксама не захаваліся. Захаваўся, і ён бачны наперадзе, стары будынак, дзе нядаўна знаходзілася міліцыя і на які сёння Ленін паказвае рукой. Добра відаць сабор. Прыгожы быў цэнтр напачатку XX стагоддзя. Але чаму гэта вуліца называлася Newska Strasse, не ведаю. Гандлёвыя рады былі і да Другой сусветнай вайны. Яны падзялялі сённяшнюю Першамайскую вуліцу на дзве вуліцы. На адных паштоўках — гэта Newska Strasse, на другіх — Paradenstraße. Фотаздымкі рабіў слонімскі фатограф Барыс Вайнштэйн. Два гэтыя старыя слонімскія здымкі з рознымі назвамі вуліцы мы бачым перад сабой.







Newska Strasse i Paradenstraße, 1915 год

## Слонімскі гандаль, 1914 год

Напярэдадні Першай сусветнай вайны Слонім жыў сваім звычайным і будзённым жыццём. У горадзе мелася больш за 900 мураваных дамоў, закладваліся прамысловыя прадпрыемствы і майстэрні. Насельніцтва горада дасягнула 21 тысячы чалавек.

Як грыбы пасля дажджу, у горадзе над Шчарай з’яўляліся ўсё новыя і новыя гандлёвыя прыватныя кропкі. Таму давайце разам павандруем па цэнтры Слоніма 100-гадовай даўніны. Што ж можна было і ў каго тады купіць?

Прыватныя крамы і склады ў асноўным трымалі ў Слоніме яўрэі. Іх было шмат. Напрыклад, насупраць сабора і Маставой вуліцы (цяпер Янкі Купалы) была крама суконных, мануфактурных і футравых тавараў Грушавіцкіх і Якімоўскіх. Там быў даволі вялікі выбар шарсцяных, плюшавых і ватных коўдраў, дываноў, дарожак, фіранак. А лямец і палотны прадаваліся ў краме Шымеля Савіцкага.

Хто жадаў купіць сабе лямпу, шкло, посуд — маглі гэта зрабіць, наведаўшы краму Ш. Анекштэйха ці краму посуду і лямпаў Ісака Куніцы. На Гандлёвай вуліцы (цяпер Першамайская) ва ўласным доме Ісак Куніца гандляваў самаварамі, аконным шклом і рознымі гаспадарчымі прынадлежнасцямі.

Слонімец Кісель Язерскі таксама меў сваю вялікую краму жалезных і чыгунных тавараў. У яго можна было купіць цэглу, фарбу, малацілкі, веялкі, цэмент, гіпс, смалу, керасін і нават саларэзкі і соль для коней.

Меў свой прыватны магазін стальных і медных тавараў нехта Эдэльман, гандляваў рознымі фарбамі і паляўнічымі прыборамі і нехта Рахавіцкі. А яўрэй Майсей Мешаль трымаў свой уласны склад бакалейных тавараў, тытунёвых вырабаў усіх вядомых у свеце фірмаў. Там заўсёды было людна, бо слонімцы і вяскоўцы часта куплялі ў Мешаля шпалеры, фарбы, цэмент, гіпс, смалу, шведскі кардон.

Тытунёвыя вырабы прадаваліся ў Слоніме ў некалькіх крамах. Асабліва даспадобы для тых, хто курыў, была крама тытунёвых і бакалейных вырабаў Шылавіцкага.

Карысталіся папулярнасцю сто гадоў таму ў Слоніме і розныя будаўнічыя магазіны і лесапільныя заводы. Яны былі даволі дарагія, але багатыя людзі іх не міналі, бо маглі там заказаць матэрыял або купіць ужо гатовыя тавары. Лесапільныя і дрэваапрацоўчыя заводы Штэйнберга і Дубінбаўмана з радасцю сустракалі сваіх кліентаў. Не ўсе слонімцы маглі тады купіць і чарапіцу ў краме Элькана, ці мэблю і люстэркі ў краме А. Парэцкага. Існавала ў Слоніме і будаўніча-тэхнічная кантора інжынераў Дамантовіча і Радзішэўскага, а таксама тэхнічнае бюро, склад земляробчых машын, прылад для малочнай гаспадаркі Лазінскага. Калі хто ў пана Лазінскага заказваў машыны ці прылады, гаспадары самі прывозілі іх дамоў, падключалі, тлумачылі, давалі ключы і нават была гарантыя. А тыя слонімцы ці вяскоўцы са Слонімскага і іншых паветаў, якія мелі ў хатніх гаспадарках малатарні, маглі на іх зрабіць розныя надпісы (праўда толькі па-яўрэйску) у Янкеля Стайкоўскага.




Была ў Слоніме ў 1914 годзе і аптэка, дзе гандлявалі аптэкарскімі таварамі правізара Г. І. Гродзенскага. У аптэцы знаходзіўся і хіміка-бактэрыялагічны кабінет, у якім слонімцы маглі праверыць мачу, малако, кроў.

Напачатку XX стагоддзя актыўна дзейнічалі ў Слоніме і банкі. А было іх некалькі. Гэта слонімскае аддзяленне Беластоцкага камерцыйнага банка, слонімскае аддзяленне Руска-французскага камерцыйнага банка, а таксама кіраўніцтва Таварыства ўзаемнага крэдыту слонімскіх землеўладальнікаў, Слонімскае таварыства сельскай гаспадаркі і г. д.

Без працы не былі ў той час і праватная друкарня Гурвіча, і гадзіннікавы майстар Коган. Яўрэі і палякі-гандляры Кісель, Язерскі, Дамантовіч, Радзішэўскі, Лазінскі гандлёвую сувязь падтрымлівалі і праз тэлефоны, якія былі ўстаноўлены ў іх крамах і на складах.

## Гандаль каля сінагогі, 1916 год

Слонімская сінагога прыцягвае гандляроў. І ў пачатку мінулага стагоддзя каля яе быў гандаль, і цяпер ён ёсць. Шмат бачыла наша сінагога з 1642 года. Калі б яна магла размаўляць, расказала б нам самыя цікавыя слонімскія гісторыі, і пра гандаль таксама. Бо бачыла яна розных гандляроў і пакупнікоў за мінулыя стагоддзі. І ўспомніла б і гэтыя позіркі, і саматканыя хусткі на плячах нашых жанчын…



Гандаль каля сінагогі, 1916 год

## Немцы ў Слоніме, 1915–1916 гады

З верасня 1915 года кайзераўскія войскі занялі Слонім. Наш горад пад акупацыяй знаходзіўся 40 месяцаў. Спачатку не проста было і слонімцам прывыкаць да новай улады, і немцам уладкоўваць у горадзе свой быт і парадак. Тым не менш жыццё наладжвалася, а значыць, быў час для адпачынку, для жартаў і каб сфатаграфавацца і зрабіць здымкі ў горадзе над Шчарай, а таксама ў Альбярціне.

Немцы ў Слоніме займалі пустыя памяшканні, расквартароўваліся надзейна і надоўга. На фотаздымку бачна, дзе жаўнеры спыніліся, дзе праводзілі свае шыхтаванні і які ў іх быў настрой. Кіравала Слонімам нямецкая ваенная камендатура. Наш горад у той час наведвала шмат вялікіх генералаў, якія правяралі надзейнасць ваеннага тылу і сустракаліся з жаўнерамі і афіцэрамі.



## У чарзе па булачкі, 1916 год

Гэты здымак быў зроблены нямецкім афіцэрам-фатографам у 1916 годзе, якраз тады, калі Слонім знаходзіўся пад нямецкай акупацыяй. Слонімскія дзеткі стаяць у чарзе па свежыя булачкі. Звярніце ўвагу, у што яны апрануты. У дзяўчынак на галовах капялюшыкі і хусцінкі, а ў хлопчыкаў — шапкі з казыркамі. Амаль усе яны босыя, бо на вуліцы цёпла. Нехта з дарослых хутка ім купіць булачак з павідлам, і дзеткі імі будуць ласавацца.



У чарзе па булачкі, 1916 год

## Капліца на рынку, 1916 год

Здымак не вельмі якасны, а зрабіў здымак кайзераўскі фатограф у Слоніме ў 1916 годзе. На першым плане — каплічка на Гандлёвай плошчы (цяпер плошча Леніна). Каля каплічкі стаяць нямецкія вайскоўцы і ваенная тэхніка.



## Каменны крыж каля Шылавічаў

Аднойчы я вырашыў знайсці каменны крыж за вёскай Шылавічы. Але спачатку заехаў у саму вёску. Па дарозе спытаў у адной жанчыны, ці ведае яна пра каменны крыж. Жанчына адказала, што ёсць такі крыж за вёскай Шылавічы, але, адкуль ён узяўся, яна не ведае.

Паспрабаваў у іншых жыхароў Шылавіч спытацца, ці хто з іх ведае хоць якое паданне, і пачуў вось што. Крыж з надпісам каля дарогі нібыта пастаўлены на магіле велікана-рабаўніка Семака. Семаком разбойнік зваўся таму, што рабаваў у наваколлі людзей сем гадоў. Велікана атруцілі кухар, які напаіў яго віном, а потым апарыў кіпнем…

Крыж за Шылавічамі быў укапаны вяскоўцамі ў зямлю пры дарозе на Савічы. На крыжы я разгледзеў выбіты маленькі крыжык і нейкі неразборлівы надпіс ці то манаграму. Сам крыж даволі моц-



ны, з роўнымі і непашкоджанымі вертыкальным брусам і перакладзінай. Як ён там апынуўся — пакуль застаецца загадкай. Вядома толькі, што такіх каменных крыжоў на Беларусі крыху больш за сотню. Яны з'яўляюцца прадметамі культу хрысціянскай рэлігіі і выявамі сімвалаў веры.

Каменныя крыжы падзяляюцца на памятныя, прыдарожныя, паклонныя і надмагільныя. Іх ставілі каля дарог, як гэта зрабілі ў Шылавічах, часцей на скрыжаваннях, месцах бітваў, межах зямель, пры пракладцы новых шляхоў, закладцы гарадоў і храмаў, на могілках, краях вёскі, каб абараняць іх ад розных эпідэмій і ад заваёўнікаў. Шылавіцкаму каменнаму крыжу, магчыма, не менш як 200–300 гадоў.

## У цэнтры Слоніма, 1916 год

Так выглядалі сланімчанкі падчас Першай сусветнай вайны. Паглядзіце, у што яны апрануты, якія іх рукі і што ў руках трымаюць, на колькі гадоў яны выглядаюць. Здымак быў зроблены каля гандлёвых радоў у цэнтры горада. Цяпер гэтых гандлёвых радоў на сённяшняй Першамайскай вуліцы няма. Тут сёння знаходзіцца сквер з танкам і помнікам Леніну.



У цэнтры Слоніма, 1916 год

## Вуліца Маставая зімой, пачатак XX стагоддзя

Люблю глядзець на гэту старую паштоўку Слоніма 100 гадоў таму. Вуліца Маставая зімой у снезе і з марозам. Людзей шмат на вуліцы, коні з санямі, нехта з вядром ідзе па ваду. Адчуваецца мароз, бо слонімцы добра апранутыя, у паліто і кажухах. Эх, падабаецца мне гэты зімовы Слонім без машын і святлафораў...



Вуліца Маставая зімой, пачатак XX стагоддзя

## Вуліца Маставая, 1916 год

Цудоўную паштоўку (арыгінал) з выглядам Слоніма я атрымаў у падарунак ад сябра з Ваўкавыска Змітра Карабача. На паштоўцы адлюстравана вуліца Маставая (цяпер Янкі Купалы), 1916 год, зіма. Вельмі яркая і якасная паштоўка. Прыемна яе патрымаць у руках. І так хацелася б прайсціся па той Маставой вуліцы з фотаапаратам.



Вуліца Маставая, 1916 год

## На вуліцы Маставой, 1916 год

На гэтым здымку адлюстравана вуліца Маставая (цяпер вуліца Янкі Купалы) у Слоніме падчас Першай сусветнай вайны. Вось так яна выглядала напачатку XX стагоддзя. Вуліца была брукаваная, слупы траплялі нават на вуліцу. Да сённяшніх дзён захаваліся бліжэйшыя будынкі злева і справа. Удалечыні відаць сабор.



На вуліцы Маставой, 1916 год

## Прынц Баварыі ў Слоніме, 1916 год

Падчас Першай сусветнай вайны кайзераўскія салдаты 3 верасня 1915 года ўвайшлі ў Слонім. На працягу 40 месяцаў Слонім знаходзіўся пад уладай немцаў. У Слоніме дыслацыравалася 9-я кайзераўская армія.

Штаб 9-й кайзераўскай арміі падчас Першай сусветнай вайны знаходзіўся ў палацы Пуслоўскіх у Альбярціне. У 1916 годзе ў Слонім і Альбярцін прыехаў прынц Баварыі Леапольд фон Вітэльсбах (1846–1930). Пазней ён быў зяцем аўстрыйскага імператара Франца-Іосіфа. Прынц Леапольд быў вайскоўцам. Яго баварская армія ваявала з Прусіяй у 1866 годзе. Кароль



Людвіг II адправіў прынца Леапольда з Баварыі на поле бітвы ў Францыю ў 1870 годзе ў якасці саюзніка Прусіі. Ён заставаўся ў баварскай арміі і пасля таго, як у 1905 годзе быў прызначаны нямецкім фельдмаршалам.

У 1916 годзе прынц Леапольд фон Вітэльсбах правёў у Слоніме некалькі пасяджэнняў з генераламі штаба 9-й арміі, у Альбярціне ён знаёміўся з бытам вайскоўцаў. А потым на цягніку выехаў на Захад.

## Пажар у Слоніме, 1916 год

Сотні пажараў перажыў Слонім за час свайго існавання. Гарэлі будынкі, саборы, вуліцы, дрэвы… людзі. У агні знікалі архівы, фотаздымкі, іконы, карціны, музычныя інструменты. Але горад над Шчарай выстаяў, не скарыўся, не паддаўся агню і войнам. Не мінуў пажар Слоніма і падчас Першай сусветнай вайны. Не проста тады было тушыць полымя, але слонімцы аддана змагаліся з агнём, адстойвалі кожны куток сваёй маленькай радзімы. Вось як на гэтых рэдкіх здымках.

## Слонімскія дзеці, пачатак ХХ стагоддзя

На такіх вуліцах і плошчах Слоніма напачатку ХХ стагоддзя гулялі слонімскія дзеткі. Ніякіх машын, падводаў, брычак не відаць. Ціха і чыста. Дзеці заўважылі фатографа. Прытуліліся адзін да аднаго, нават трохі спалохаліся. За іх плячыма стаіць дарослы чалавек і назірае, што ў цэнтры Слоніма адбываецца. Як бачыце, час вельмі змяніўся, і змяніўся старажытны горад.


Пажар у Слоніме, 1916 год








Слонімскія дзеці, пачатак ХХ стагоддзя

## Касцёл бернардзінцаў — Свята-Троіцкая царква, першая палова ХХ стагоддзя

Так выглядалі касцёл бернардзінцаў і Свята-Троіцкая царква напачатку ХХ стагоддзя ў Слоніме. Цяпер гэта Свята-Троіцкі сабор з памененым купалам-цыбулінай. Спачатку на гэтым месцы быў драўляны касцёл, а ў 1639–1645 гадах яго замянілі на мураваны, а ў 1864 годзе, пасля задушанага царскімі войскамі паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, касцёл пераабсталявалі пад Троіцкую царкву. На здымках добра бачна і брама, на якой папольску напісана, што там за ёй знаходзілася староства. Брама не захавалася.







## Канал Агінскага, 1916 год

Фотаздымкі канала Агінскага ў Слоніме падчас Першай сусветнай вайны. Немцы на пярэднім плане на замёрзлым канале. Далей — ходзяць людзі, яшчэ далей — рыбакі. На другім здымку немцы чысцяць канал ад снегу. Здаецца, усё, як сёння. Канал не змяніўся, толькі паплытчэў. І магчыма, менш замярзае, чым тады, калі былі снежныя і марозныя зімы.





Канал Агінскага, 1916 год

## Вуліца Татарская, пачатак XX стагоддзя

Вось так выглядала вуліца Татарская ў Слоніме напачатку XX стагоддзя. Як на гэтай паштоўцы. Цяпер вуліцы Татарскай у Слоніме няма, ёсць вуліца Кірава. Савецкая ўлада памяняла гістарычную назву. На вуліцы Татарскай была некалі і прыгожая мячэць. Няма і яе, згарэла…

## Паштоўка з сінагогай, пачатак XX стагоддзя

Такой паштоўкі са слонімскай сінагогай я раней не бачыў. Выпушчана яна была напачатку XX стагоддзя. Выдавец — Харлафа. Што за выдавецтва — не ведаю, хутчэй за ўсё яўрэйскае. Цудоўная паштоўка з людзьмі на першым плане. І выдатны фасад сінагогі.




Вуліца Татарская, пачатак XX стагоддзя



Паштоўка з сінагогай, пачатак XX стагоддзя



## Рэдкі здымак сінагогі

Да 1910 года ў Слоніме дзейнічала 7 сінагог, некалькі малітоўных дамоў і хедэраў, працавалі 4 яўрэйскія вучылішчы. У 1897 годзе ў Слоніме быў створаны першы яўрэйскі прафсаюз. Каля 7 тысяч яўрэяў пражывалі ў Слоніме ў 1921 годзе.

Галоўны будынак слонімскіх яўрэяў — Вялікая сінагога (на Савецкай вуліцы каля рынку) быў пабудаваны на месцы драўлянай у 1642–1648 гадах. Сінагога з'явілася як важная частка абарончай сістэмы горада. У архітэктуры галоўнага фасада сінагогі адчуваюцца рысы гарадзенскай школы барока XVII—XVIII стагоддзяў. У XVIII стагоддзі сінагога ў Слоніме была трохі перабудавана, хоць частка першапачатковай лепкі і росписы захаваліся.

Сёння Вялікую сінагогу ў Слоніме плануюць у бліжэйшыя гады рэстаўраваць і адкрыць там рэспубліканскі музей яўрэйскай культуры.



## Старыя яўрэі ў цэнтры Слоніма, 1922 год

Першая згадка пра яўрэяў у Слоніме адносіцца да 1551 года. У 1642 годзе ў Слоніме была пабудавана вялікая каменная сінагога ў стылі барока, якая захавалася да сённяшніх дзён. У 1766 годзе яўрэйскага насельніцтва ў Слоніме і ваколіцах налічвалася каля 1200 чалавек. А ў 1897 годзе іх на Слонімшчыне было ўжо каля 12 тысяч. У 1826 годзе ў Слоніме з'явілася першая тэкстыльная фабрыка, заснавана яўрэйскім прадпрымальнікам. На ёй працавалі 35 чалавек, у тым ліку 20 яўрэяў.

Напрыканцы XIX стагоддзя ў Слоніме працавалі каля 30 дробных фабрыкаў, амаль усе яны належалі яўрэям.

А ў 1920-х гадах у Слоніме пражывалі каля 7 тысяч людзей яўрэйскай нацыянальнасці, а ў 1931 годзе іх налічвалася каля 9 тысяч.



## Сям'я Мікульскіх у маёнтку Літвы, 1928 год

Сланімчанка Святлана Брайчук у «Слонімскім краі» напачатку 2019 года апублікавала цікавы даследчы артыкул пра лёс знакамітых Ордаў, якія маюць непасрэдныя адносіны і да Слонімшчыны. Матэрыял аўтар аздобіла шматлікімі здымкамі, сярод якіх быў і гэты рэдкі, каштоўны здымак сям'і Мікульскіх у маёнтку Літва ў 1928 годзе (цяпер вёска ў Слонімскім раёне).



## Касцёл Святога Андрэя, 1916 год

Здымак касцёла Святога Андрэя ў Слоніме быў зроблены ў 1916 годзе. Першая сусветная вайна пашкодзіла дах касцёла і побач нейкі будынак. Слонімцы на падводах каля касцёла — або ідзе рамонт храма, або нейкая іншая справа ў гэтых людзей каля пашкоджаных будынкаў. Колькі перажыў наш славуты касцёл Святога Андрэя толькі за адно XX стагоддзе! Але выстаяў, не скарыўся ні перад якімі акупантамі і ідэолагамі.



## Гарадскі рамізнік, 1910-я гады

На вуліцах Слоніма напачатку XX стагоддзя часта ездзілі рамізнікі. Менавіта гэты рамізнік з пасажырамі і быў сфатаграфаваны ў тыя 1910-я гады ў Слоніме. Бачна, што ўся сям'я спыніла рамізніка, села з дзецьмі ў брычку, а нехта стаў на яе прыступкі і ўсе ўважліва глядзяць на фатографа. Рэдкі слонімскі здымак.

## Мясцовая прыгажуня, 1916 год

Люблю гэту фотакартку. Найцудоўнейшы здымак слонімскай прыгажуні, які быў зроблены нямецкім невядомым фатографам зімой 1916 года. Ах, як прыгожа сфатаграфавана! І сланімчанка ў цёплай хустцы, і студня з жураўлём, і драўлянае вядро! Здаецца, піў бы ваду з яе вядра бясконца і любаваўся б усмешкай дзяўчыны. Але ж за яе плячыма бачна, як пазірае ці кавалер, ці муж…







## Вуліцы горада 100 гадоў таму

Вуліцы Слоніма напачатку XX стагоддзя былі брукаваныя, але не ўсе. З абодвух бакоў вуліц знаходзіўся зліў вады. Вуліцы былі вузкія. Па іх ездзілі вазы вось на такіх колах. І колы грукаталі на ўсю вуліцу. А дамы стаялі блізка адзін каля аднаго. У некаторых дамах знаходзіліся прыватныя крамы. Найчасцей яўрэйскія.



## Каля брамы касцёла, 1915 год

Цэнтр Слоніма каля касцёла Бязгрэшнага зачацця Святой Марыі напачатку XX стагоддзя. Гандлёвых радоў не відаць, але да іх крочаць дзве жанчыны. На брукаванцы конь



з мяшка есць сена. Побач з брамай цікавы будынак, які не захаваўся. І самае галоўнае, у цэнтры расло шмат дрэўцаў, якія даглядаліся і абгароджваліся.

## Мячэць, якой няма

Татары ў Слоніме з’явіліся ў XVI стагоддзі. Прайшлі стагоддзі — і ў Слоніме ўзнікла Татарская вуліца (цяпер вуліца Кірава). Напрыклад, у 1897 годзе ў Слонімскім павеце пражывалі 178 татараў. Найбольш клопатаў ім у Слоніме прынесла XX стагоддзе. У верасні 1939 года заможных слонімскіх татар НКУС вывозіў у Сібір. Пасля Другой сусветнай вайны татары актыўна сталі выязджаць на Захад, баючыся новых арыштаў НКУС. У 1946 годзе многія з іх выехалі ў Польшчу. Была ў Слоніме і мячэць, якая знаходзілася на Татарскай вуліцы. Пасля вялікага гарадскога пажару 1881 года аднавіць яе дапамагаў граф Францішак Пуслоўскі, які даваў грошы на будаўнічыя матэрыялы.

Апошні раз мячэць гарэла летам 1944 года. Людзі казалі, што падпаліў яе нямецкі жандар. Ад драўлянай мусульманскай святыні нічога



нашчадкам так і не засталося. Тая слонімская мячэць была драўлянай і выглядала так, як на гэтым здымку 1916 года.

## Казармы і гарнізонная царква, 1916 год

Нямецкі фатограф зрабіў здымак казармаў і гарнізоннай царквы ў 1916 годзе. Старыя казармы захаваліся да сённяшніх дзён. У іх сценах цяпер служаць вайскоўцы Слонімскай 11-й механізаванай брыгады. А вось той гарнізоннай (палкавой) царквы ўжо няма. Здымак быў зроблены зімой. Зверху добра відаць шырокая вуліца, якая вяла на Рышчыцы (цяпер Чырвонаармейская вуліца), і вартавы насупраць казармаў.



## Агароджа вакол кляштара

У першай палове XX стагоддзя касцёл Бязгрэшнага зачацця Святой Марыі і кляштар у цэнтры Слоніма (на сённяшняй Першамайскай вуліцы) быў абнесены агароджай. За ёй раслі кветкі, дрэвы і кусты. Вось так, як на гэтай рэдкай паштоўцы. Такую слонімскую паштоўку мала хто бачыў. Але лепш было б прайсціся па дарожцы ў той час вакол касцёла і кляштара. На жаль, цяпер





Агароджа вакол кляштара

усяго гэтага, што мы бачым на гэтай паштоўцы, няма. Дзякаваць богу, засталіся касцёл і кляштар. Касцёл быў пабудаваны дзесьці ў 1664–1670 гадах, а кляштар прыбудаваны да касцёла ў 1764 годзе.

## Гандлёвая плошча адпачывае, пачатак XX стагоддзя

На гэтай паштоўцы адлюстравана гандлёвая плошча ў Слоніме дзесьці напярэдадні Першай сусветнай вайны. Прыгожая плошча была ў Слоніме. Каплічка бачна, будынкі і некалькі павозак. Выхадны для кірмашу дзень. Няма гандлю, гандлёвыя будкі зачынены, некалькі павозак, прывязаныя коні ядуць сена.



## Кляштар бернардзінак, 1922 год

На здымку здалёк бачна шмат людзей, якія займаюцца рамонтам кляштара бернардзінак. У Слонім прыйшла польская ўлада, якая пратрымаецца да верасня 1939 года. Аднаўляюцца храмы, рамантуюцца вуліцы, з’яўляюцца новыя будынкі…



## Кляштар і касцёл бернардзінцаў, 1923 год

Здымак кляштара і касцёла бернардзінцаў (цяпер праваслаўны Свята-Троіцкі сабор) быў зроблены 95 гадоў таму. Агульны від сфатаграфаваны з усходняга боку кля-



штара і касцёла ад Шчары. Кляштар быў заснаваны як апорны пункт сістэмы гарадскіх абарончых збудаванняў. Гэта з'яўлялася фундацыяй каралеўскага сакратара А. Радвана ў 1630 годзе. Спачатку гэта быў драўляны касцёл, у 1645 годзе заменены магутным мураваным збудаваннем, пасля пераабсталяваны пад царкву ў 1864 годзе (пасля паўстання 1863 года), потым — зноў касцёл, а цяпер — праваслаўны сабор.

## Гурткі Грамады і ТБШ на Слонімшчыне ў 1920–1930-х гадах

У Заходняй Беларусі на тэрыторыі Слонімскага павета дзейнічалі 167 гурткоў Беларускай сялянска-работніцкай грамады (БСРГ), куды ўваходзілі больш за 15 тысяч чалавек. Гурткоў Таварыства беларускай школы (ТБШ) налічвалася 54. Сябры ТБШ адкрывалі народныя дамы, хаты-чытальні, бібліятэкі, беларускія школы, ставілі спектаклі па п'есах беларускіх драматургаў.

## Крашэўскі з пячаткай ТБШ, 1930-я гады

У прыватнай бібліятэцы сланімчанкі Ніны Анішчык захоўваецца ўнікальная кніга беларускага і польскага пісьменніка, гісторыка і фальклярыста Юзафа Крашэўскага (1812–1887). Яна называецца «Banita» (Czasy Batorego). Кніга была выдадзена ў Варшаве ў 1898 годзе. На ёй стаіць штамп «Таварыства Беларускай Школы. Гурток у м. Азярніца Слонімскага павета».

Сапраўды, у 1920–1930-х гадах у мястэчку Азярніца Слонімскага павета быў самы актыўны і шматлюдны гурток Таварыства беларускай школы. Сябры гуртка нават мелі свой радыёпрыёмнік, па якім слухалі ўсе навіны. А таксама вялікую бібліятэку, у якой знаходзіліся і творы Юзафа Крашэўскага.

## Слонімскае староства, 1920–1936 гады

У кляштары бернардзінцаў, дзе цяпер знаходзіцца інтэрнат Слонімскага медыцынскага каледжа, пры Польшчы месцілася Слонімскае староства. Сам будынак, які быў пабудаваны па праекту архітэктара Ханенберга, пад адміністрацыйныя ўстановы быў перададзены яшчэ напачатку XX стагоддзя. Пры ўваходзе ў будынак у 1920–1939 гадах пра староства нагадвала шыльда. Прыгожай была і сама канферэнцыйная зала пасяджэнняў. У ёй не было ніякіх партрэтаў прэзідэнтаў, а толькі каталіцкі крыж, невялікія люстры, здымак Слоніма і дыплом. Усё гэта адлюстравана на здымках.

Народны дом у вёсцы Вострава, 1929 год



Кніга Ю. Крашэўскага з пячаткай ТБШ, 1930-я гады


BANITA

(Czasy Batorego)

PRZEZ

J. I. KRASZEWSKIEGO.

ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ ШКОЛЫ. ГУРТОК у м. АЗЯРНІЦА Слонімскага павету

№

WARSZAWA.
Nakładem Michała Glücksberga.
1898.







## Вакзал, 1928 год

Сучасны вакзал у Слоніме быў пабудаваны разам з воданапорнай вежай у 1922 годзе. А вуліца Вакзальная, на якім яны знаходзяцца, у Слоніме ўзнікла пасля 1886 года, калі з'явілася чыгунка Баранавічы–Слонім–Беласток–Варшава. Вакзал быў пабудаваны пры Польшчы з цэглы ў стылі мадэрн. У такім стылі ў Заходняй Беларусі тады было пабудавана некалькі вакзалаў. У прыватнасці, у Бельску-Падляскім (цяпер Польшча). Наш вакзал і вежа захаваліся да сённяшніх дзён.



Вакзал, 1928 год

## Брама-званіца ў цэнтры Слоніма, 1922 год

Гэта цэнтр Слоніма каля касцёла бернардзінак. А так выглядала брама-званіца ў 1922 годзе. А да самай званіцы падыходзіць галоўная брукаваная вуліца. Здаецца, вось-вось па ёй паедуць рамізнікі і павязуць пасажыраў у Рышчыцы або ў Альбярцін.



## Драўляны асабняк 1923 года

Не магу сёння змірыцца з тым, навошта было знішчаць напачатку нашага стагоддзя ў Слоніме на Савецкай вуліцы драўляныя будынкі пачатку 1920-х гадоў. Яны былі пабудаваны з дрэва ў формах сядзібнай архітэктуры другой паловы XVIII — пачатку XIX стагоддзя. Асабняк знаходзіўся ў глыбіні адасобленага ўчастка тэрыторыі ў акружэнні бярозавых пасадак. Пэўны час гэтыя будынкі выкарыстоўваліся пад бальніцу. А потым вырашылі іх знішчыць. Цяпер пустуе месца. А гэта ж — старая драўляная архітэктура! Тут можна было зрабіць для









турыстаў этнаграфічны і літаратурны музеі, адкрыць пару кафэ ды шмат чаго яшчэ. Месца ж цудоўнае… Ды не, лягчэй за ўсё знішчыць…

## Каплічка Святога Даменіка, 1925 год

Усе слонімцы ведаюць і бачылі каля стадыёна на вуліцы Пушкіна ў Слоніме каплічку Святога Даменіка з яго фігуркай. Так каплічка выглядала ў 1925 годзе.



## Слонім, канец 1930-х гадоў

Люблю Слонім першай паловы XX стагоддзя. Асабліва яго брукаваныя вуліцы. Вось такія вуліцы, як на фотаздымку Слоніма канца 1930-х гадоў, які зрабіў Раман Вішняк. Не ведаю толькі, як ездзілі на вазах з такімі коламі, ды яшчэ па брукаванцы… Гэта ж не па пяску… Грукаталі колы, а на возе трэсла, як ад ліхаманкі… Але ж ездзілі, жылі…



## Слонімскія боны, 1920–1930-я гады

З кастрычніка 1922 года да восені 1939 года ў Слоніме дыслацыраваліся 79-ы пяхотны полк імя Льва Сапегі і 80-ы полк навагрудскіх стралкоў. Расквватаравалі вайскоўцаў у былых царскіх казармах, якія былі пабудаваныя разам з царквой у 1884–1886 гадах для царскага Шуйскага пяхотнага палка. Дарэчы, гэтыя казармы збераглiся да сённяшніх дзён, там цяпер знаходзяцца



вайскоўцы Слонімскай 11-й механізаванай брыгады.

Кааператывы спажыўцоў 79-га пяхотнага палка імя Льва Сапегі, а таксама 80-га палка навагрудскіх стралкоў мелі свае металічныя боны. Іх атрымлівалі жаўнеры, каб за іх купляць прадукты ў буфетах і крамах. Напрыклад, боны «Spółdzielnia 79 p.p., Słonim» (кааператыў 79-га пяхотнага палка, Сло-нім) былі надчаканены лічбамі «79/36», «79/34», «Spółdzielnia 80 p.p., Słonim» (кааператыва 80-га пяхотнага палка, Слонім) — «80/36».




## Каля крамы ў Азярніцы, 1923 год

У такіх будынках знаходзіліся вясковыя крамы ў 1920-х гадах на Слонімшчыне. Гэтая харчовая крама ў вёсцы Азярніца належала Хрысціянскаму кааператыву спажыўцоў. Невядомы фатограф зрабіў некалькі здымкаў у краме і на ганку крамы. Сфатаграфавалася і сама прыгожая гандлярка з вяскоўцамі.



## Гандлёвая плошча, 1920-я гады

Плошча Леніна ў Слоніме ў 1920-я гады выглядала так, як на гэтым старым здымку. І ніхто таварыша Леніна тады ў Слоніме не ведаў і не чуў пра яго. Гэта пасля вайны на былой Гандлёвай плошчы ўзнік скверык і плошчу назвалі плошчай Леніна. Прыйдзе час, і назва гэтая знікне сама па сабе. Бо месца тут у Слоніме — гістарычнае. Сёння вакол скверыка знаходзяцца тэатр, музей, былая ратуша, дзе месціцца раённая бібліятэка імя Якуба Коласа, крамы. А 1 верасня 2019 года у скверыку паўста-





не сам Леў Сапега (1557–1633) — былы слонімскі староста і гетман Вялікага Княства Літоўскага.

## Паштоўкі пра пяхотныя палкі

Да 1939 года ў польскіх 79-м і 80-м пяхотных палках у Слоніме служыла шмат беларусаў са Слонімскага і суседніх паветаў. Палякі ўшаноўваюць памяць пра гэтыя палкі, а мы мала пра іх ведаем. Пра іх у Польшчы пішуцца і выдаюцца кнігі. А пару гадоў назад там былі выпушчаны і некалькі паштовак, прысвечаныя гэтым палкам.










## Баржы на канале Агінскага, 1931 год

Нават і не верыцца, што некалі па канале Агінскага хадзілі вось такія баржы. На іх можна было пакатацца, сфатаграфавацца, адпачыць. У 1930-х гадах да прыстані Слонім былі прыпісаны два катары: «Шчара» і «Тадэвуш Рэйтан». Усе службовыя памяшканні воднай гаспадаркі і прыстань знаходзіліся на канале Агінскага на месцы цяперашняга парку. З вясны 1947 года ў Слоніме было шэсць буксірных катараў, некалькі трафейных жалезных баржаў. Да 1957 года ў Слоніме нават існавала прафесія рачніка.

А цяпер канал Агінскага ў Слоніме і рэчку Шчару магчыма лёгка перайсці з берага на бераг. Вады па пояс, а месцамі па калена. Час высушвае нашы рэкі і каналы… Шкада.



Баржы на канале Агінскага, 1931 год

## Вуліца Сянкевіча, 1930-я гады



На гэтым рэдкім здымку адлюстравана вуліца Сянкевіча ў Слоніме. Цяпер гэта Першамайская вуліца. Да вайны гандлёвыя рады падзялялі вуліцу на дзве — Сянкевіча і Міцкевіча. На вуліцы Сянкевіча знаходзіўся касцёл бернардзінак. І калі б мы ішлі з Гандлёвай плошчы (цяпер плошча Леніна) у бок касцёла непакалянак, то вось такой убачылі б вуліцу і пабудовы на ёй 80–90 гадоў таму.

## Харцэры, 1930-я гады

Прыгожыя слонімскія хлопцы з'яўляліся сябрамі Саюза польскіх харцэраў. Была такая добраахвотная масавая арганізацыя дзяцей і моладзі да 1939 года. Сюды ўваходзілі і слонімскія хлопцы. На роварах яны вольна ездзілі па горадзе і вёсках, хоць сам ровар пры Польшчы каштаваў дужа дорага. Пра той час і нагадаў сёння гэты здымак, зроблены ў Слоніме.



Харцэры, 1930-я гады

## Слонім-Жыровічы, 1930-я гады



Падпісаны здымак, як Слонім, але на ім адлюстраваны галоўны корпус былой сельскагаспадарчай школы ў Жыровічах. Здымак быў выдадзены ў Слоніме кнігарняй Шэрашэўскага ў 1930-х гадах. Кнігарня знаходзілася на былой вуліцы Сянкевіча, 5а.



## Слонімская кнігарня Абрамовіча, 1930-я гады



SKRÓT HISTORJI NOWOŻYTNEJ

WEDŁUG NAJNOWSZYCH PODRĘCZNIKÓW SZKOLNYCH

opracował prof. ANTONI WALECKI

NAKŁADEM A. F. MITTLERA W ŁODZI

У маёй хатняй бібліятэцы захоўваецца невялікая кніжачка на польскай мове «Кароткая гісторыя Новага часу паводле найноўшых падручнікаў школьных», якую апрацаваў прафесар Антоні Валецкі. Гэта старое выданне 1930-х гадоў знаходзілася ў асабістай бібліятэцы беларускага спевака Міхася Забэйды-Суміцкага (1900–1981) у Празе. Некалькі гадоў назад кніжку даслаў мне паэт Сяргей Панізьнік. І даслаў яе невыпадкова. На кніжцы стаіць штамп на польскай мове «Кнігарня Абрамовіча. Слонім. Міцкевіча, 1, прыватны дом». Гэтым кніжка для нас, слонімцаў, і цікавая. Значыць, да вайны ў Слоніме была кнігарня Абрамовіча, дзе і прадавалася гэтае выданне. Магчыма, у Слоніме і набыў слынны спявак сабе гэтую кніжку, бо ён некалькі разоў бываў у нашым горадзе і нават выступаў на сцэне Народнага дома, дзе цяпер знаходзіцца будынак драматычнага тэатра.



## Слонімцы, 1930-я гады



Жыхарка Слоніма Алена Яфімік паказала свой сямейны стары альбом. У гэтым тоўстым альбоме захоўваецца шмат розных здымкаў пачынаючы з 1930-х гадоў. Гэта не толькі сямейныя фатаграфіі, але і фотаздымкі землякоў, сяброў, знаёмых. Вельмі шкада толькі, што не ўсе яны пад-

Касцёл Божага цела, 1939 год



пісаны з адваротных бакоў. Але ёсць шмат і падпісаных, стаяць штампы слонімскіх фатографаў. Мне спадабаліся некаторыя, асабліва фотаздымкі слонімцаў 1930-х гадоў. Адзін здымак быў зроблены 23 кастрычніка 1938 года. На ім жэніцца слонімец Мікалай Кадаўбік. Паглядзіце, якая прыгожая слонімская пара і якія на вяселлі гулялі тады прыгожыя хлопцы і дзяўчаты, апранутыя ў шыкоўныя касцюмы і сукенкі. Гледзячы на гэтых маладых слонімцаў, скажыце, калі ласка, калі мы хадзілі ў лапцях і хадаках?.. Гэтыя фотаздымкі былі зроблены ў фотамайстэрні Барыса Вайнштэйна, якая знаходзілася на вуліцы Панятоўскага ў Слоніме.

На іншым здымку сфатаграфавана Марыя Карманава ў 1930-х гадах у фотамайстэрні Дзерачынскага ў Слоніме. Хто побач з Марыяй стаіць — невядома.

А таксама даваенны здымак юных слонімскіх непакалянак. З адваротнага боку здымка на польскай мове напісаны некаторыя прозвішчы. Сярод слонімскіх дзяўчынак ёсць Шляга Клара, Мурашкевіч Рэгіна, Лепяшанка Геня, Гажыкуўна Міра, Скаўронская Ядзя, Скатніцкая Данка, Глінская Нюся, Пархута Вера, Навадворская Зоф'я, Ахніцкая Зося і Пянткоўская Рэгіна. Астатнія — невядомыя. Фотаздымак быў зроблены ў фотамайстэрні Барыса Вайнштэйна.

## Касцёл Божага цела, 1939 год

Так выглядаў касцёл Божага цела ў цэнтры Слоніма ў 1939 годзе. Цяпер на гэтым месцы пабудаваны Спаса-Праабражэнскі сабор (насупраць гасцініцы «Шчара»). Касцёл зачынілі і перадалі дзяржаўнай уладзе ў ліпені 1845 года, а праваслаўнай царкве будынак быў перададзены ўжо ў кастрычніку 1845 года, пасля чаго яго перабудавалі. Тады і былі дабаўлены «цыбуліны», якія мы можам бачыць на фотаздымку. На час Другой сусветнай вайны будынак касцёла быў у маёмасці праваслаўнай царквы ўжо амаль сто гадоў.

## Слонімскія тунэлі

Некалі мне былая дырэктар Слонімскага краязнаўчага музея Ірына Рыгораўна Шпыркова казала, што ў Слоніме няма ніякіх падзямелляў і тунэляў. Так я ёй і паверыў! Усё ёсць. І Слонім наш стаіць на тунэлях і падзямеллях, якія вядуць ад храмаў да храмаў. З'яўляліся падземныя хады ў Слоніме тады, калі існаваў слонімскі замак, калі будаваліся розныя храмы і адміністрацыйныя будынкі пры Льву Сапегу і калі існаваў тэатр Агінскага. У XX стагоддзі і цяпер гэтыя хады пры розных работах замуроўваюцца і хаваюцца далей ад людзей. Гэта даволі цікавая тэма. І спадзяюся, што пра слонімскія тунэлі і падзямеллі яшчэ напішуцца і выдадуцца кнігі.





Выяўлены ў 1970 годзе тунэль у Слоніме



Уваход у падзямелле

## Уваход у падзямелле

Не ведаю, ці захаваўся сёння гэты надпіс у былым слонімскім касцёле бернардзінцаў (цяпер гэта Свята-Троіцкі сабор, які знаходзіцца за тэатрам). А да Другой сусветнай вайны быў і надпіс, і ўваход у падзямелле. Ход вёў хутчэй за ўсё не ў бок канала Агінскага, а толькі ў кляштар бернардзінцаў і, магчыма, у касцёл бернардзінак (цяпер Першамайская вуліца). Але ход быў, і было падзямелле. Доказ — гэты надпіс перад уваходам у падзямелле. Эх, слонімскія падземныя муры зберагаюць шмат тайнаў...

## Каля Народнага дома на Гандлёвай плошчы, 1930-я гады

Мне падабаецца гэты рэдкі слонімскі здымак. Ён быў зроблены каля Народнага дома на Гандлёвай плошчы (сёння плошча Леніна). Цяпер тут месцяцца драмтэатр і магазін «Гардэроб». Нейкі вайсковец спакойна паехаў на ровары. На вокнах будынка бачны аканіцы,



Каля Народнага дома на Гандлёвай плошчы, 1930-я гады

якія нанач зачыняліся. На пярэднім плане — мужчына ў касцюме пад гальштукам. Навокал цішыня і спакой… Такім быў Слонім у 1930-х гадах.

## Янка Купала на «Шаўрале» заязджаў да Г. Леўчыка ў Слонім, 1939 год

Да беларускага пісьменніка, калекцыянера, музыканта і мастака Гальяша Леўчыка (1880–1944) у Слонім прыязджалі многія беларускія дзеячы. Гасцявалі ў яго хатцы мастак Язэп Драздовіч, пісьменніца і грамадская актывістка Зоська Верас, фальклярыст і кампазітар Антон Грыневіч, пісьменнік Міхась Лынькоў, каталіцкі святар Адам Станкевіч і нават аднойчы завітаў сам Янка Купала. А было гэта 14 лістапада 1939 года. Пясняр вяртаўся з Беластока з Народнага сходу Заходняй Беларусі. Па дарозе на Мінск ён заехаў у Слонім, бо ведаў, што тут жыве былы нашаніўскі аўтар Гальяш Леўчык. На сваім «Шаўрале» Янка Купала пад'ехаў да хаткі паэта. Воклічы радасці вырваліся з грудзей старых паэтаў. Сябры шчыра абняліся, і Леўчык запрасіў Янку Купалу ў сваю маленькую хатку. Яна стаяла на вуліцы 1 Мая (цяпер Чырвонаармейская вуліца), дзе быў Слонімскі аўтарамонтны завод, якога зараз ужо няма. А хатка Леўчыка прастаяла да пачатку 1960-х гадоў, але завод пашыралі і гістарычную хатку знішчылі.





Хатка, у якую ўвайшоў Янка Купала, нагадвала маленькую залу музея. Усе сцены былі завешаны малюнкамі і фотаздымкамі. Шмат на паліцах стаяла кніг і ляжала рукапісаў. Сябры прыселі на ўслончык, які стаяў каля акна. «Ну, як жывеш, Гальяш?» — спытаў Купала. «Як жыву?.. Бульба ёсць, запалкі ёсць… Вось так і жыву! А ты?..» — запытаў Леўчык. «Вось бачыш — ордэн далі, дачу далі, «Шаўрале» падаравалі, не так, як ты. Прыедзеш да мяне, сам пабачыш», — пахваліўся Янка Купала…



Будынак з сядзібы Пуслоўскіх



Пасля гутаркі песняр запрасіў Гальяша Леўчыка ў «Першы беларускі рэстаран», які знаходзіўся ў цэнтры Слоніма. Яны паабедалі разам і развіталіся. Больш у жыцці паэтам сустрэцца не давялося. Эх, знайсці хоць бы сёння той услончык, дзе ў гэтай хатцы сядзелі Янка Купала і Гальяш Леўчык!..

А вось купалаўскі аўтамабіль «Шаўрале» — Chevrolet Master Deluxe GA — быў выпушчаны ў 1937 годзе. У 2010 годзе аўтамабіль адрэстаўравалі, і цяпер ён знаходзіцца ў філіяле Дзяржаўнага літаратурнага музея імя Янкі Купалы ў Ляўках. На ім Янка Купала і прыязджаў у Слонім.

## Будынак з сядзібы Пуслоўскіх

Час і стагоддзі знішчылі шмат помнікаў і пабудоў у Слоніме. Моцна пацярпеў і Альбярцін — адзін з найпрыгажэйшых мікрараёнаў Слоніма. Даўно няма ўнікальнага будынка з агульнага сядзібна-паркавага ансамбля палаца Пуслоўскіх. А гэты будынак, як і сам парк з каштоўнымі дрэвамі і кустамі, маглі б сёння ўпрыгожыць Альбярцін.

## Хатнія птушкі Пуслоўскага

Каля палаца Пуслоўскіх у Альбярціне ў 1920–1930-х гадах была поўная дэмакратыя. Вольна сябе адчувалі нават хатнія птушкі, якія спакойна гулялі каля палаца. Дзеці сабе адпачывалі, а індыкі — сабе. Ніхто нікому не шкодзіў. Так іх і захаваў невядомы фатограф для гісторыі.



## Пуслоўскі каля палаца, 1930-я гады

Здымак зроблены ў Альбярціне дзесьці ў 1930-х гадах. На ім адлюстраваны адзін з Пуслоўскіх — гаспадароў палаца — з сабакам. Бачны кусты і садоўнік каля будынка, сам фасад яго трохі адрозніваецца ад сучаснага. Вельмі шмат дрэў, кустоў. Прыгожае месца вакол палаца Пуслоўскіх.



## Садоўнік Пуслоўскіх, 1930-я гады

Пуслоўскія ў Альбярціне мелі вялікі сад. Гэты сад даглядаў Эдмунд Брэнэк. Звестак пра яго захавалася мала. Вядома толькі, што пан Брэнэк не толькі даглядаў сад, а саджаў новыя саджанцы, закупляў іх у Еўропе, праводзіў розныя доследы, эксперыменты з саджанцамі. І сад у Пуслоўскіх быў адным з лепшых ва Ўсходняй Еўропе.



## Ільвы ў Альбярціне

Галоўны ўваход палаца Пуслоўскіх у Альбярціне аформлены скульптурамі двух ляжачых ільвоў — дэкаратыўны элемент архітэктуры класіцызму першай паловы XIX стагоддзя. Аўтарам гэтых ільвоў быў вялікі італьянскі скульптар Антоніа Канова (1757–1822). Папа Пій VII загадаў упісаць яго імя ў Залатую кнігу Капітолія і надаў яму тытул маркіза д'Іскіа. Самыя вялікія яго працы цяпер знаходзяцца ў парыжскім Луўры і ў пецярбургскім Эрмітажы. Напэўна, Антоніа Канова быў добра знаёмы яшчэ з Войцехам Пуслоўскім, па просьбе якога і былі зроблены ў Альбярціне гэтыя шыкоўныя скульптуры — ільвы і вазы. Яшчэ два венецыянскія львы стаялі каля ўваходу на тэрасу. Але яны не захаваліся. Калі палац Пуслоўскіх належаў Слонімскаму кардонна-папяроваму заводу «Альбярцін», то і сам палац, і каменныя львы з вазамі перад палацам добра дагляладаліся. Іх штогод аднаўлялі, мылі спецыяльнымі шчоткамі, сачылі за іх прыгажосцю і станам. Менавіта львы і вазы прыцягваюць сюды турыстаў з усяго свету, якія найперш любяць тут сфатаграфавацца і пачуць гісторыю іх з'яўлення. Але ў апошні час стан каменных ільвоў і вазаў вельмі небяспечны. Гэтыя найвыдатнейшыя помнікі італьянскага скульптара просяць дапамогі. І калі гэтая дапамога помнікам першай паловы XIX стагоддзя не будзе аказана, яны могуць разбурыцца.











## Кляштар, 1930-я гады

У 1930-х гадах у Слоніме была надрукавана гэтая паштоўка. На ёй адлюстраваны кляштар бернардзінак у цэнтры Слоніма на Першамайскай вуліцы. І дворык каля кляштара ў першай палове XX стагоддзя.



Кляштар быў пабудаваны з цэглы ў стылі барока паміж 1664 і 1670 гадамі.

## Сабачы жэтон, 1933 год

Пры Польшчы (1920–1939) кожная сям'я павінна была рэгістраваць сваіх хатніх сабак. Ім выдаваліся спецыяльныя жэтоны. Сабакі насілі іх на шыі. Магчыма, такія жэтоны выдавалі толькі для паляўнічых сабак. Вось так выглядаў слонімскі жэтон для сабак у 1933 годзе.




## Дзеці з Вялікай Кракоткі, пачатак 1930-х гадоў

Ужо не памятаю, як у мой архіў трапіў гэты фотаздымак. Ён быў зроблены напачатку 1930-х гадоў у вёсцы Вялікая Кракотка каля мясцовай школы. У сонечны цёплы дзень невядомы нам фатограф (на адваротным баку лацінкай напісана: Wyk. fotoamator A. Z. W. Krokotka) сабраў дзяцей, каб зрабіць гэты здымак і пакінуць яго на памяць нашчадкам. Як склаўся лёс гэтых хлопчыкаў і дзяўчынак? Невядома…

## Пошта, 1920–1930-я гады

Вельмі цікавы здымак былой вуліцы Тадэвуша Касцюшкі ў Слоніме. Цяпер вуліцы Касцюшкі ў Слоніме няма. Але, дзякаваць богу і людзям, захаваўся будынак старой пошты. Гэта прыгожы, арыгінальны і гістарычны будынак.





Пошта, 1920–1930-я гады



Падобнага будынка больш у Беларусі няма. Побач з поштай знаходзіўся вялікі драўляны прыватны дом. Ён, на жаль, не захаваўся. Гэты здымак быў зроблены ў канцы 1920-х, а магчыма, напачатку 1930-х гадоў.

## Невядомы партрэт Францішка Скарыны, намаляваны Гальяшом Леўчыкам



У прыватным архіве літаратуразнаўца і краязнаўца Міхася Казлоўскага з Маладзечна захоўваецца ўнікальны і раней нікому невядомы партрэт беларускага асветніка і першадрукара Францішка Скарыны. Гэты партрэт быў намаляваны слонімскім паэтам і мастаком Гальяшом Леўчыкам (1880–1944) напачатку ХХ стагоддзя. Партрэт Скарыны мастака Леўчыка Міхасю Казлоўскаму падараваў некалі энцыклапедыст і літаратуразнавец Янка Саламевіч (1938–2012).

Дарэчы, Янка Саламевіч даследаваў творчасць Гальяша Леўчыка і выдаў да яго 100-годдзя невялікую кнігу выбраных твораў «Доля і хлеб» (Мінск, 1980). Відаць тады і трапіў да Саламевіча гэты партрэт першадрукара. Як мастак Гальяш Леўчык мала даследаваны, і захавалася не так і шмат яго твораў. Вядома толькі, што свой першы зборнік вершаў «Чыжык беларускі», які пабачыў свет у 1912 годзе ў Вільні, Леўчык афармляў сам.

## Вуліца Міцкевіча, 1930-я гады

Вуліца Міцкевіча. Злева гандлёвыя рады, а каля іх стаіць цэлая калона брычак з рамізнікамі. Яны чакаюць сваіх пасажыраў, як сёння таксісты. Добрая брукаваная вулі-

Вуліца Міцкевіча, 1930-я гады



ца, гэта сённяшняя вуліца Першамайская. Эх, сеў бы зараз да аднаго з рамізнікаў і паехаў бы ў брычцы па брукаванцы па вуліцах даваеннага Слоніма.

## Паштоўка з вуліцай Мастакой, 1930-я гады

Паштоўку ў 1930-я гады выпусціла слонімская кнігарня Рыпа, якая знаходзілася на вуліцы Міцкевіча. Дзеці і дарослыя так уважліва глядзелі на фотаапарат, што трапілі на паштоўку. Удалечыні бачны будынак, узведзены ў 1905 годзе. Ён захаваўся. Цяпер вуліца Мастава носіць імя Янкі Купалы, які ў 1939 годзе прыязджаў у Слонім да Гальяша Леўчыка, калі вяртаўся з Беластока ў Мінск. І па гэтай Мастваой вуліцы ён на сваім «шэўрале» выязджаў на сталіцу.

## Царква ў цэнтры Слоніма, 1939 год

Так выглядала праваслаўная царква і вуліца каля яе ў 1939 годзе. Да праваслаўнай царквы гэта быў каталіцкі касцёл Божага цела. Цяпер няма ні таго касцёла і ні той царквы.





Бо ў 1941 годзе ў храм трапілі снарады, а пасля вайны напачатку 1960-х гадоў яго цалкам знішчылі. Цяпер на гэтым месцы ўзвышаецца Спаса-Праабражэнскі сабор.

Паштоўка з вуліцай Маставой, 1930-я гады



## Супрацоўнікі Чырвонага Крыжа ў Слоніме, 1930-я гады

Слонімскі парк заклалі яшчэ да Першай сусветнай вайны — паміж сучаснымі вуліцамі Пушкіна і Хлюпіна. Гэта, па сутнасці, быў рэнесансны парк з танцпляцоўкай, альтанкай і лавачкамі. А потым, пасля Другой сусветнай вайны, парк чварталі на дзялянку для дзіцячага садка, для прыватных забудоў, для мемарыяла з Вечным агнём, калі сам парк на той час быў ужо зялёным прыгожым мемарыялам.

Да вайны ў гэтым парку любілі ўсе фатаграфавацца. І нават супрацоўнікі Слонімскага Чырвонага Крыжа зрабілі ў парку фота на памяць. Атрымаўся гістарычны і прыгожы здымак. У першым радзе (пяты справа) сядзіць доктар Уладзіслаў Маліноўскі. Ён у свой час скончыў Маскоўскі медыцынскі ўніверсітэт, стаў земскім урачом. Пры слонімскім магістрацe доктар Маліноўскі ўзначальваў Чырвоны Крыж — нешта накшталт паліклінікі, дзе кожны мясцовы жыхар бясплатна мог атрымаць медыцынскую дапамогу. Пры ўрачу быў і фельчар — гэтую пасаду займаў бацька нашага пісьменніка Алега Лойкі — Антон Лойка (стаіць трэці злева ў другім радзе). Менавіта Маліноўскі вывеў Антона Лойку ў сапраўдную медыцыну, у народныя лекары. Уладзіслаў Маліноўскі ў 1931 годзе паслаў Антона Лойку ў Варшаву на санітарныя курсы. А пасля курсаў Лойка стаў санітарным кантралёрам усяго даваеннага Слоніма.

Дарэчы, доктар Уладзіслаў Маліноўскі быў некалі знаёмы з Янкам Купалам і нават яго лячыў.

Побач з доктарам Маліноўскім (справа ад яго) сядзіць нехта Кавальчык. Якую пасаду ён займаў — невядома. Трэці справа сядзіць вядомы на той час у Слоніме доктар Эфрас. Пра астатніх асобаў на гэтым здымку звестак адшукаць не ўдалося.



## Гарадскі парк, 1930-я гады

З паркамі Слоніму ніколі не шанцавала. Быў у горадзе ў першай палове XX стагоддзя таксама гарадскі парк. Даволі невялікі, але, па тых гадах, больш-менш утульны. Захавалася некалькі паштовак з гэтым паркам. Адна з іх — даволі рэдкая. Прадавалася гэтая паштоўка ў слонімскай кнігарні Z. Lubowskiego.



## У гарадскім парку, 1930-я гады

Паштоўка была выпушчана ў Слоніме кнігарняй Рыпа да 1939 года. На ёй адлюстраваны гарадскі парк адпачынку. Цяпер на гэтым месцы знаходзяцца Вечны агонь і сад № 3. Тут слонімцы прызначалі спатканні сваім каханым і каханкам, гулялі з дзеткамі і любілі фатаграфавацца.



## Слонімскі асяродак здароўя, да 1939 года

Будынак, у якім да Другой сусветнай вайны знаходзілася медыцынская ўстанова. Па-польску напісана злева: Ośrodek Zdrowia PCK — Асяродак здароўя (медпункт, здраўпункт) Польскага Чырвонага Крыжа. Справа напісана: Przychodnia Przeciwgruźlicza — Процітуберкулёзны дыспансер (два ніжнія радкі не чытаюцца). Гэты будынак на сённяшняй Камсамольскай вуліцы захаваўся і цяпер.

Здымак каштоўны яшчэ і тым, што на ім сфатаграфаваны слонімскія даваенныя ўрачы. Стаяць на прыступках доктар Маліноўскі, доктар Эфрас, а за Маліноўскім — доктар Антон Лойка — бацька нашага пісьменніка Алега Лойкі.

## Слонімскія вандроўкі, 1933 год

У 1933 годзе ў Слоніме выйшла невялічкая, але вельмі каштоўная кніжачка са здымкамі на польскай мове WYCIECZKI SŁONIMSKIE. Яе аўтарам быў Станіслаў Лорэц (1899–1991). Пражыў ён доўгае жыццё, стаў акадэмікам, узначальваў Дырэкцыю нацыянальных музеяў і ахову помнікаў у Варшаве. А пачынаў сваю даследчую працу менавіта з гісторыі Слоніма і яго ваколіц.

## Вуліца Тадэвуша Касцюшкі з тумбай, 1930-я гады

Вельмі цікавая паштоўка была выпушчана кнігарняй Рыпа ў Слоніме ў 1930-х гадах. Гэта вуліца Тадэвуша Касцюшкі (цяпер вуліца





Слонімскі асяродак здароўя, да 1939 года




Слонімскія вандроўкі, 1933 год

Маякоўскага). На гэтым здымку добра бачна справа рэкламная тумба. Гэтая тумба, як распавядаюць старыя людзі Слоніма, стаяла ў нашым горадзе і ў 1970-х гадах. Тумба гістарычная, ёй было 200 гадоў. Куды і калі яна знікла — не ведаю. Некаторыя будынкі, якія адлюстраваны на гэтай паштоўцы, захаваліся, іншых няма. Шкада, прыгожая была вуліца Касцюшкі.




Вуліца Тадэвуша Касцюшкі з тумбай, 1930-я гады

## Свята ў цэнтры горада, 1930-я гады

Гарадское свята на Рынкавай плошчы ў цэнтры Слоніма (цяпер плошча Леніна). На свята прыйшло шмат людзей. Сярод усіх прысутных — гарадское польскае начальства, вайскоўцы. І добра бачна вельмі прыгожая і шырокая брукоўка.









Слонімскія масты

## Пра масты, 1930-я гады

Слонімскія масты маюць сваю вялікую гісторыю. Пра іх можна напісаць асобную кнігу. Масты ў Слоніме будаваліся ва ўсе стагоддзі. Яны разбураліся, гарэлі, узрываліся, потым зноў аднаўляліся. Праз масты (а яны пракладваліся праз Шчару і канал Агінскага) рухаліся з захаду на ўсход і з усходу на захад. Праз слонімскія масты праходзілі французы, немцы, палякі, рускія, бальшавікі — усе, хто ў розныя стагоддзі акупаваў горад над Шчарай. Без мастоў Слонім не існаваў. Масты ў Слоніме здымалі фатографы ў XX стагоддзі, іх малявалі мастакі і ў пазамінулых стагоддзях.

## Вайсковая памятка, 1930-я гады

У вольны час жаўнеры пяхотных палкоў часта фатаграфаваліся ў Слоніме і дасылалі сваім родным і блізкім фотаздымкі на памяць. У асноўным гэтыя фотаздымкі ў Слоніме рабіў фатограф Б. Вайнштэйн, фотамайстэрня якога знаходзілася на вуліцы Панятоўскага. На многіх фотаздымках зверху было напісана па-польску: «Памятка са Слоніма», як на гэтым.






## Паводка ў Слоніме, 1931 год



То пажары, то паводкі Слонім турбавалі ў мінулых стагоддзях даволі часта. Вялікая паводка была ў горадзе над Шчарай у 1931 годзе. Вада змывала пабудовы, агароды і вуліцы. Быў затоплены вялікі раён Слоніма, асабліва той, які знаходзіўся бліжэй да Шчары і канала Агінскага. Што сабой уяўляла тады паводка, добра бачна і на гэтым здымку 1931 года.

## Канал Агінскага, 1933 год

Паштоўка з каналам Агінскага ў Слоніме з'явілася ў 1933 годзе. І так ён выглядаў: берагі канала вельмі дагледжаныя, і лодачныя станцыі дзейнічалі. Так хочацца вярнуцца сёння на той канал і паплаваць па ім на байдарках і каноэ.



Канал Агінскага, 1933 год

## Крэйсер на канале Агінскага, 1935 год

Такі крэйсер плаваў па канале Агінскага ў 1935 годзе. Магчыма, ён быў зроблены да нейкага польскага свята. І плыў па канале, каб парадаваць жыхароў Слоніма. На судне бачны польскі сцяг, шмат іншых сцяжкоў. Так што ў Слоніме і ў 1920–1939 гадах умелі наладжваць розныя мерапрыемствы.



Крэйсер на канале Агінскага, 1935 год

## Рэдактар газеты «Піянер» Уладзімір Бялько

Напрыканцы 1932 — у пачатку 1933 года вясковая моладзь на Слонімшчыне выдавала газету «Піянер». Газету пісалі прыгожа ад рукі і памнажалі на шапіраграфе. Наклад выдання быў каля 200 асобнікаў. Газета выдавалася ў вёсках Какошчыцы і Мяльканавічы, але распаўсюджвалася і ў іншых вёсках Слонімскага павета.

Адказным рэдактарам «Піянера» быў Уладзімір Бялько. Нарадзіўся ён у 1911 годзе ў вёсцы Мяльканавічы. Скончыў польскую пачатковую школу ў сваёй вёсцы і паступіў у Віленскую беларускую гімназію. Але скончыць гімназію юнаку не ўдалося. За камсамольскую дзейнасць яго з гімназіі адлічылі. Валодзя вяртаецца ў дахаты. Днём ён разам з братамі працаваў па гаспадарцы, вечарамі працягваў займацца самаадукацыяй. А яшчэ Валодзя пісаў вершы. Шкада толькі, што да сённяшніх дзён яны не захаваліся.

У Мяльканавічах юнак аддае сябе і падпольнай рабоце. Разам са сваімі сябрамі-землякамі ён распаўсюджвае сярод насельніцтва газеты і лістоўкі, развешвае сцягі. У Мяльканавічах юнак стварыў гурток мастацкай самадзейнасці. Гуртkoўцы выступалі перад сялянамі з пастаноўкамі беларускіх п'ес і з дэкламаваннем вершаў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча і Цёткі. Чытаў Валодзя і свае ўласныя вершы.

Па ініцыятыве Уладзіміра Бялько ў той час былі створаны маладзёжныя арганізацыі ў вёсках Лапухова, Варонічы, Юхнавічы, Хмяльніца, Сакалова, Рахавічы і інш. Да восені 1933 года ў радах актыўнай беларускай моладзі налічвалася больш за сто чалавек. Па вёсках былі прызначаны кіраўнікі арганізацый. У Варонічах ім быў Аляксандр Мацыновіч, у Міжэвічах — Іван Казанін, у Мыславе — Аляксандр Куляшэвіч, у Рудаўцы — Ульяна Маркевіч і г. д. У Какошчыцах у маладзёжнай арганізацыі налічвалася 12 чалавек. Нават адбыўся іх агульны сход, якім кіраваў Ваня Дабрыян.

Разам з Валодзем Бялько газету «Піянер» выпускалі Піліп Маркевіч і Антон Бішкірэвіч. Трапляў «Піянер» і ў рукі паліцыі. Паліцэйскія шалелі ад злосці, днём і ноччу шукалі рэдакцыю. Не раз арыштоўваліся сябры рэдкалегіі. Але пасля катаванняў і допытаў іх выпускалі. Праўда, аднойчы рэдактар «Піянера» дамоў не вярнуўся. Яго жудасна збілі і толькі тады адправілі дамоў. Ён доўга






не ўставаў з ложка. А вясной 1933 года да яго ў хату ўваліліся Бяжынскі і Сініцкі — паліцыянты з Касцянёўскага пастарунка. Яны скінулі хворага Валодзю з ложка і пачалі збіваць нагамі. Праз некалькі дзён, 1 мая 1933 года, Валодзя Бялько памёр...

Беларускага 22-гадовага хлопца пахавалі на могілках у вёсцы Мяльканавічы. Прымаць удзел моладзі ў пахаванні свайго сябра паліцыя ў Мяльканавічах забараніла. Але вечарам юнакі і дзяўчаты з многіх вёсак прыйшла на магілу Валодзі. Яны прынеслі з сабой кветкі, вянкі і правялі развітанне. Над свежай магілай свайго сябра моладзь Слонімшчыны паклялася помсціць пілсудчыкам за Валодзю і працягваць барацьбу за беларускую справу.

Сёння імя рэдактара «Піянера», паэта, грамадскага актывіста Уладзіміра Бялько на Слонімшчыне амаль забытае. Праўда, адна з вуліц Слоніма носіць яго імя. А калі існавала Мяльканавіцкая няпоўная сярэдняя школа, імя мужнага юнака насіла піянерская дружына гэтай школы.



Паром на Шчары, 1935 год

## Паром на Шчары, 1935 год

Паўнаводнай была наша Шчара ў першай палове XX стагоддзя. Па ёй сплаўлялі лес, хадзілі баржы і паромы. Як на гэтым здымку 1935 года. На пароме — вазы, бярвенне, нейкі шалаш. Магчыма, для паромшчыка, які мог бы схавацца ад дажджу. На беразе жанчына сядзіць, лодка, людзі...

## Слонімцы ездзілі на такіх аўто ў 1930-х гадах

Аўтобусны рух пачаў масава развівацца ў Заходняй Беларусі, якая была ў складзе Польскай Рэспублікі, у сярэдзіне 1920-х гадоў. Перавозчыкамі былі прыватныя асобы і фірмы. Напрыклад, гэты аўтамабіль займаўся перавозкамі пасажыраў са Слоніма. Кіроўцы нават мелі спецыяльную форму. Паслугамі такіх аўтамабіляў карысталіся больш-менш багатыя людзі, беднейшыя ездзілі на цягніках і падводах.



## Сінагога, 1930 год



Паштоўку нядаўна выдаў калекцыянер з Беластока Тамаш Вішнеўскі. Яна прысвечана слонімскай сінагозе. Так выглядаў вучэбны клас сінагогі ў 1930 годзе, яго ўнутраны інтэр'ер, дзе яўрэйскія дзеці са Слоніма вучылі ідыш і рэлігійныя малітвы.

## Брукоўка, 1930-я гады

Каля гандлёвых радоў ідзе ўкладка брукоўкі. Здымкі ў Слоніме былі зроблены пры Польшчы ў 1930-х гадах. Бальшавікі, якія прыйшлі ў Слонім у верасні 1939-га, так рэзка за ўпарадкаванне вуліц горада не хапаліся.





## Загадкавыя нумары

У 1920–1939 гадах пры Польшчы кожны дом меў свой нумар. І здавалася, што гэтыя нумаркі якраз і з'яўляюцца нумарамі дамоў. Іншыя краязнаўцы і гісторыкі казалі, што гэтыя нумары прымацоўваліся да веласіпедаў і мапедаў. І выдаваліся яны ў кожнай гміне. Былі і такія версіі, што гэтыя нумары чапляліся на вазы.

Але загадкавыя нумары не з'яўляліся пры Польшчы нумарамі дамоў, не прымацоўваліся яны на веласіпеды, а тым больш на вазы. Гэтыя нумаркі — ад брычак. Самых звычайных брычак, на якіх рамізнікі развозілі пасажыраў. Яны выдаваліся ўладамі павета або горада (гміны).






Найчасцей на нумарках пададзены быў год іх выдачы, назва павета, горада (гміны) і парадкавы нумар.

Табліцы мяняліся кожны год і мелі розны кшталт (круглыя, авальныя, квадратныя і інш). А вось роварныя таблiцы былі жоўтыя з чорнымі знакамі. Памер роварнай табліцы быў 120 × 76 мм. Нумар складалі літара і пяць лічбаў. Абавязвалі іх мець з 15 верасня 1936 года.

## Піліп Шчарбакоў будаваў на Шчары шлюзы

Дзед сланімчанкі Марыі Ляцецкай Піліп Сяргеевіч Шчарбакоў у пачатку XX стагоддзя будаваў на Шчары шлюзы, а бацька Ілья Піліпавіч Шчарбакоў усё жыццё служыў псаломшчыкам у слонімскай Свята-Троіцкай царкве.

Піліп Сяргеевіч Шчарбакоў родам быў з Расіі, з Разанскай губерні. Ён прыехаў на Слонімшчыну яшчэ маладым у канцы XIX стагоддзя, бо там было цяжкае жыццё, ды і сям'я ў іх была даволі вялікая. У Слонім яго паклікаў знаёмы інжынер будаваць на Шчары шлюзы.

Шлюзы ў Слоніме будавалі на Шчары і на канале Агінскага для пропуску суднаў пры розным узроўні вады на шляху іх руху. Яны складваліся са спецыяльных камер з варотамі. Судна заходзіла ў шлюз, шлюз закрываўся, узровень вады тады падымаўся і апускаўся. Адным словам, шлюз у суднаходстве — гэта было спецыяльнае збудаванне для пад'ёму і апускання судоў з аднаго ўзроўню вады на другі. Вось такія шлюзы на Слонімшчыне ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя будаваў Піліп Шчарбакоў.

Піліп Шчарбакоў у Слонім прыехаў са сваёй маладой жонкай. Яна нідзе не працавала, а ён кіраваў будаўніцтвам шлюзаў. Відаць, заробак у яго быў добры. Ён нават з Расіі прывозіў золата, каб разлічвацца з рабочымі. Адзін раз выйшаў з цягніка ў Слоніме і забыўся карзіну ў вагоне. Потым стаў крычаць: «Хлопцы, падайце мне карзіну!..» Адзін чалавек узяў цяжкую карзіну і вынес з вагона, пытаючыся: «Што вы тут везяце? Цэглу?» А ён адказвае: «Золата!» Чалавек моцна здзівіўся. Хоць там насамрэч былі залатыя манеты — заробак для слонімскіх будаўнікоў шлюзаў.

Пад непасрэдным кіраўніцтвам Піліпа Шчарбакова ў Слоніме быў пабудаваны былы Народны дом, на месцы якога зараз стаіць драматычны тэатр. Гэты дом яго брыгада ўзвяла ў 1900 годзе ў формах утылітарнай архітэктуры. Шчарбакову тады было 30 гадоў. Акрамя гэтага ён пабудаваў і шэраг іншых будын-



каў, у тым ліку прыгожы будынак на вуліцы Пушкіна, дзе цяпер знаходзіцца падатковая інспекцыя.

У Дубках каля Дзеравянчыцаў Піліп Шчарбакоў меў 10 гектараў зямлі. І там быў у яго невялікі фальварак. Дарэчы, калі Шчарбакоў са сваёй жонкай прыехалі ў Слонім, у іх нарадзілася двое дзяцей. Пасля нараджэння другога дзіцяці жанчына памерла ад родаў. Помнік ёй захаваўся на старых могілках на Віленскай вуліцы ў Слоніме. Тады Шчарбакоў ажаніўся са сваёй служанкай Марыяй Жукоўскай з вёскі Ашнаравічы. У іх нарадзілася трое дзяцей: Ільля, 1902 года нараджэння, Яўгенія і Мікалай. Жылі яны ў Слоніме на Рыбацкай вуліцы, там быў у іх свой дом. Жэня і Коля скончылі Віленскі ўніверсітэт. А фальварак у Дубках знішчылі саветы. Як толькі яны прыйшлі ў 1939 годзе, то там зрабілі аэрадром.

Піліп Шчарбакоў пражыў 92 гады. Цікавы ён быў чалавек. Ведаў некалькі моў. Да самай смерці чытаў шмат газет і часопісаў, нават выпісваў на нямецкай мове «Берлінскую газету». Яго выклікалі аднойчы ў КДБ і пыталіся, навошта ён выпісвае гэтую газету. Стары слонімец адказаў: «Я ведаю нямецкую мову і што хачу, тое і чытаю».

Сын Піліпа Шчарбакова Ілья Шчарбакоў спачатку працаваў камornікам, а потам служыў у польскім войску. А калі ён вярнуўся з войска, то ў Слоніме ўжо былі немцы. І пры немцах ён трапіў у Свята-Троіцкую царкву. Спачатку Ілья Шчарбакоў працаваў у царкве рэгентам, а потым усё жыццё — псаломшчыкам. Настаяцелям царквы тады быў айцец Міхаіл Славінскі — бацька нашага былога слонімскага доктара Ірыны Міхайлаўны Булыга, якой ужо таксама, на жаль, няма на гэтым свеце. Пасля вайны нялёгкі час быў для праваслаўных вернікаў і для храмаў. Аднойчы айцец Міхаіл (напэўна, не па сваёй волі) адмовіўся быць настаяцелем Свята-Троіцкай царквы. І на яго месца прыйшоў айцец Міхаіл Кашэня.

## Непакалянкі, 1935 год

Паглядзіце на гэтых прыгожых слонімскіх дзяўчынак. Магчыма, нехта пазнае сярод іх сваю прабабулю, ці бабулю, ці маці. Гэта — слонімскія непакалянкі са сваёй настаўніцай Ірэнай (Ірынай) Маслоўскай. Усе дзяўчынкі ў аднолькавай форме,





Непакалянкі, 1935 год

якую ім выдаваў касцёл. Па-рознаму складзецца іх лёс. Але тады, калі яны ў Слоніме фатаграфаваліся, усе былі шчаслівыя і святочныя. І нейкай гістарычнай цеплынёй і дабрынёй павявае ад іх позіркаў у нашу будучыню.

## Маленства польскай артысткі прайшло ў Жыровічах

Прыгадалася вялікая польская артыстка тэатра і кіно Аліна Яноўская. Яна пражыла 94 гады, яе не стала восенню 2017 года. Так мне і не пашанцавала з ёй асабіста сустрэцца, хоць па тэлефоне не раз гутарыў з пані Яноўскай — яна прыгадвала Жыровічы, сваё дзяцінства. У 1930-х гадах сям'я Яноўскіх жыла ў Жыровічах, а бацька быў дырэктарам лясной школы. Там і прайшло яе маленства.



Артыстка сыграла больш за 40 роляў, іграла на сцэнах розных тэатраў, выступала на эстрадзе і ў кабарэ, з'яўлялася дырэктарам Усяпольскага фестывалю эстраднага мастацтва. Цудоўная і прыгожая была жанчына.





### Альбярцін, уваход у стайню, 1930-я гады

Усе добра ведаюць стайню Пуслоўскіх у мікрараёне Альбярцін. Стайня захавалася да сённяшніх дзён. Яна пабудавана з цэглы чырвонага колеру. Вельмі прыгожы будынак. Пуслоўскія там трымалі коней, сярод якіх былі і самыя дарагія. Але ніхто з нас нават і не ўяўляе, які быў уваход у стайню. А ўваход у стайню быў даволі прыгожы і арыгінальны. Вось ён на гэтым рэдкім здымку.

### Цэнтр Слоніма, 1940 год

Здымак некалі падараваў мне слонімец Вячаслаў Сцяпура. Ён не вельмі добрай якасці, але дужа каштоўны. Тым больш, што здымкаў Слоніма 1939 — пачатку 1941 года вельмі мала. Гэта час, калі ў Слонім прыйшлі бальшавікі, калі ў горад і раён ужо прыйшла савецкая ўлада, а значыць, пачаліся рэпрэсіі, а ў Еўропе ішла Другая сусветная вайна. Па здымку добра бачна, як выглядаў цэнтр Слоніма, як былі размешчаны будынкі і тумбы па абодва бакі касцёла... Праз год вайна дойдзе і да Слоніма.



Цэнтр Слоніма, 1940 год



### Запрашальны білет, 1940 год

Савецкая ўлада ў Слоніме толькі 6 месяцаў. У Слонімскай друкарні былі надрукаваны вось такія запрашальныя білеты на 22 лютага 1940 года на ўрачысты сход, прысвечаны ўгодкам Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту.

Сход праходзіў у Народным доме, цяпер тут месціцца тэатр.



Пролетарии всех стран, соединяйтесь!
ПРИГЛАСИТЕЛЬНЫЙ БИЛ...
Тов.
Слонимский РК КП(б)Б при... Вас
На торжественно... собрание,
...
22-й годовщине Рабоче-Крест... кой Красной Армии
и Военно-М... о флота,
которое состоится в поме... ...ОМА в 8 часов вечера 22 февраля 1940 г.
...дня:
1) Доклад о 2... ...щине РККА.
2) Художественная часть.
СЛОНИМСКИЙ РК КП(б)Б

### Кінатэатр «Чырвоная зорка», 1940 год

У верасні 1939 года ў Слонім прыйшла савецкая ўлада. У 1940 годзе ў горадзе стаў працаваць кінатэатр «Чырвоная зорка», дзе паказвалі савецкія фільмы. Пра гэта нагадваюць старыя слонімскія кінаафішы да фільмаў «Мая любоў», «Маракі», «Знішчальнікі» і інш. Усе яны друкаваліся ў друкарні слонімскай раённай газеты «Вольная праца». На афішах можна пачытаць, што білеты на фільмы слонімцы маглі купіць загадзя, каса працавала з дзвюх гадзін дня і г. д. Да пачатку вайны заставалася зусім мала часу.

### Прывітанне са Слоніма

Цікавая слонімская паштоўка пачатку XX стагоддзя захоўваецца ў маім хатнім архіве. На нямецкай мове напісана «Прывітанне са






Слоніма». Але найбольш цікавы тэкст з адваротнага боку паштоўкі. Нехта Станіслаў Радкевіч 6 красавіка 1941 года піша нейкай пані Ханіфе Сулейманаўне: «Паглядзіце на гэтыя фотаздымкі. Вось Татарская вуліца, дзе некалі наладжвала танцавальныя вечары па пятніцах наша малая школьная кампанія пад гукі гармоніі вашага сябра-вучня і вы тады былі каралевай гэтай кампаніі. Вось Парадная вуліца. Ружовым колерам пафарбаваны тэатр ілюзіён, які называўся "Люксам". Вось дамба, дзе мы гулялі, а побач — Рынкавая плошча, дзе па чацвяргах былі кірмашы…».

Каментар, як кажуць, тут не патрэбны.

## Немцы ўваходзяць у Новадзявяткавічы, 1941 год

Рэдкі здымак. Немцы на конях вольна ўваходзяць у вёску Новадзявяткавічы. Пачатак вайны. Наперадзе відаць капліца касцёла. Цэлая і яшчэ непашкоджаная.



## Баі на станцыі Азярніца, 1941 год

Гарачыя баі адбываліся на станцыі Азярніца падчас Другой сусветнай вайны. Немцы кантралявалі






станцыю, а таксама гаспадарылі ў самой вёсцы. Дарэчы, да вайны ў Азярніцы пражывалі 423 жыхары. У час вайны ў ліпені 1941 года гітлераўцы спалілі 40 дамоў, загубілі 17 жыхароў.

## Вуліца Парадная, 1943 год

Здымак Параднай вуліцы ў Слоніме ў 1943 годзе зрабіў славуты слонімскі фатограф Юзаф Шыманчык (1909–2003). Цяпер гэта Першамайская вуліца. Тут знаходзілася і сама фотамайстэрня Шыманчыка, якая падчас адступлення немцаў была спалена. Згарэла сотні слонімскіх негатываў і фотаздымкаў. Але сёе-тое і засталося.






Вуліца Парадная, 1943 год

## Слонімскія семінарысткі, 1943 год

Падчас Другой сусветнай вайны ў Слоніме працавала настаўніцкая семінарыя. У ёй рыхтавалі настаўнікаў для беларускіх школ. У гады вайны на акупацыйнай Слонімшчыне дзейнічалі 217 народных школ, дзе працавалі 496 настаўнікаў і навучалася 25,4 тысячы школьнікаў. Так выглядалі сланімчанкі-семінарысткі ў гады вайны ў Слоніме. Усе фотаздымкі падпісаны па-беларуску.





## Слонімскі падпольны друк, 1943–1944 гады

Падчас Другой сусветнай вайны на Слонімшчыне існаваў падпольны друк. Ён быў створаны савецкімі партызанамі. Восенню 1943 года аднавілася газета «Вольная праца». Гэта было падпольнае выданне малога фармату і друкавалася ў лесе «Воўчыя норы» у партызанскай друкарні. Газета «Барацьба» таксама была надрукавана ў лесе. Усяго выйшлі два нумары. Рэдактарам «Барацьбы» быў слонімскі паэт Анатоль Іверс.



## Касцёл Святога Андрэя, 1942 год

Сярод тых, хто пакінуў неацэнную беларускую фатаграфічную спадчыну першай паловы XX стагоддзя, быў беларускі фатограф Юзаф Шыманчык, які жыў у Польшчы, хоць нарадзіўся ў Косаве і пэўны час працаваў у Слоніме. Мне пашанцавала з ім перапісвацца, сябраваць. Аднойчы ён прыслаў мне дзясятак рэдкіх здымкаў Слоніма 1942 года. Сярод усіх здымкаў быў і гэты ўнікальны здымак касцёла Святога Андрэя, 1942 года. Я люблю гэты здымак, які зрабіў сапраўдны фотамайстар. У ім адчуваецца гісторыя нашага старажытнага горада.

Здымак вуліцы Замкавай (цяпер Камсамольская) у Слоніме таксама зрабіў у 1943 годзе Юзаф Шыманчык.

## Гебітскамісарыят, 1941–1944 гады

Здымак быў зроблены падчас Другой сусветнай вайны. Гэта сённяшні будынак Слонімскага медкаледжа на Камсамольскай вуліцы.





Гебітскамісарыят, 1941–1944 гады



Вуліца Замкавая, 1943 год





Слонімскія татары каля мячэці, 1930-я гады

А падчас вайны ў ім знаходзіўся Слонімскі гебітскамісарыят. Гебітскамісарам быў Герхард Эрэн (СД). Той самы Эрэн, па загадзе якога ў Слоніме былі расстраляны тысячы яўрэяў. Будынак гебітскамісарыята ў Слоніме моцна ахоўваўся. На ім бачна вялікая свастыка. Побач будка для вартаўніка і нямецкі жаўнер, які ахоўвае сам будынак. Здымак даволі рэдкі.

## Слонімская мячэць

Такая мячэць была ў Слоніме да лета 1944 года. Яна знаходзілася на вуліцы Татарскай (цяпер вуліца Кірава). Але падчас адступлення немцаў і наступлення савецкіх войск мячэць згарэла ў агні. Ці то ў яе трапіла бомба, ці то яе падпалілі знарок. Мячэць была знішчана. Але гэты храм сёння вельмі ўпрыгожыў бы наш канфесійны Слонім. Шкада...



Слонімская мячэць у 1943–1944-х гадах

## Яўрэйскі хлопчык са Слоніма, 1941 год

Як склаўся лёс гэтага яўрэйскага хлопчыка са Слоніма, здымак якога быў зроблены напярэдадні Другой сусветнай вайны? Сфатаграфавалі хлопчыка каля Спаса-Праабражэнскага сабора. Напярэдадні ў Слоніме падчас акупацыі былі і гета, і расстрэл яўрэяў на Пятралевіцкай гары, і іншыя яўрэйскія пагромы.





Маладыя слонімскія яўрэйкі на беразе Шчары, 1930-я гады

## Слонімскіх яўрэек фатаграфавалі голымі і расстрэльвалі

Да Другой сусветнай вайны ў Слоніме пражывалі каля 16 тысяч яўрэяў. Падчас гітлераўскай акупацыі немцы пачалі знішчаць яўрэяў, у асноўным на Пятралевіцкай гары. Дзеля гэтай страшэннай акцыі ў раён Баранавіч быў перакінуты 18-ы латышскі паліцэйскі батальён. Жаўнеры гэтага батальёна ў асноўным і знішчалі слонімскіх яўрэяў. А кіраваў гэтай акцыяй абласны камісар Слоніма ў рэйхскамісарыяце Остланд Герхард Эрэн. Сярод катаў слонімскіх яўрэяў вызначаўся Эрнест Вілніс. Ён меў фотаапарат, фатаграфаваў голых маладых слонімскіх яўрэек і гэтыя фотаздымкі прадаваў па 5 рэйхсмарак. А маладых сланімчанак потым расстрэльваў. Шмат фотаздымкаў латышскі кат зберагаў да 1960 года, пакуль яго не арыштавалі і не расстралялі, як злачынцу. На пытанне, навошта зберагаў здымкі, кат адказаў: «Проста так, ад настальгіі».

## Слонім пасля заканчэння вайны, 1944 год

Вось так выглядаў цэнтр Слоніма пасля заканчэння вайны. Адным будынкам пашанцавала, іншым — не. Як, напрыклад, на былой Гандлёвай плошчы, цяпер — плошча Леніна.





## Мастак Антон Карніцкі (1912–1944)

Антон Карніцкі (1912–1944) — выдатны беларускі мастак і музыкант. Жыў у Слоніме. Вучыўся ў Акадэміі мастацтваў у Варшаве. Пасля смерці мастака ў Слоніме ў 1944 годзе была наладжана яго персанальная выстава. Антон Карніцкі на сваіх палотнах адлюстроўваў родную Слонімшчыну — яе хаты, прыроду, людзей. Працаваў алейнымі фарбамі і алоўкам. Падчас Другой сусветнай вайны немцы вывезлі ў Германію 180 ягоных карцін. Некалькі твораў мастака захоўваюцца ў Слонімскім краязнаўчым музеі.



## Радзільны дом, 1940—1970-я гады

Вуліца Замкавая (цяпер Камсамольская) — адна са старажытных вуліц Слоніма. Да сённяшніх дзён захаваўся на ёй асабняк з калонамі, пабудаваны ў першай палове XIX стагоддзя. Пасля Другой сусветнай вайны ў гэтым прыгожым будынку быў радзільны дом, дзе жанчыны Слонімшчыны нараджалі немаўлят. Усе тыя, хто нарадзіўся ў 1940–1970-х гадах, з'яўляліся на свет менавіта ў гэтым будынку. Пацвярджэннем з'яўляецца і стары здымак.




## Дзяўчаты на канале Агінскага

Мне падабаецца гэты здымак сланімчанак, якія сфатаграфаваны на адным з катараў на канале Агінскага ў Слоніме. Фота было зроблена ў канцы 1940-х — пачатку 1950-х гадоў.



Дзяўчаты на канале Агінскага

Паглядзіце, у што яны апрануты: у амаль аднолькавых сукенках, ці не ў сітцавых, на нагах беленькія шкарпэткі… Эх, быў час, была эпоха…

## Моладзь вёскі Хадзявічы каля Сынковіцкай царквы

Здымак хадзявіцкай моладзі быў зроблены на Тройцу каля Сынковіцкай царквы ў 1949 годзе. Аўтар здымка — жыхар вёскі Хадзявічы Уладзімір Саванец. Уладзімір яшчэ паспеў сфатаграфаваць сваіх вяскоўцаў і раздаць усім фотаздымкі. Праз пэўны час яго асабіста і ўсю яго сям'ю рэпрэсіруюць і вышлюць на Сахалін. Назад ужо ніхто з іх не вярнуўся.

З усіх тых, хто сфатаграфаваны на гэтым здымку, сёння жыве толькі адна жанчына — Ева Чыгрын. Ад яе я і даведаўся, хто на гэтым здымку. Стаяць пры самай сцяне храма (злева направа): Аляксандра Надудзік, Сцяпан Шкляр, Надзея Баль, Іван Адамовіч, Ніна Чыгрын, Вольга Рагозік, Насця Клыбік, Яўгенія Жылінская, Ніна Жук, Вера Баль, Вера Важэйка, Вера Клыбік, Кацярына Акулка, Ева Чыгрын, Марыя Важэйка, Марыя Саванец, Марыя Акулка, Аляксандра Жук, Валянціна Клыбік, Ганна Селівончык.





Другі рад, сядзяць злева направа: Мікалай Шкляр, Аляксей Рагозік, Павел Надудзік, Мікалай Жук, Уладзімір Саванец, Уладзімір Баль, Міхаіл Акулка, Аляксей Клыбік, Міхаіл Раманчук. Трэці рад, ляжаць злева направа: Любоў Шкляр, Валянціна Клыбік, Люба Клыбік, Ліда Чыгрын, Вольга Жук, Кацярына Клыбік, Валянціна Клыбік, Валянціна Чыгрын, Аляксей Жук. На пярэднім плане ляжаць (злева направа): Пётр Баль і Васіль Важэйка.

## Васіль Быкаў у Альбярціне



У першыя гады пасля Другой сусветнай вайны, перад службай на Далёкім Усходзе, у Слоніме служыў народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў. А жыў ён у Альбярціне (цяпер мікрараён Слоніма).

У кнізе ўспамінаў «Доўгая дарога дадому» Васіль Быкаў прыгадвае: «…на гэты раз паехаў далей — у Слонім. У свеце пачыналася шырокамаштабная халодная вайна з перспектывай перарасці ў гарачую, спатрэбілася болей войска. Слонімская брыгада разгортвалася ў дывізію, без артылерыста лейтэнанта Быкава абысціся было немагчыма. Армію знайшоў амаль той самай, якою пакінуў два гады таму. Усё тое ж бязладдзе, нагнятанне небяспекі з Захаду, нястача ўсяго матэрыяльнага — ад транспарту да шынялёў. Да паловы зімы хадзіў у ватоўцы з прышытымі афіцэрскімі пагонамі на плячах. І незвычайны нават у гады вайны рэжым сакрэтнасці. Усе статуты, інструкцыі, загады былі засакрэчаныя. Калі для заняткаў патрэбна было якое настаўленне, а яно патрэбна было кожны дзень, трэба было ўранку атрымаць яго пад распіску ў сакрэтнай часці, а ўвечары здаць. Узнікала шмат блытаніны, і некалькі афіцэраў пагарэлі на тым. Адзін наш камбат, каб кожны раз не бегаць у штаб па статут, штоaccess-нішто выпісаў з яго ў свой блакноцік, які затым згубіў на занятках у полі. Праўда, блакноцік не быў зарэгістраваны, і камбат асабліва не турбаваўся. Але ж трэба так здарыцца, што яго знайшоў на ўзлеску калгаснік і зрабіў, як ён думаў, добрую справу — у кірмашовы дзень адвёз блакноцік у Слонім. Там вельмі хутка вызначылі, каму ён належыць, і праз месяц з камбата знялі пагоны…».

Усю зіму Васіль Быкаў прабыў у Слонімскай дывізіі, жыў у нейкай бабкі ў Альбярціне. Даведацца, у каго жыў народны пісьменнік, не ўдалося. «Кожны дзень — палявыя заняткі, у мароз, дождж і сцюжу, зіма выдалася сцюдзёная. Нарэш-

це — чаканая вясна, прыгрэла сонца…», — пісаў далей аўтар «Доўгай дарогі дадому». Хутка ён пакінуў Альбярцін і атрымаў новы загад — паехаў служыць на Далёкі Усход…

У 1960–1990-я гады Васіль Быкаў не раз бываў у Слоніме. Ён сябраваў са слонімскімі літаратарамі Алегам Лойкам і Анатолем Іверсам. Пра Анатоля Іверса ў той самай «Доўгай дарозе дадому» Васіль Быкаў пісаў: «…Драматычная гісторыя слонімскага паэта Анатоля Іверса. Застаўшыся на акупаванай тэрыторыі, ён змушаны быў па заданні з лесу пайсці працаваць у гарадскую ўправу, ягонага таварыша ўкаранілі нават у СД. Дапрацаваліся яны там да таго, што ледзь ратаваліся ад арышту. Іверс дык выскачыў у акно, а сям'я была арыштавана, і жонка загінула. Пасля вызвалення нейкі час усё было добра, іхнюю гісторыю ў Слоніме ведалі, іх не чапалі. Але з цягам часу, калі партызанскія кіраўнікі, на якіх яны працавалі ў немцаў, памерлі або раз'ехаліся, абодвух "выкрылі". У Горадні быў суд, Іверсаў таварыш атрымаў 15 гадоў, сам Анатоль Іверс быў звольнены з працы, выключаны з Саюза пісьменнікаў і пятнаццаць гадоў прарабіў на смалакурні ў лясгасе…».

А яшчэ пра Анатоля Іверса Васіль Быкаў сказаў: «Анатоль Іверс шмат дзясяткаў гадоў сумленна і мужна працаваў на карысць свайму народу і яго літаратуры».

## Пажарная каманда, 1948 год

Адразу пасля Другой сусветнай вайны на Гарадзеншчыне пачалі ствараюцца пажарныя каманды. Напрыканцы 1945 года ў Беларусі ўжо дзейнічалі 184 пажарныя каманды. На ўзбраенні ў іх знаходзілася 130 адзінак тэхнікі. Пажарная каманда была створана і ў Слоніме. Яна знаходзілася там, дзе і цяпер. На старых здымках добра бачны сам будынак Слонімскай гарадской пажарнай каманды і тэхнічнае ўзбраенне яе перад фасадам.

## Жыровіцкая паштоўка з Германіі, 1948 год

Паштоўка «Жыровіцкі св. Успенскі манастыр» была выдадзена ў










Германіі ў 1948 годзе. Выдадзеная праваслаўным Жыровіцкім брацтвам, коштам Аляксандра Асіпчыка, які быў родам са Слонімшчыны. На адваротным баку лацінкай напісаны тэкст на беларускай мове: Нямеччына, 1948.

## Вяскоўцы Слонімшчыны, 1940–1950-я гады

Нядаўна закончылася вайна. Не ўся прыватная ўласнасць ліквідавана. Вяскоўцы не вельмі ахвотна ішлі ў калгасы. Але людзі вераць, што заўтра ў іх вёсках будзе жыць лепш, чым сёння. Яны па-ранейшаму ткуць кросны, прадуць, вырабляюць аўчыны, аруць поле, жнуць. Жыццё працягваецца…

Некалькі старых фотаздымкаў з прыватных архіваў з жыцця вяскоўцаў Слонімшчыны нагадваюць пра той няпросты час 1940–1950-х гадоў.



Маладыя праллі з вёскі Махначы



Сям'я Крупнік на жніве, канец 1940-х гадоў



Выраб аўчыны, вёска Старая Перавалока, 1948 год

## Усеславянскі камітэт дапамагаў Вялікакракоцкай сельскай бібліятэцы, 1947 год

У сваім хатнім архіве знайшоў цікавы дакумент. Гэта ліст з Масквы ад Усеславянскага камітэта за 1947 год. Яго падпісалі адказны сакратар Усеславянскага камітэта гвардыі-палкоўнік Мачалаў і рэдактар камітэта Майбарада. Ліст быў адрасаваны Аляксандру Жыткевічу, які інвалідам вярнуўся з Другой сусветнай вайны і з 1947 года быў загадчыкам Вялікакракоцкай сельскай бібліятэкі імя Янкі Купалы. На жаль, гістарычныя бібліятэка, якая была створана ў 1927 годзе, праіснавала толькі 80 гадоў. Цяпер яе няма. Але на працягу гэтых гадоў сельская бібліятэка ў Вялікай Кракотцы была беларускім культурным і нацыянальным асяродкам не толькі на Слонімшчыне, але і ва ўсёй Беларусі. Бібліятэка з'ўлялася першай культурнай установай ў Беларусі, якой было нададзена імя беларускага песняра Янкі Купалы. Сюды



ВСЕСЛАВЯНСКИЙ КОМИТЕТ

11. марта

Уважаемый тов.Житкович !

По просьбе Григория Романовича Окулевича мы высылаем для Вашей библиотеки имени Янки Купалы двухтомник Некрасова, полное собрание сочинений М.Ю.Лермонтова – 5 томов и полное собрание сочинений Л.Н.Толстого – 12 томов. Одновременно высылаем 15 книжек на белорусском языке, отобранных также для Вашей библиотеки Г.Р.Окулевичем. Перечень книг в прилагаемом списке.

Получение просим подтвердить письмом.

Примите пожелание успехов в Вашей работе

Ответственный Секретарь Всеславянского Комитета Гвардии-полковник (В.Мочалов)

Редактор Всеславянского Комитета (Г.Майборода)

Ліст са Усеславянскага камітэту

на працягу гадоў прыязджалі амаль усе пісьменнікі з Беларусі, некалькі разоў была жонка Янкі Купалы Уладзіслава Францаўна Луцэвіч, жонка Валянціна Таўлая Лідзія Сяргееўна, пісьменікі з Расіі і Украіны.

Пасля вайны ў бібліятэку пастаянна дасылаліся кнігі, пісьмы, паштоўкі, падарункі. Сярод усіх лістоў было і паведамленне з Усеславянскага камітэта на імя Аляксандра Жыткевіча.

## Вучні 2-га класа СШ № 2, 1949/50 навучальны год




Школьны здымак у сямейным альбоме захоўвае сланімчанка Алена Яфімік. На ім сфатаграфаваны вучні 2-га «В» класа слонімскай сярэдняй школы № 2 у 1949/50 навучальным годзе са сваімі настаўнікамі. Пасляваенныя слонімскія дзеці, якія нарадзіліся да вайны ці падчас вайны. Усе дзеткі апрануты ў рознае адзенне, што





Вучні 2-га класа СШ № 2, 1949/50 навучальны год

было ў сям'і, у многіх на шыі відаць чырвоныя гальштукі. Пасляваенны час быў няпростым для слонімцаў, як і для ўсіх беларусаў.

## Сланімчанкі, пачатак 1950-х гадоў

Здымак быў зроблены хутчэй за ўсё ў скверыку на Першамайскай вуліцы ў канцы 1940-х ці напачатку 1950-х гадоў. За плячыма дзяўчат бачны крамы і дзверы на баку вуліцы, дзе стаіць касцёл. Дзяўчаты, напэўна, прымалі ўдзел у нейкім мерапрыемстве, бо апрануты ў святочныя сукенкі. Невядомы фатограф іх і сфатаграфаваў на адной з лавак скверыка каля невялікага плоту.



вядомы фатограф іх і сфатаграфаваў на адной з лавак скверыка каля невялікага плоту.

## Перад галоўнай поштай, 1950 год

За плячыма гэтых прыгожых сланімчанак уваход у будынак галоўнай пошты Слоніма. Уваход і будынак былі аплецены зелянінай. Цяпер такога няма. Каля ўваходу ў пошту стаяць салдаты і назіраюць за сланімчанкамі, якіх фатаграфуюць. Мінула з таго часу каля 70 гадоў.



Перад галоўнай поштай, 1950 год

## Прыстань на канале Агінскага, пачатак 1950-х гадоў

Некалі канал Агінскага ў Слоніме і сама Шчара былі глыбокімі і шырокімі. Па іх плавалі катары, лодкі, сплаўлялі драўніну. Яна бачна на гэтым старым здымку. На канале знаходзілася і своеасаблівая прыстань. На ёй любілі фатаграфавацца слонімцы, асабліва дзяўчаты.



## Цэнтр горада, 1958 год

Цэнтр Слоніма каля скверыка з Леніным на Першамайскай вуліцы. Скверык абгароджаны невялікім плоцікам. Брукоўка вуліцы розная. Ніякіх машын не відаць, таму веласіпедыст спакойна едзе ў любы бок, куды пажадае. І самае галоўнае — у цэнтры шмат дрэў.



Цэнтр горада, 1958 год

## Вуліца Першамайская, 1958 год

Першамайская вуліца ў Слоніме зімой. Будынак справа не захаваўся. І гэтай арыгінальнай брамы каля касцёла таксама сёння няма. Прыступкі ганкаў да крамаў і розных устаноў падыходзілі тады да самых пешаходных тратуараў. Машын таксама не было відаць. Таму людзі хадзілі і па самой вуліцы. Дзесьці ўдалечыні бачны толькі адзін аўтобус і мужчыны ў вайсковай форме. І многа снегу навокал.



Вуліца Першамайская, 1958 год

## Галоўная пошта, 1958 год

За 60 гадоў змяніўся наш Слонім. Гэта вуліца, якая вяла да галоўнай пошты Слоніма. У старым будынку, пабудаваным з цэглы ў другой палове XIX — пачатку XX стагоддзя, жыла даволі багатая сям'я. Сам будынак унікальны. Гэта прыклад рэпрэзентацыйнай жылой забудовы ў стылі мадэрн. Ён вылучаецца высакаякасным выкананнем будаўнічых работ і цаглянай кладкі. Каля пошты знаходзяцца стэнды для свежых газет. Такія газеты вывешвалі тады, каб чыталі людзі. Злева — аднапавярховы будынак, якога даўно ўжо няма.



## Помнік на вуліцы Пушкіна, 1958 год

Помнік у Слоніме на вуліцы Пушкіна ў 1958 годзе выглядаў так, як на здымку. А паставілі гэты помнік у 1956 годзе (скульптар Акім Курачкін). Усяго ў брацкай магіле пахавана больш за 1000 воінаў і партызан. І толькі 184 прозвішчы ўстаноўлены. А Вечны агонь каля помніка запалілі пазней — у 1965 годзе. Яго прывезлі з Брэсцкай крэпасці-героя.



## Стары Дом культуры

Дзе цяпер месціцца тэатр у Слоніме, знаходзіўся раённы Дом культуры. Ён быў пабудаваны ў 1900 годзе слонімскімі будаўнікамі пад кіраўніцтвам Піліпа Шчарбакова. Улада ў Слоніме ў ХХ стагоддзі мянялася, а будынак заставаўся пад рознай назвай: і Народны дом, і Дом культуры… У ім, дарэчы, выступалі і Галіна Вішнеўская, і Фёдар Шаляпін, і Ян Капура, і Міхась Забэйда-Суміцкі і іншыя спевакі. А пасля вайны дзясяткі розных тэатраў з усяго Савецкага Саюза знаходзіліся тут на гастролях. Час з гадамі знішчыў будынак, але засталіся гістарычныя сцены. Яны і ляглі ў аснову сённяшняга драматычнага тэатра.



## Хлопчыкі ў школьнай форме, 1956 год

Слонімскія хлопчыкі з СШ № 5 г. Слоніма. Вось такую школьную форму насілі вучні беларускіх школ у тыя 1950-я гады. Гэтых дзяцей якраз сфатаграфавалі 1 верасня 1956 года. Яны прыйшлі першы дзень у школу ў новай школьнай форме. Ім, хлопчыкам, усё цікава: і школьная форма, і сустрэча са школай, і настаўнікі, і тое, што іх разам сфатаграфавалі на памяць. На памяць для нашай гісторыі.



## Бык з Вялікай Кракоткі, 1957 год

Спецыяльна вывелі з кароўніка гэтага быка кастрамской пароды «Сокал» жыхары вёскі Вялікая Кракотка, каб сфатаграфаваць. Бык чысценькі, дагледжаны. Ды і работнікі фермы разам з ветэрынарам, здаецца, ганарацца сваім Сокалам. Яны спынілі свой позірк і на Сокале, і на фатографе, які застаўся па-за гэтым кадрам. А бык сапраўды ўнікальны…



На беразе канала Агінскага, 1958 год





## На беразе канала Агінскага, 1958 год

Здымак быў зроблены з Баранавіцкага моста. Гэта канал Агінскага з выглядам на горад. Людзі сядзяць на беразе, дзеці гуляюць. І асобы на пярэднім плане нешта палошчуць у вадзе. А самае галоўнае: заўважце, што вакол і ўсюды шмат дрэў.

## Цэнтр Слоніма, 1959 год

На заднім плане фота мамы з сынам бачна, што яшчэ няма ў Слоніме гасцініцы «Шчара». Цэнтр брукаваны. Людзей на вуліцы шмат — напэўна, слонімцы прымалі ўдзел у Першамайскай дэманстрацыі. Справа (не відаць) яшчэ стаяў разбураны сабор. Час усё памяняў…



Цэнтр Слоніма, 1959 год

XVIII стагоддзя. Былы дырэктар Дзераўноўскай школы Васіль Варабей перадаў скарбонку і 247 манет у Гродна. Самым каштоўным скарбам быў шасціграшовік каронны Аўгуста II, біты ў Лейпцыгу ў 1702 годзе.

## Як школьнік з Дзераўной знайшоў манетны скарб

Газета «Гродзенская праўда» 15 мая 1969 года апублікавала на рускай мове вось такую інфармацыю: «Вячеслав Леверовский, шестиклассник Деревновской средней школы Слонимского района, копал землю под грядки. Внезапно лопата ударилась о что-то твердое. “Камень”, — подумал мальчик и решил выкопать и убрать его на межу. К его удивлению, твердым предметом оказался горшочек-копилка, в котором что-то звенело, пересыпалось. Отбив дно, школьник обнаружил серебряные монеты, их было 517 штук. Свою находку Вячеслав передал в школьный музей».

Знаходкай аказаўся скарб манет другой паловы XVII — пачатку



## Вуліца Ружанская, 1958 год

На вуліцы Ружанскай няма ніякіх пераходаў і руху машын. Навокал чыста і ціха, толькі слонімцы, якія апрануты амаль у аднолькавыя паліто, гутараць між сабой і спакойна рухаюцца па вуліцы. Будынкі на вуліцы захаваліся да сённяшніх дзён. Тады ў адным з іх быў магазін «Адзенне», побач — крама «Прадукты». Скверык абгароджаны невялікім плотам… Пасля вайны прайшло толькі 14 гадоў.

## Вуліцы, 1959 год

На вуліцах Слоніма ў той час вось так апраналіся нашы дзяўчаты і жанчыны. А замест «аўдзі» і «мерседэсаў» можна было сустрэць зрэдку такую грузавую машыну, як на папярэднім здымку.







Вуліца Ружанская, 1958 год

У 1959 годзе Дзяржаўная камісія прыняла Слонімскі льнозавод да эксплуатацыі, у Мінску выйшаў з друку першы зборнік вершаў слонімскага паэта Алега Лойкі «На юначым шляху», драмгурток Слонімскага РДК атрымаў назву «народны тэатр» і г. д. Такім быў і застаецца ў нашай гісторыі той далёкі і разам з тым блізкі 1959 год.

## Канал Агінскага, 1959 год

Люблю канал Агінскага. Асабліва Малы канал Агінскага, які працякае праз Слонім. Канал быў пабудаваны па загадзе гетмана Агінскага, здаецца, у 1767–1783 гадах. Будаваўся ён найперш для перавозкі грузаў, перавbooking лесу. Але канал адыгрываў і іншую ролю, нават у дзейнасці самога тэатра Агінскага.

З гадамі канал Агінскага ў Слоніме абмялеў, запусцеў, пра яго забыліся кіраўнікі раёна, асабліва пасля 1970 года. Ён яшчэ прыстойна выглядаў нават у 1959 годзе.



Канал Агінскага, 1959 год

## Аўтастанцыя была ў цэнтры Слоніма

Пасля вайны ў 1940–1950-х гадах аўтастанцыя ў Слоніме была там, дзе сёння знаходзіцца магазін «Юбілейны», недалёка ад магазіна «Спадарожнік», якраз у тым месцы, дзе цяпер разварочваецца аўтобус № 7. Знаходзілася аўтастанцыя ў такім невялікім будынку. З аўтастанцыі курсіравалі вось такія аўтобусы (гл. здымак на с. 100). Праўда, не ў кожную вёску яны ездзілі, але ў Баранавічы, Дзятлава, Зэльву можна было заехаць. І вядома ж, па дарозе дабрацца да вёсак. На



Аўтастанцыя была ў цэнтры Слоніма

вялікі жаль, старой гэтай аўтастанцыі даўно ўжо няма. Нагадвае пра яе толькі стары здымак пачатку 1950-х гадоў.

## Наперадзе ідзе «Красная зара», 1960-я гады

Наперадзе ўсіх дэманстрантаў ідзе слонімская фабрыка «Красная зара» (цяпер фабрыка мастацкіх вырабаў). Дарэчы, арцель «Красная зара» была створана ў Слоніме ў 1939 годзе. Яна паклала пачатак развіццю мастацкай вышыўкі, а з цягам часу і іншых народных мастацкіх промыслаў. У 1947 годзе слонімская арцель славілася сваімі абрусамі, вышытымі на сетцы шэрсцю. Лепшыя абрусы нават экспанаваліся ў 1947 годзе ў Парыжы на міжнароднай выставе.

У верасні 1960 года на базе арцелі «Красная зара» была створана Слонімская фабрыка мастацкіх вырабаў.

## Парад матацыклістаў, 1950–1960-я гады

Цікавыя здымкі захоўваюцца ў сямейным архіве сланімчанкі Алены Яфімік. Раней падобных я не бачыў. Здымкі былі зроблены ў канцы 1950-х — пачатку 1960-х гадоў у Слоніме. На іх адлюстраваны матацыклісты перад нейкім парадам. Магчыма, на матацыклах ехалі ўсе былыя ветэраны вайны, многія з якіх працавалі ў міліцыі. Мелі слонімцы і свае ўласныя матацыклы. Наперадзе матацыклістаў ехаў аўтамабіль «Пабеда». Парад пачынаўся на сённяшняй вуліцы Пушкіна, і рухаліся матацыклісты ў цэнтр горада.







Парад матацыклістаў, 1950–1960-я гады





## Дах хаты пад снарадамі

Пасля вайны жыхар вёскі Хадзявічы Слонімскага раёна Рыгор Важэйка пачаў будаваць сабе новую хату. Збудаваў яе хутка, а дах вырашыў накрыць... гільзамі ад снарадаў. Гэтых гільзаў пасля вайны ў мясцовым лесе валялася шмат. Вясковец запрагаў каня і ехаў у лес. Там ён знаходзіў гільзы ад снарадаў, збіраў іх і прывозіў дамоў. Потым браў зубіла і штодня высякаў роўненькія кавалачкі металу. Імі ён накрыў дах сваёй хаты, веранду і хлеў.

Дарэчы, Рыгор Важэйка меў, як кажуць, залатыя рукі. Сам зрабіў плуг, барану, сошку, хатнюю мэблю і г. д.

Даўно ўжо памёр вясковец, а ў яго хаце цяпер знаходзіцца сельскі фельчарска-акушэрскі пункт. Але дах хаты пад снарадамі, як новы. «Тысячу гадоў прастаіць», — кажуць вяскоўцы.



## Што было і знікла з палаца Слізеняў у Новых Дзявяткавічах



На гэтых рэдкіх старых малюнках адлюстраваны палац Слізеняў у вёсцы Новыя Дзявяткавічы Слонімскага павета ў 1862-м і 1930-х гадах. Ён быў унікальны. На першым і другім паверхах ад вежы ішоў доўгі калідор, паабапал якога знаходзіліся кухня, пякарня, службовыя пакоі, банкетная зала, а таксама асабісты кабінет Альфрэда Слізеня. Побач размяшчаліся салоны з мармуровымі камінамі. Недалёка стаялі канапы, шмат антычных скульптур, вісела вялікая карціна Сухадольскага «Растрывожаныя коні перад навальніцай» Побач была сталовая з вялікім люстэркам, адна сцяна межавала з зімнім садам. Пасярод сталовай стаяў вялікі стол з крэсламі. У глыбіні сталовай знаходзілася фартэпіяна фірмы Бехстайна. Была і танцавальная зала, якая займала вышыню двух паверхаў. А таксама галерэя для аркестра і музей старой зброі. Да ўсяго гэтага яшчэ Слізені ў палацы мелі архіў, бібліятэку і більярдную залу. У музеі старой зброі захоўваліся рыцарскія даспехі, кірасы, мячы, коп'і, шаблі і шмат іншай зброі.

У архіве зберагалася вялікая колькасць каштоўных папер. Напрыклад, там захоўваўся каралеўскі прывілей Жыгімонта III Вазы ад 1589 года, які даваў права братам Івану і Абраму Мялешкам з Дзявяткавіч на будаўніцтва дарогі праз Грыўду. Былі там розныя тэстаменты, акты, сямейныя карэспандэнцыі і г. д. Усе матэрыялы зберагаліся ў вялікіх шкляных і драўляных шафах.

Бібліятэка Слізеняў мела вялікі збор старых кніг. Кнігі збіраліся на працягу чатырох стагоддзяў. Іх налічвалася каля 5 тысяч. Былі там і Трэці Статут ВКЛ, Радзівілаўская Біблія, творы Цэзара І Элерта, выданні езуітаў і іншыя…



Каштоўнасці з палаца Слізеняў пачалі знікаць падчас Першай сусветнай вайны, іх вывезлі на ўсход і назад не вярнулі. У гады Другой сусветнай вайны палац быў спалены.



## Пажарная часць і друкарня, 1959 год



Вуліца Камуністычная, 1959 год. Справа — пажарная часць. А наперадзе вуліцы нават і не ведаю, што тады там знаходзілася. У будынку сёння гэтых дзвярэй няма. Цяпер там месціцца адміністрацыя Слонімскай друкарні. Чысты і прыбраны куточак Слоніма мінулага стагоддзя.

## Альбярцінскі футбаліст



Каля былога палаца спорту, а яшчэ раней — флігеля графа Пуслоўскага ў Альбярціне стаіць помнік футбалісту, які быў пастаўлены ў Альбярціне ў 1950 ці 1951 годзе. Дарэчы, у пасляваенны час тут была футбольная каманда «Альбярцін». А на варотах стаяў будучы лаўрэат Нобелеўскай прэміі фізік Жарэс Алфёраў. Тады ён з бацькамі жыў у Альбярціне.

## Хлопчык Сашка, 1959 год



Слонімскі хлопчык Сашка Бортнік быў сфатаграфаваны ў цэнтры Слоніма ў 1959 годзе. Сфатаграфавалі яго падчас Першамайскай дэманстрацыі, мама яго ўзяла з сабой. За спіной Сашкі — людзі, будынак былога быткамбіната, няма яшчэ гасцініцы «Шчара» і… брукаваная вуліца пад нагамі хлопчыка.



Кракотка, 1967 год

## Кракотка — роздумаў пякотка...

Люблю Кракотку, якую некалі Уладзімір Караткевіч назваў самай прыгожай вёскай у Беларусі. А жыхар Кракоткі даследчык беларускай літаратуры і фальклору Янка Саламевіч пра сваю вёску казаў так: Кракотка — роздумаў пякотка. Вядома ж, Караткевіч так назваў Кракотку з-за яе шыкоўнай прыроды: некалі вёску нават параўноўвалі з малой Швейцарыяй.

Той, хто ніколі не быў у Кракотцы, лічыце, што нідзе не быў. А вада з Кракоцкай крыніцы лечыць вочы і надае сілы. Пра Кракотку можна пісаць бясконца. Там аўра не такая, як усюды. І там пачынаецца Беларусь. Таму невыпадкова яшчэ ў 1927 годзе ў Кракотцы была адкрыта беларуская бібліятэка імя Янкі Купалы. Там часта гасціла жонка Янкі Купалы Уладзіслава Францаўна. Яна таксама любіла Кракотку, як люблю яе сёння я.

## Вялікі камень Кракоцкі

Каля двух кіламетраў на ўсход ад вёскі Вялікая Кракотка знаходзіцца помнік прыроды рэспубліканскага значэння — валун «Вялікі камень Кракоцкі». Інакш гэты камень людзі называюць камлыгай Кракоцкай. Вялізны валун з чырвонага граніту ўвесь пакрыты мохам. На жаль, ён паціху разбураецца, бо кавалкі граніту ад камлыгі адломліваюцца. Дый узрост гэтага валуна вучоныя ацэньваюць у 150–200 тысяч гадоў. Агульная плошча валуна 6,7 квадратных метраў.

Наогул, на Слонімшчыне шмат геалагічных помнікаў. Каля той жа вёскі Вялікая Кракотна знаходзіцца яшчэ адзін помнік прыроды — камень з ямкамі Кракоцкі. Яго даўжыня 3,5 м, вышыня 1,5 м. Ёсць яшчэ вялікі камень Сянькоўшчынскі, Расколаты камень у Альбярцінскім лясніцтве і інш. Усяго на Слонімшчыне сёння 7 буйных валуноў, якія ў Беларусі ўзяты пад ахову дзяржавы.





## Брама-званіца ў цэнтры Слоніма, 1960 год



Брама-званіца ў цэнтры Слоніма ў 1960 годзе яшчэ была, яе яшчэ не разбурылі і не знішчылі. Вось, відаць, экскурсія праходзіць, нехта нешта цікавае распавядае. Пройдзе некалькі гадоў — і браму касцельную з цэнтра Слоніма прыбяруць.

## Парк, 1970-я гады

Фактычна, у Слоніме парку няма. У Слоніме ёсць набярэжная канала Агінскага. Але гэта далёка не гарадскі парк адпачынку. Вядома ж, у гэтым парку быў і фантан (цяпер пустое месца), у ім струменіла вада, побач былі скульптуры казуль, скульптуркі жабак... Нават стаялі стэнды, якія распавядалі пра гісторыю савецкага камсамола. Сёетое было, але ўсё гэта і тады, і тым больш цяпер не адпавядае маштабам гарадскога парку 50-тысячнага Слоніма. На жаль...



## Мотабол, 1970-я гады

У 1970-х гадах у Слоніме была добрая мотабольная каманда «Усход».



Парк, 1970-я гады

Хлопцы выступалі на чэмпіянаце Беларусі. На гульню прыходзілі сотні людзей. Захаваўся ў маім фотаархіве адзін са здымкаў каманды.



Матабол, 1970-я гады

## Першая пасляваенная паштоўка Слоніма

Як ні дзіўна, але гэта факт: пасля вайны першая паштоўка, прысвечаная Слоніму, выйшла з друку толькі ў 1987 годзе (на здымку). 44 гады пра Слонім не выдаваліся паштоўкі. Уяўляеце?! У пачатку ХХ стагоддзя іх выйшла сотні. А пасля вайны пры савецкай уладзе амаль паўстагоддзя не выдаваліся слонімскія паштоўкі... І вось гэта адзіная, даволі прымітыўная, з'явілася ў Мінску ў выдавецтве «Беларусь». Наклад яе, праўда, быў даволі вялікі — ажно 17 500 штук. Ды і цяпер Слонім асабліва не радуе паштоўкамі землякоў і турыстаў.

## Будуецца РДК, пачатак 1980-х гадоў

Так на Чырвонаармейскай вуліцы будаваўся раённы Дом культуры. Стары РДК (дзе цяпер тэатр) быў створаны ў 1948 годзе. А ў 1981 годзе быў пабудаваны новы Дом культуры, які маем сёння. Агульная плошча яго складае 4843 квадратныя метры. Калі адкрыўся новы РДК, штат яго супрацоўнікаў налічваў 48 чалавек.








## Першы слонімскі значок пасля вайны, 1969 год

У 1969 годзе да 25-годдзя вызвалення Слоніма ад гітлераўскіх захопнікаў быў выпушчаны значок (гл. здымак с. 107). Здаецца, пасля вайны гэта быў першы значок, прысвечаны Слоніму. 25 гадоў ніякіх значкоў на слонімскую тэматыку не выдавалася. Цяпер сёе-тое ёсць, але не так і шмат, як хацелася б.









## Помнікі баявой славы Слонімшчыны, 1972 год

Адшукаў у сваім хатнім архіве вось такі буклецік на шасці старонках. Ён быў выпушчаны ў Слонімскай друкарні ажно ў 1972 годзе. Тэкст буклета падрыхтаваў настаўнік Аляксандр Жукоўскі — заснавальнік музея Народнай славы СШ № 4 г. Слоніма. Буклет прысвечаны ўдзельнікам Другой сусветнай вайны Кузьме Гнедашу, Мікалаю Мірошніку і Міхаілу Амосаву. Буклет тады выйшаў накладам 1000 штук, афармляў яго мастак В. Шэфер.

## Прыдарожны знак, 1975 год

Гэты прыдарожны знак яшчэ раз даказвае, што Слоніму ў гэтым (2019) годзе спаўняецца 983 гады. Праз 17 гадоў — 1000-годдзе. Здымак быў зроблены ў 1975 годзе. Слонімская прыгажуня ўважліва глядзіць на дату. І, сапраўды, Слоніму шмат гадоў і вялікая гісторыя ў нашага горада.



## Фабрыка мастацкіх вырабаў на дэманстрацыі, 1977 год

У 1940–1980-х гадах на святы 1 Мая, 9 Мая і 7 лістапада па ўсёй Беларусі адбываліся дэманстрацыі працоўных. Паспрабуй толькі не пайсці — будуць непрыемнасці на працы. І людзі хадзілі. Дэманстрацыі ў Слоніме адбываліся на Першамайскай вуліцы. На трыбунах стаялі кіраўнікі гаркама партыі, райвыканкама і райсавета. А людзі праходзілі побач з рознымі плакатамі, стэндамі, партрэтамі членаў ЦК КПСС і махалі рукамі тым, хто стаяў на трыбуне. Кожны ішоў са сваім калектывам, так, як напрыклад, на гэтых здымках ішлі працоўныя Слонімскай фабрыкі мастацкіх вырабаў 42 гады таму на Першамайскай і Кастрычніцкай дэманстрацыях.

## Рынак, 1980-я гады

Не памятаю, кім са слонімскіх журналістаў быў зроблены гэты здымак на слонімскім цэнтральным рынку ў 1980-х гадах. Пры ўваходзе на рынак дворнік сабраў смецце, лісце і спаліў. А на рынку ўжо збіраліся гандляры, найперш з вёсак, якія прывезлі прадаваць малако, масла, смятану, тварог і іншыя вясковыя ласункі. Вось такія дрэвы раслі на нашым рынку і такія былі крытыя прылаўкі… Што было — тое сплыло…





Рынак, 1980-я гады







## Аляксандр Звяровіч

Слонімскі спявак Аляксандр Звяровіч быў цыганом па нацыянальнасці. Цудоўны, таленавіты хлопец, які любіў і ўмеў спяваць. Прыгадаўся ён мне, хоць слонімцы пра яго ўжо даўно забыліся, як і пра многіх знакамітых землякоў, хто пакінуў гэты свет.

Аляксандр Звяровіч працаваў салістам Гродзенскай філармоніі. Прымаў удзел у 40 розных эстрадных конкурсах і фестывалях, меў каля 30 званняў. Спяваў беларускія, рускія і цыганскія песні. На жаль, лёс яму адмераў толькі 36 гадкоў.

## Шарж-малюнак на Алега Лойку

1 мая — дзень нараджэння аднаго са знакамітых слонімцаў XX — пачатку XXI стагоддзя: прафесара, доктара філалагічных навук, пісьменніка Алега Лойкі. Пры жыцці ён выдаў шмат кніг, сярод якіх кнігі пра Францішка Скарыну, Янку Купалу, Максіма Багдановіча, Адама Міцкевіча і інш. У сваім хатнім архіве адшукаў сяброўскі шарж-малюнак на Алега Антонавіча, намаляваны беларускім мастаком Міколам Гіргелем у 1992 годзе. Мастак вельмі добра перадаў характар Алега Антонавіча.



## Герб Слоніма на паштовай марцы і запалках

ААТ «Барысаўдрэў» і запалкі з гербам горада Слоніма. Герб наш горад атрымаў, дзякуючы выдатнаму дзяржаўнаму і грамадскаму дзеячу Вялікага Княства Літоўскага Льву Сапегу. Па яго хадайніцтве Слоніму каралём Жыгімонтам III 4 студзеня 1591 года быў нададзены герб: на блакітным шчыце залаты леў стаіць на задніх лапах і трымае срэбную стралу ў выглядзе падвойнага крыжа.



## Аўтарамонтны завод, 1995 год

Пляцоўка перад Слонімскім аўтарамонтным заводам (вуліца Чырвонаармейская) 25 гадоў таму. Тады яшчэ працаваў завод, праз прахадную выязджалі машыны і спяшаліся людзі на працу і дамоў. Цяпер нічога падобнага няма, засталіся толькі памяшканні. Сам завод браў свой пачатак яшчэ з маленькіх майстэрняў з 1939 года. У вайну іх разбурылі. Пасля вайны майстэрні зноў запрацавалі на рамонце аўтамабіляў ЗІС-5 і рухавікоў да ГАЗ-51. А з 1960 года майстэрні сталі шынарамонтным заводам, а потым — аўтарамонтным заводам. У самым пачатку 2000-х гадоў завод пачаў рабіць капітальны рамонт аўтобусаў сямейства ЛАЗ. Але ўсё гэта скончылася для яго крахам.






## Пад надзейная аховай

Некалькі гадоў таму зрабіў гэты здымак каля нашага Слонімскага краязнаўчага музея імя Стаброўскага. Якраз адзначаўся Дзень музеяў. За плячыма дзетак стаяў гэты Мішка з залы прыроды музея. Як быццам жывы. І дзеткі спакойныя глядзяць, што адбываецца на пляцоўцы каля музея. Глядзяць пад надзейнай аховай Мішкі Касалапага. Можа, хто



і пазнае сваіх дзетак. Здымак файны. І дзеткі прыгожыя з Мішкай за плячыма.

## Паштоўка па-беларуску і па-польску

Паштоўка была выпушчана ў канцы 1990-х ці напачатку 2000-х гадоў. Яе падрыхтаваў Слонімскі раённы аддзел Саюза палякаў Беларусі. Была надрукавана па-беларуску і па-польску.

На паштоўцы адлюстраваны касцёл Святога Андрэя, касцёл Бязгрэшнай Дзевы Марыі, канал Агінскага. Добрая і прыгожая паштоўка на памяць пра наш Слонім.




## Дажынкі-2014

У пятніцу, 14 лістапада 2014 года, у Слоніме адбыўся Гродзенскі абласны фестываль-кірмаш працаўнікоў вёскі «Дажынкі-2014».

Амаль чатыры месяцы будаўнікі з усёй Гарадзеншчыны добраўпарадкоўвалі цэнтр горада над Шчарай. Паміж вуліцамі Карла Маркса і Чырвонаармейскай насупраць райвыканкама ў Слоніме з'явілася новая вялікая плошча з трыма фантанамі. Да Дажынак новы выгляд атрымаў і раённы цэнтр культуры, дзе і праходзілі цырымоніі ўручэння прэмій пераможцам абласнога спаборніцтва па ўборцы ўраджаю 2014 года і святочны канцэрт.



Падчас Дажынак быў адкрыты спартыўны комплекс пасля рамонту і ўсталяваны памятны знак «Герб горада Слоніма» на новай плошчы горада.

## Прыгажуні, 2005 год

Здаецца, зусім нядаўна адбываўся ў Слоніме гэты конкурс прыгажунь школы мадэляў «ЛеОнА», якой кіраваў таленавіты наш зямляк Віталь Жылінскі. Конкурс меў назву «Каралева лета». А ўжо прайшло 14 гадоў. Да конкурсу быў выпушчаны арыгінальны і прыгожы буклет са слонімскімі прыгажунямі. Як склаўся іх лёс і дзе сёння гэтыя дзяўчаты — слонімцы, магчыма, ведаюць.






Гледзячы на гэты буклет і нашых сланімчанак, хочацца сказаць, што і ў нашым Слоніме зрэдчас адбываецца нешта сур'ёзнае, цікавае і вартае, якое сяды-тады і прыгадваецца.



## Паштоўка з Польшчы, 2006 год

Слонімская паштоўка была выдадзена ў Польшчы ў Шчэціне ў 2006 годзе. У выданні паштоўкі парупіліся фірма IBB, Institut für angewandte Geschichte, фонд Льва Сапегі і ТБМ. Паштоўка была выдадзена вялікім накладам, але не ўсе слонімцы яе мелі. На адваротным баку паштоўкі напісана: «У пошуках слонімскіх скарбаў». Фотаздымкі Кацярыны Янушэвіч са Слоніма і Уладзіміра Хільмановіча з Гродна.

## Паштоўка з Рыма

Італьянская паштоўка з выявай слонімскага касцёла Святога Андрэя выйшла з друку ў Рыме (выдавец Pontificium Collegium Russicum) у пачатку 1990-х гадоў. Аўтар паштоўкі — слонімскі мастак Сяргей Кірык, які тады працаваў мастаком у Слонімскім драмтэатры, а цяпер жыве ў Мінску.

Паштоўка была выдадзена вельмі прыгожа і па-беларуску. Яе і сёння прыемна ўзяць у рукі.

## Слонімцы — на паштоўках

У 2008 годзе разам з Алесем Масюком і Сяргеем Яршом выпусцілі тры паштоўкі, прысвечаныя знакамітым асобам Слонімшчыны. Здаецца, гэта было зусім нядаўна і мы, радасныя, трымалі ў руках гэтыя паштоўкі. Вядома ж, найбольш яркімі асобамі слонімскай зямлі былі Леў Сапега, Міхал Казімір Агінскі і Міхал Валовіч. Але, у прынцыпе, і многія іншыя асобы заслугоўваюць ушанавання памяці на паштоўках.















Слонімцы — на паштоўках

## «Рогі-ногі» для сінагогі

Колькі сябе памятаю, столькі дзесяцігоддзяў аднаўляюць у Слоніме сінагогу — самы стары помнік (пабудавана ў 1642 годзе) горада над Шчарай. Праўда, у 1970–1980-я гады пра аднаўленне выдатнага помніка архітэктуры эпохі барока з архітэктурна-кампазіцыйнымі прыёмамі, характэрнымі для манументальнага дойлідства Беларусі XVII стагоддзя і арыгінальным арнаментальна-дэкаратыўным вырашэннем інтэр'ера, ніхто і не думаў. Ды і будынак сінагогі тады прыносіў гараджанам «карысць». Адна з залаў сінагогі была пераабсталявана пад мясную краму. Яе слонімцы і вяскоўцы з раёна называлі «Рогі-ногі». Бо ўнутры гэтай крамы былі прымацаваныя да сцяны вялікія жалезныя рогі, галовы ад каровы і свінні. Там усе куплялі мясныя вырабы. І заўсёды каля сінагогі і «Рог-ног» былі вялікія чэргі.

Потым «Рогі і ногі» хутка зніклі. І замест іх у сінагозе зрабілі мэблевы склад. А з правага боку ад галоўнага ўвахода неяк адкрылі малочны бар. Бар карыстаўся вялікім попытам, бо там можна было выпіць смачны малочны кактэйль, сок, з'есці піражнае. Таму часцей за ўсё ў малочны бар у сінагозе заходзілі мамы і таты са сваімі дзецьмі. Сінагога была зручным месцам для падобных устаноў, бо знаходзіцца ў самым цэнтры Слоніма.

Калі старшынёй Слонімскага гарсавета быў Алег Лакцюшын, а гэта былі 1995–2002 гады, сінагогу, дзякуючы яўрэям Ізраіля, удалося схаваць пад добры дах. Хут-



кае разбурэнне помніка спынілася. Таму ўдалося захаваць унутраны дэкор. У цэнтры шырокай залы ўсталявана біма — узвышэнне для выканання рэлігійных абрадаў. Купал бімы дэкарыраваны стукавым паліхромным арнаментам з лісця аканта і пальмет. Усё гэта і шмат чаго іншага ўнутры помніка захавалася.

Шмат гадоў яўрэйскі дом малітваў знаходзіўся ў запусценні. А потым у 2001 годзе сінагогу вярнулі яўрэям. Вярнулі з надзеяй, што сінагогу адновяць, а праз пэўны час у ёй адкрыюць рэспубліканскі музей яўрэйскага мастацтва. Але да сённяшніх дзён ніякіх рэстаўрацыйных работ у сінагозе не праводзілася і не праводзіцца.

З усяго свету едуць яўрэі ў Слонім, каб паглядзець на сінагогу. У Ізраілі нават паштовая марка выйшла, прысвечаная слонімскай сінагозе. З Ізраіля яўрэі едуць у Слонім, з ЗША едуць, а цяпер нядаўна і з Вялікабрытаніі прыязджалі. Усе едуць паглядзець на сусветную яўрэйскую прыгажосць, якая разбураецца. І дырэктар фонду яўрэйскай спадчыны Майкл Мэйн, і сябра каралеўскага таварыства мастацтваў з Вялікабрытаніі і дырэктар міжнароднай дабрачыннай арганізацыі «The Together Plan» Дэбра Брунэр, і старшыня міжнароднай грамадскай дабрачыннай арганізацыі «Дыялог» Артур Ліўшыц, і ўнук былых слонімскіх яўрэяў Саймон Каплінскі, і ўнукі і праўнукі слонімскіх яўрэяў з Францыі, Польшчы, Германіі, Ізраіля, ЗША і іншых краін. Гэта вельмі багатыя людзі. Прыязджаюць усе… Паглядзяць, паабяцаюць і знікаюць на пэўны час. А потым зноў едуць і зноў абяцаюць. А сінагога ў Слоніме застаецца адна, як удава. І разбураецца, знішчаецца…



## Ізраільская марка з сінагогай

Блок марак з выявай слонімскай сінагогі выпускаўся ў Ізраілі, здаецца, у 2014 годзе. На адной з іх размешчана выява запаленай свечкі і сінагогі. Сінагога ў Слоніме была пабудавана ў стылі барока падчас росквіту культуры і мастацтва яўрэйскага народа на беларускіх землях. Яна дзейнічала да 1940 года. Гэта адзіная сінагога ў Беларусі, дзе захаваўся ўнутраны дэкор.

## Вадапад у Альбярціне, пачатак ХХІ стагоддзя

Вельмі любілі слонімцы і госці нашага горада вось гэты вадапад у Альбярціне. Любілі пастаяць на металічным мосціку і глядзець уніз, як падае вада. Смельчакі заходзілі пад мост і станавіліся пад падаючую зверху ваду. Цікавае было месца. Цяпер вадапада ў Альбярціне няма. Ёсць проста азярцо.



Вадапад у Альбярціне, пачатак ХХІ стагоддзя

## Зніклі «Мадэрн» і «Мір»

У сакавіку 2016 года ў Слоніме закрылі апошні савецкі кінатэатр «Мір». Ён быў урачыста адкрыты на кастрычніцкія святы 1959 года. Праўда, пасля Другой сусветнай вайны да кінатэатра «Мір» у Слоніме дзейнічалі ўжо два кінатэатры — «17-е верасня» і «Зара». Кінатэатр «17-е верасня» месціўся на вуліцы Пушкіна ў будынку сённяшняй падатковай інспекцыі, а кінатэатр «Зара» — на вуліцы Мінскі тракт. Кіно ў Слоніме паказвалі яшчэ ў клубе газаправода на Брэсцкай вуліцы.

Па словах былога дырэктара гарадскіх кінатэатраў Слоніма Віктара Шчарбакова, які ўсё жыццё адпрацаваў на ніве слонімскага кіно, у 1950–1980-я гады ўсе кінатэатры горада выконвалі планы па наведванні гледачамі кінатэатраў. «Людзі вельмі актыўна і з радасцю хадзілі ў кіно. Напрыклад, кінатэатр "Мір" 6 разоў на дзень паказваў фільмы. Першы сеанс быў у 10 гадзін, апошні — у 21 гадзіну. А калі не хапала колькасці наведвання кінатэатраў гледачамі да месячнага плана, то прывозілі які-небудзь індыйскі фільм, і тады залы слонімскіх кінатэатраў былі поўныя, бо людзі ў савецкі час вельмі любілі індыйскія фільмы. Даволі часта слонімскія кінатэатры паказвалі і праводзілі розныя кіналекторыі для школьнікаў і настаўнікаў, дапаўняючы іх спецыяльнымі дакументальнымі і мастацкімі фільмамі.



Так выглядаў кінатэатр «Мір» у Слоніме ў 1960-х гадах



Слонімец Віктар Шчарбакоў
каля кінатэатра «Мір», 1960 год

І ўсе з вялікай ахвотай наведвалі падобныя мерапрыемствы», — успамінае Віктар Шчарбакоў.

У 1980-я гады пры кінатэатры «Мір» існаваў кінаклуб «Прамень» для аматараў праблемных фільмаў. Яго задачай было — паказаць гледачам творы вядучых майстроў савецкага кіно, якія адрозніваліся не весялосцю і камедыйнасцю, а глыбінёй і сур'ёзнасцю жыццёвых праблем і якія патрабавалі абмеркавання і разваг. Перад кінасеансамі ў кінатэатры выступалі кіназнаўцы, а асобныя фільмы абмяркоўваліся з мэтай больш глыбокага разумення іх па форме і зместу. Спецыяльна для сяброў кінаклуба «Прамень» у Слонімскай друкарні выпускаліся абанементы, у якіх былі надрукаваны тэмы фільмаў на некалькі месяцаў наперад.

Выпускала адміністрацыя кінатэатра «Мір» і праграмкі кіналекторыяў на самыя розныя тэмы: напрыклад, «Салют, піянерыя!», «Закон і ты» і г. д.

Як прыгадвае Віктар Шчарбакоў, у кінатэатры «Мір» працавалі вельмі таленавітыя мастакі, якія афармлялі рэкламныя стэнды. Гэтыя стэнды з малюнкамі і назвамі фільмаў вывешваліся каля ўсіх кінатэатраў горада. Вельмі прыгожа і па-мастацку прафесійна працаваў мастак Генадзь Зайцаў. Яму дапамагаў Канстанцін Бармашоў-Аляксееў.

Слонімскіх кінатэатраў «17-е верасня» і «Зара» даўно ўжо ў горадзе над Шчарай няма. Знік непрыкметна і клуб газаправода. У ім цяпер адкрыта крама. Чарга дайшла і да кінатэатра «Мір», які таксама развітаўся са сваімі гледачамі. Слонімцы кіно 2D і 3D цяпер могуць паглядзець у Цэнтры культуры на Чырвонаармейскай вуліцы.

Да ўсяго сказанага вышэй хочацца яшчэ дадаць, што ў 1920–1930-х гадах у Слоніме быў прыватны кінатэатр «Мадэрн» Юзафа Ельяна. Ён праіснаваў да верасня 1939 года. Кінатэатр «Мадэрн» карыстаўся ў слонімцаў вялікай папулярнасцю, асабліва ў тых, хто меў грошы яго наведваць. У кінатэатры ў асноўным дэманстраваліся замежныя фільмы. Гэтыя фільмы вельмі хацелі паглядзець не толькі багатыя асобы Слоніма, але і бедныя. Найперш кінатэатр быў цікавы дзецям і падлеткам. Вось як успамінае пра той час Барыс Данілюк у сваёй кнізе «Азіраючыся расой выетымі



вачыма» (Мінск, 2012. С. 107): «Ванька Краўчук умеў адчыняць запасныя дзверы ў Ельянавым кіно, і мы з ім колькі разоў пралазілі туды ды бясплатна аглядалі новыя, найбольш амерыканскія фільмы».

## Новая капліца замест старой, якую асвятляў слуцкі паўстанец, 2018 год

У вёсцы Гуменікі Слонімскага раёна 21 красавіка 2018 года ўрачыста адкрылі і асвяцілі праваслаўную драўляную капліцу, якую пабудавалі слонімскія мастакі і будаўнікі. Яна з'явілася амаль па тым праекце, паводле якога была тут пабудавана і асвечана ў 1923 годзе Хведарам Данілюком (1887–1960) і Паўлам Лысухам (1892–1954). Хведар Данілюк і Павел Лысуха былі родам з суседняй вёскі Сурынка. Хведар Данілюк у 1919–1920 гадах служыў у Беларускай вайсковай камісіі, прымаў удзел у Слуцкім паўстанні. У 1921 годзе прыняў святарскае пасвячэнне. Павел Лысуха атрымаў рэлігійную адукацыю, служыў пэўны час псаломшчыкам-рэгентам, а ў 1923 годзе яго пасвячаюць у сан дыякана. Потым ён жыў у Беластоку, служыў там вікарным святаром Свята-Мікалаеўскага праваслаўнага кафедральнага сабора. У Беластоку Павел Лысуха даслужыўся да протаіерэя, пражыў там 27 гадоў.

Настаяцель прыхода храма Святога прарока Ільі ў вёсцы Сурынка протаіерэй Генадзь Логін паказаў крыж і шыльдачку з датай аднаўлення капліцы Хведарам Данілюком і Паўлам Лысухам. Па словах святара Генадзя Логіна, тая старая капліца зусім згніла і яе нават немагчыма было рэстаўраваць і аднавіць. Таму было вырашана



пабудаваць новую падобную капліцу, якую дапамаглі аднавіць мясцовыя жыхары, а таксама фундатар Аляксандр Севасцьян, якога архіепіскап Наваградскі і Слонімскі Гурый узнагародзіў медалём прападобнага Елісея Лаўрышаўскага, а граматай — Рыгора Жука, Міхаіла Севасцьяна і Ганну Грэшчык.



Уладзімір Янушэвіч

## Фотамайстар Уладзімір Янушэвіч

13 лютага 2019 года раптоўна не стала аднаго з самых лепшых фатографаў Слоніма Уладзіміра Янушэвіча. Нечаканая смерць ашаламіла ўсіх слонімцаў і найперш яго родных і сяброў, а таксама прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі горада. Уладзіміру Янушэвічу было толькі 52 гады.

Кожны слонімец ведаў Уладзіміра Янушэвіча як шчырага чалавека, выдатнага арганізатара, добрага сябра і фатографа-прафесіянала. Ён сумленна працягваў працу слонімскіх вядомых і малавядомых майстроў-фатографаў XX стагоддзя. Уладзімір з'яўляўся аўтарам шматлікіх камплектаў здымкаў, буклетаў, альбомаў, прысвечаных роднаму Слоніму і яго ваколіцам. У яго былі сотні задумак і планаў, каб на фотаздымках і кінафільмах захаваць Слонім і людзей такімі, якія яны ёсць сёння. Дзякуючы Уладзіміру Янушэвічу ў Слоніме быў арганізаваны шэраг гарадскіх мерапрыемстваў, сустрэч, конкурсаў. Уладзімір любіў родны горад і сваіх землякоў, а Слонім і гараджане любілі яго.



Камплекты слонімскіх сувенірных паштовак Уладзіміра Янушэвіча



## Жыровіцкі фэст, 20 мая 2019 года



У вёсцы Жыровічы штогод 20 мая адбываецца Жыровіцкі фэст, прысвечаны іконе Жыровіцкай Божай Маці. Свята заўсёды пачынаецца з самай раніцы богаслужэннем. А потым адбываецца акафіст перад цудатворнай іконай Божай Маці і святочны фестываль-канцэрт.

Святочны канцэрт праходзіць да позняга вечара на сцэне-караблі каля старой жыровіцкай крыніцы. Сотні людзей не толькі пакланяюцца святой іконе, але і глядзяць выступленні харавых калектываў, вакальна-інструментальных ансамбляў, розных салістаў і паэтаў з усіх куткоў Беларусі, якія прыязджаюць на свята ў Жыровічы.

## Слонімскі край

Тры гады выдаецца гісторыка-краязнаўчае электроннае выданне «Слонімскі край». Падрыхтавана і пабачыла свет ужо 37 нумароў. Калі ўсе нумары сабраць у адзін том (кожны нумар мае 20 старонак), то атрымаецца вялікая кніга пра Слонім. «Слонімскі край» на сваіх старонках адлюстроўвае падзеі ад далёкай старажытнасці да сённяшніх дзён. У выданні чытачы знаходзяць шмат новых і цікавых фактаў пра людзей, помнікі, войны, мірнае жыццё. У ім апісваюцца і даследуюцца вёскі і вуліцы Слоніма, раскрываюцца розныя таямніцы і загадкі слонімскай зямлі. У «Слонімскім краі» друкуецца вельмі шмат фотаздымкаў, многія з якіх з'яўляюцца ў друку ўпершыню.



Слонімскі край

2018, № 5(27). Травень

### Ад сабора ў бок цяперашняга помніка Леніну ішоў падземны ход

20 гадоў таму аўтарам гэтых радкоў былі запісаныя ўспаміны жыхара Слоніма, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны 74-гадовага Рыгора Захаравіча Зайцава. Яны прысвечаныя падзямеллям у нашым горадзе.* Зайцаў у пасляваеннае дзесяцігоддзе неаднаразова сутыкаўся з імі ў розных месцах (Спаса-Праабражэнскі сабор, пл. Леніна і яе наваколле) ды мог параўнаць выяўленыя тунэлі, іх памеры, цэглу. Ён быў перакананы, што самы вялікі тунэль ішоў ад Спаса-Праабражэнскага сабора да Свята-Троіцкага сабора (былых касцёлаў). Падкрэслю, што Рыгор Зайцаў ведаў гэта не з чужых слоў, ён асабіста ў яго спускаўся. У гэтым нумары

*Скрыжаванне цяперашніх вуліц Пушкіна, Янкі Купалы, Першамайскай. Здымак часоў Першай сусветнай вайны. На вуліцы каля каменнага плоту сабора агароджаны правал.*

з мінімальнымі купюрамі.

Есць і скептыкі. У верасні 2011

та выступіў былы кіраўнік жыллёва-камунальнай гаспадаркі

## Аўтар кнігі пра Парэчча

Аляксандр Талерчык (1932–2016) быў родам з вёскі Парэчча Слонімскага раёна. Пра сваю родную вёску ён напісаў і выдаў кнігу, якая так і называецца — «Парэчча». У ёй на аснове адшуканых архіўных матэрыялаў і асабістых успамінаў аўтар паказаў 450-гадовую гісторыю сваёй вёскі Парэчча. Шмат старонак у ёй адведзена Валовічам — былым гаспадарам Парэчча. Падрабязна і ўпершыню ў Беларусі даследчык апісаў патрыятычную дзейнасць і смерць Міхала Валовіча, актыўнага ўдзельніка паўстання 1830–1831 гадоў. Дзякуючы Аляксандру Талерчыку на могілках у вёсцы Парэчча быў адноўлены мемарыяльны знак, прысвечаны Валовічу і яго паплечнікам. Ён фінансаваў аднаўленне гэтага знаку.

У сваёй кнізе пра родную вёску Аляксандр Талерчык таксама цікава напісаў пра лёс вясковых настаўнікаў і святароў, якія працавалі і служылі ў Парэччы. Аўтар паказаў няпростае жыццё вяскоўцаў у калгасе, іх пакуты і праблемы падчас Першай і Другой сусветных войнаў…

Аляксандр Талерчык усё жыццё цікавіўся гісторыяй сваёй Бацькаўшчыны, хоць паводле адукацыі ён быў інжынерам, а не гісторыкам.



Аляксандр Талерчык

## Ён хацеў упрыгожыць Слонім

У апошні дзень красавіка 2017 года трагічна загінуў адзін з таленавітых людзей Слоніма — Леанід Богдан, якога ад нараджэння Бог надарыў талентам мастака.

Ён назаўсёды звязаў свой лёс з родным Слонімам, які вельмі моцна любіў і хацеў, каб яго горад над Шчарай быў самым прыгожым у Беларусі і яго штогод наведвалі тысячы турыстаў з усіх краін свету.

У 1970–1980-х гадах Леанід Богдан працаваў у Слоніме мастаком-афарміцелям. Ён сур'ёзна захапіўся скульптурай, а потым гісторыяй роднага краю, біяграфіяй яго знакамітых людзей. Леанід Богдан стаў шмат чытаць, знаходзіць матэрыялы па гісторыі Слонімшчыны, Беларусі, гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. І вядома ж, ствараць партрэты знакамітых людзей.

Дзякуючы Леаніду Богдану мы маем у Слоніме мемарыяльную шыльду, прысвечаную заснавальніку Слонімскага краязнаўчага музея Язэпу Стаброўскаму, якая прымацавана на будынку музея. Ён стварыў і прымацаваў на будынку Слонімскага драмтэатра шыльду, прысвечаную Міхалу Казіміру Агінскаму (1730–1800) — пачынальніку тэатральнага мастацтва на Слонімшчыне. І ўсё гэта Леанід Богдан зрабіў бясплатна і падараваў Слоніму.



Леанід Богдан

На вуліцы Савецкай у Слоніме захаваўся будынак другой паловы XVIII стагоддзя, пабудаваны архітэктарам Боем, які ён праектаваў пры палацы Міхала Казіміра Агінскага. Пры палацы Агінскага ў гэтым будынку была аўстэрыя (заезны дом). Яна сёння нагадвае слонімцам і гасцям горада пра Міхала Казіміра Агінскага. Некалі свой Слонім Агінскі ператварыў у «сядзібу музаў», вядомую ва ўсёй Еўропе, але сёння амаль забытую ў Беларусі. Слонімскі скульптар Леанід Богдан стварыў бюст Міхала Казіміра Агінскага. Леанід Богдан марыў у спецыяльнай арцы прымацаваць яго на былой аўстэрыі Агінскага, каб слонімцам і гасцям горада над Шчарай было бачна, хто з'яўляўся некалі яго гаспадаром.

На вуліцы Опернай у Слоніме быў пастаўлены вялікі валун, на якім выбіты тэкст: Замчышча. XI—XVIII стст. Гэта таксама работа Леаніда Богдана. Дарэчы, Слонімскі замак (замчышча) — назва старажытнага цэнтра Слоніма, а таксама шэрагу палацава-паркавых комплексаў, пабудаваных на яго месцы ў XI—XVIII стагоддзях. Спачатку быў пабудаваны драўляны астрог, потым дзядзінец, а пазней — драўляны замак на высокім насыпе з падпорнай сценкай з вялікіх камянёў, які быў разбураны пасля 1506 года. У 1520 годзе ён быў перабудаваны ў невялікі драўляны палац з залай пасяджэнняў, дзе ў другой палове XVII стагоддзя адбываліся генеральныя сеймікі. Палац быў абнесены драўлянымі гароднямі з вежамі. Цяпер пра замчышча ў Слоніме нагадвае вялікі валун. Гэты самы валун будзе нагадваць і пра скульптара Леаніда Богдана.

Адной з апошніх нашай сумеснай паездкай з Леанідам была вандроўка ў вёску Орлавічы на магілу Стаброўскіх. Адзін з іх — Язэп Стаброўскі — быў заснавальнікам Слонімскага краязнаўчага музея. Мы прыбралі магілы, запалілі свечкі, а Леанід, гледзячы на драўляныя крыжы, маўчаў. Ён глыбока нешта думаў, а потым сказаў: «Нельга, каб былі такія магілы Стаброўскіх. Іх трэба добраўпарадкаваць і паставіць сучасныя помнікі. Я зраблю іх праекты, а пасля будзем усе разам думаць пра помнікі. Ды і дарога сюды павінна быць вартая, дарога да Стаброўскіх». Мы пагадзіліся. А па дарозе ў Слонім Леанід

распавядаў пра свае новыя планы, найперш звязаныя з каналам Агінскім і з праектам па добраўпарадкаванню канала, удзел у якім ён ужо актыўна прымаў. Але трагічны лёс ўсе яго планы раптоўна і назаўсёды перакрыжаваў.

### Фестываль «Паланэз», 2019 год

У канцы траўня ў Слоніме адбыўся 15-ы па ліку традыцыйны фестываль «Паланэз». За гэтыя гады ў ім прымалі ўдзел госці не толькі з Беларусі, але і з Польшчы, Літвы, Латвіі, Украіны, Расіі, Германіі. Спачатку фестываль пачынаўся ад пажарнай вежы, што знаходзіцца на вуліцы Пушкіна, а ў апошнія гады — з набярэжнай канала Агінскага. Пасля ўрачыстай лінейкі ўсе удзельнікі фестывалю праходзяць калонай да Цэнтра культуры, дзе адбываюцца конкурсныя выступленні.




## Змест

Навукова-папулярнае выданне

**Чыгрын** Сяргей Мікалаевіч

**СЛОНІМШЧЫНА**
**Гістарычныя нататкі**

Рэдактар *С. І. Міхайлава*
Мастацкае афармленне *А. Г. Званарова*
Мастацкі рэдактар *В. Г. Загародні*
Тэхнічны рэдактар *С. Л. Печанёва*
Карэктар *Н. Г. Баранава*




Падпісана да друку 17.07.2019. Фармат $70 \times 100^{1}/_{16}$ .
Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 10,4. Ул.-выд. арк. 9,1. Тыраж 00 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларусь».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/4 ад 09.07.2013.
Пр. Пераможцаў, 11, 220004, Мінск, Рэспубліка Беларусь.
http://belarusbook.by

Вытворчае даччынае ўнітарнае прадпрыемства
«Друкарня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/18 ад 26.11.2013.
Пл. Свабоды, 23-103, 220030, Мінск, Рэспубліка Беларусь.